ЛіМ
ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
27 мая 1994 г. № 21 (3743) Кошт 150 руб.





# МАЎКЛІВАЯ МУЗЫКА



Работы яго заўжды вылучаліся на ўсіх экспазіцыях. У іх адчувалася нястрыманая вобразнасць і незалежнасць ад навамодных уплываў і сяброўскіх парад. Зрэшты, менавіта такое ўражанне засталося ад гутаркі з мастаком падчас нядаўняга выпадковага наведання яго майстэрні. Сама размова, праўда, не запомнілася, затое, ярка акрэсленыя, адбіліся ў памяці работы, што на персанальнай выставе ў Нацыянальным мастацкім музеі былі названы цыклам «Хрысціянская міфалогія». Не забылася і тая ўвага, што надаваў Алесь вобразу рыбы, не растлумачваючы гэты галоўны сімвал хрысціянства, а дазваляючы фантазіі ўзбагаціць яго асабістым разуменнем.

На выставе цыкл кідаецца ў вочы першым. Сапраўды, адвечная тэма не старэе, са сталеннем работы і зменамі часу яна толькі набірае моц. І «Патаемная вячэра» з мёртвай рыбай на стале, што ніяк не падпадае пад класічнае вырашэнне тэмы, і «Святы Юры», і «Зорка радасці», што свеціцца таямнічым залатым агнём, — гэта шэраг разваг на тэму быцця, шляху, чалавечай існасці. Яны стылёва, зрокава, тэматычна — адна кампазіцыя, знешне падпарадкаваная прынцыпам іканаграфіі (колеры, постаці, спрошчанасць фігур і кампазіцыі). Але асобна ад іншых кожная мае сваю самакаштоўнасць і сваё жыццё.

*(Працяг на стар. 11)*



# КОЛА ДЗЁН

***Палітычны каляндар не супадае з прыродным. Тут натуральныя з'явы — адліга сярод зімы і замаразкі ў жніўні. «Гарачае лета» на Беларусі пачалося ў той момант, калі Вярхоўны Савет прызначыў дату прэзідэнцкіх выбараў. Нядоўга засталося чакаць... А што будзе потым? А потым будзе альбо Сакавік, альбо Кастрычнік, альбо веснавое Адраджэнне, альбо «[illegible] враждебные»...***

## СВЯТА ТЫДНЯ

24 траўня ў Беларусі, на Украіне, у Расіі, шэрагу іншых краін адзначылі Дзень славянскай пісьменнасці і культуры. У краінах СНД свята прайшло ў палітызаваным рэчышчы з выразна праваслаўным ухілам. Нібыта католікі, уніяты, а тым болей атэісты — не славяне.

## ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

«Белорусское правительство взяло кредит под выборы»
*(А. Старыкевіч, «Известия», 21 траўня).*

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ ТЫДНЯ

Гэтая падзея мінулага тыдня не трапіла ў мінулае «кола дзён», таму прыгадваем зараз. Пасля таго, як 18 траўня Праўленне Нацыянальнага банка прыняло пастанову аб наданні беларускаму рублю статуса адзінага плацёжнага сродку ў Рэспубліцы Беларусь, старшыня праўлення С. Багданкевіч наладзіў прэс-канферэнцыю. Аб'яднанне грашовых сістэм на ўмовах Расіі нявыгадна Беларусі, больш таго — гэта рэальная пагроза суверэнітэту нашай краіны, бо становіцца непатрэбным Нацыянальны банк Беларусі, а ў перспектыве і Вярхоўны Савет Беларусі, — адзначыў сп. Багданкевіч. Распаўсюджванне на Беларусь расійскіх нарматыўных актаў робіць для нас немагчымай уласную палітыку. А разлічваць на высокую кампетэнтнасць і адказнасць расійскага боку, паводле ўжо існуючага вопыту ўзаемаадносін нашых краін, нельга. Фактычна на сённяшні дзень у нас няма не толькі аб'яднання грашовых сістэм, але нават і мытнага саюза, які павінен быў уступіць у сілу з 1 траўня. «Як толькі Расія вырашыла адмяніць для нас мытныя зборы, яна тут жа ўвяла акцызы і дадатковыя плацяжы за транспарт — і цана пастаўляемай з Расіі прадукцыі стала блізкай да ранейшай... Кошт сыравіны, матэрыялаў і камплектуючых з Расіі не знізіўся і па сённяшні дзень». Вывад Багданкевіча: трэба ўмацоўваць сваю валюту. «Да таго часу, пакуль наш банк будзе Нацыянальным, я не падпішу тэкст такога дагавора, які ліквідаваў бы яго нацыянальнасць. Калі ж парламент прыме іншае рашэнне, тады ў банка будзе іншы старшыня».

## НАВАДРУК ТЫДНЯ

Гарэлка «Белая Русь», Славянскі сабор «Белая Русь»... Цяпер яшчэ і газета «Белая Русь» (прычым такога ж зместу і кірунку). Пазначана, што газета — «орган незалежнага прафсаюза». Пра тое, які «незалежныя» выдаўцы «Белай Русі», гаворыць першая паласа газеты. Тут змешчаны вялікі партрэт В. Кебіча і інтэрв'ю з ім, у якім Старшыня Саўміна прадстае перад чытачом «бацькам нацыі» і ўжо абраным Прэзідэнтам.

А ніжэй, пад рубрыкай «Замест фельетона», надрукаваны опус «Хай усе будуць прэзідэнтамі», змест якога — хамскія выпады супраць канкурэнтаў Кебіча ў выбарчай барацьбе С. Шушкевіча, Г. Карпенкі, З. Пазняка, А. Лукашэнкі (пра апошняга гаворыцца намёкам).

## СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

«Ёсць чалавек, праваслаўны святар з Германіі, які асабіста бачыў крыж святой Ефрасінні Полацкай і пакляўся на крыжы, што ён не знішчаны». Гэта сказаў у Вільні, на святкаванні 75-годдзя беларускай гімназіі, міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка. Няўжо гэта праўда? Няўжо Бог аказаўся літасцівы да святыні нашага народа?

## УЛЁТКА ТЫДНЯ

Раней (ці замест?) расійскай валюты распаўсюдзіліся па Віцебску ўлёткі пад назваю: «Экономические и социальные последствия вхождения Республики Беларусь в рублёвую зону». У ёй выкладаецца пункт гледжання ўрада на грашовы саюз Беларусі і Расіі: гэты крок безальтэрнатыўны і прынясе нам велізарную карысць. Улёткі паступілі ў аблвыканкам праз спецыяльнага пасланца і былі тут жа распаўсюджаны. Што самае цікавае, дык гэта подпіс пад улёткай: «Инициативная группа». Чыя? Тэкст сведчыць аб тым, што хутчэй за ўсё — група падтрымкі В. Кебіча. Праўда, ніякіх выдавецкіх пазначэнняў на ўлётцы няма, і можна толькі здагадвацца, хто, дзе, як і дзеля чаго, а галоўнае — за чые грошы аддрукаваў яе і разаслаў па вобласці. Карэспандэнт «Народнай газеты», паведаміўшы пра гэты факт, зазначыў, што наконт паходжання ўлёткі «здагадацца няцяжка». Пэўна, яно сапраўды так.

## «АЛЕГОРЫЯ» ТЫДНЯ

У газеце «Мы и время» ў матэрыяле, які змешчаны на першай паласе, нехта Л. Борисов называе прыхільнікаў незалежнай Беларускай дзяржавы ідыётамі. А далей з прэтэнзіяй на досціп звяртаецца да чытача: «Надеюсь, читатели простят эту невинную аллегорию». Не хвалюйцеся, т. Барысаў, даруюць. Нельга крыўдзіцца на хворых. Хворых на камунізм...

## ПАЛОМНІЦТВА ТЫДНЯ



20 траўня ў Жыровічах, у Свята-Успенскім манастыры, прайшло святкаванне 500-годдзя з'яўлення Жыровіцкай іконы Божай Маці і 520-годдзе з дня заснавання манастыра. Але цэнтральнай фігурай святкавання была не славутая ікона, і нават не ўладыка Філарэт, а прэм'ер В. Кебіч, які, згодна паведамленню Белінфарма, «паломнікам наведаў манастыр», каб правесці там чарговы перадвыбарчы мітынг. Забыўшы, дзе ён знаходзіцца і з якой нагоды, прэм'ер-міністр, як звычайна, гаварыў на сустрэчы з вернікамі і духавенствам пра аб'яднанне грашовых сістэм.

З нагоды

# МІНСКАЕ РЭХА МАСКОЎСКАЙ ВАНДРОЎКІ

Нядаўнія вандроўкі Кебіча і Лукашэнкі на паклон у Белакаменную нагадваюць палітычныя гульні шасцісотгадовай даўніны і служаць доказам вядомай ісціны, што гісторыя мае тэндэнцыю да паўтораў. Калісьці маскоўскія, уладзімірскія ды іншыя ўдзельныя князі часцяком гасцявалі ў сталіцы Залатой Арды, дэманструючы сваю лаяльнасць татарскаму кіраўніцтву і выпрошваючы ў хана ярлык — грамату на «вялікае княжанне». Ну, а функцыі «вялікага князя» былі вельмі простымі: збіраць з насельніцтва падуладнай тэрыторыі даніну і перапраўляць яе ў кішэнь «старэйшага брата» — татарскага хана. А за службу той гарантаваў уладальніку ярлыка бяспеку ў выпадках народных узрушэнняў альбо замахаў на ягоную асобу і ўладу з боку палітычных апанентаў. Пасада «вялікага князя» лічылася хлебнай. Бо частку даніны можна было «прыхватызаваць» (вялікія здольнасці на гэтым попрышчы прадэманстраваў, у прыватнасці, маскоўскі князь Іван Каліта).

Расійскі гісторык Л. Гумілёў назваў гэта «сімбіёзам Русі і Арды». Такія стасункі, такі «сімбіёз» будзем мець і мы, калі прэзідэнтам стане адзін ці другі ваяжор, бо Лукашэнка і Кебіч — гэта два грыбы на адным корані.

Калі казаць пра вандроўку Аляксандра Рыгоравіча, дык у палітычных вярхах Расіі яна атрымала неадназначную ацэнку. «Чырвона-карычневае» крыло Думы ўспрыняло яго прамову з захапленнем і нават збіралася прыняць з гэтай нагоды нейкую рэзалюцыю. Людзі больш памяркоўныя рэагавалі інакш. «В Государственной Думе, судя по всему, открылся месячник дипломатической самодеятельности. Часть прошлого пленарного заседания коммуно-аграрии подарили какому-то человеку, который, взобравшись на трибуну, практически попросил Думу сделать его президентом Белоруссии, а уж он за это посадит 70 белорусских демократов-рыночников за решетку», — пісала газета «Московский комсомолец». Як кажуць, памры — лепей не скажаш!

Мабыць, такая актыўнасць канкурэнта на прэзідэнцкае крэсла падштурхнула і Вячаслава Францавіча да шукання долі ў Маскве. Але болей — усё ж падзеі ў фінансавай сферы.

18 траўня праўленне Нацыянальнага банка прыняло пастанову, падрыхтаваную яшчэ ў сакавіку. «Зайчык», які фактычна з'яўляецца нацыянальнай валютай, замацоўваецца ў гэтым статусе юрыдычна. І гэтая праява здаровага сэнсу б'е галоўны козыр кебічавай калоды — «аб'яднанне» грашовых сістэм, спадзяванні люмпенаў на расійскі рубель. У пастанове тлумачыцца, што праўленне Нацыянальнага банка пайшло на гэта, «зыходзячы з сітуацыі, якая склалася ў сферы грашовага абароту рэспублікі, беручы да ўвагі доўгатэрміновасць пераходнага перыяду па аб'яднанні грашовых сістэм Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь і немагчымасць захавання неакрэсленай сітуацыі з плацёжным сродкам у рэспубліцы».

Фармальна пастанова прынята дзеля хутчэйшага «аб'яднання» (бо перш чым аб'ядноўвацца, трэба высветліць, што з чым? А значыць, і юрыдычна акрэсліць статус «зайчыка»), а па сутнасці, яна ўмацоўвае суверэнітэт нашай краіны. І не ў малой ступені перакрэслівае намаганні пракебічавай прапаганды. Нашто былі гэтыя гульні ў «адзіную рублёвую зону», калі ўсё роўна давялося зрабіць тое, пра што колькі месяцаў назад гаварыў спадар Багданкевіч? Гэта ўдар па прэстыжы прэм'ер-міністра, па ягоным іміджы эканаміста і дальнабачнага палітыка. Колькі газетнай паперы і эфірнага часу пайшло на тое, каб гэты імідж стварыць!

Няцяжка ўявіць, аб чым за зачыненымі дзвярамі раіліся Чарнамырдзін і Кебіч. Наш прэм'ер-міністр няйначай прасіў грошай ці хаця б нейкай заявы, якая патрымала б у беларускім грамадстве рублёвыя ілюзіі. А расійскі прэм'ер даводзіў, што не паступіцца ніводнай літарай дагавора ад 12 красавіка, і калі Беларусі вельмі трэба рублі, дык хай яна ператварае свой Нацыянальны банк у філіял Цэнтральнага банка Расіі, а сама становіцца расійскай губерняй.

Мо так было, ці трошкі не так, але, пэўна, і Багданкевіч там быў спамянуты, найперш ягоная ўпартасць. Бо па вяртанні прэм'ера з Масквы ладзіцца пасяджэнне Прэзідыума Саўміна, на якім намеснік Кебіча сп. Мясніковіч абвінавачвае ў развале беларускай эканомікі... Міністэрства фінансаў і Нацыянальны банк. Нібыта не ведае, што на Беларусі эканоміка (і, у прыватнасці, фінансавая сфера) — заложніца палітыкі. А палітычную лінію вызначае прэм'ер-міністр.

Чарнамырдзін не можа адкрыта падтрымаць Кебіча, бо гэтай акцыі не зразумеюць расійцы. Тое, што «Белоруссия возвращается в Россию», іх цалкам задавальняе, але яны шчыра здзіўлены і нават абураны той акалічнасцю, што за гэта «возвращение» Расіі трэба плаціць. Адарваць нешта ад сябе сёння, каб трывала забяспечыць свае стратэгічныя інтарэсы заўтра — да гэтага грамадская думка не падрыхтавана.

Паколькі на расійскі рубель спадзявацца не варта, а дапусціць падзенне жыццёвага ўзроўню напярэдадні выбараў прэм'ер не можа, давялося шукаць мясцовыя рэзервы. Прэзідыум Вярхоўнага Савета прыняў пастанову «Аб выдзяленні крэдытаў». Яна парушае шэраг законаў нашай краіны («Аб нацыянальным банку», «Аб банках і банкаўскай сістэме», «Аб бюджэце») і саму Канстытуцыю. Прэзідыум Вярхоўнага Савета выдзеліў ураду крэдыт у 500 мільярдаў беларускіх рублёў, каб той мог заплаціць працоўным зарплату. Але дзеля гэтага пастановай забіраюцца прыбытак Нацыянальнага банка і абаротныя сродкі камерцыйных.

«У бюджэце няма сродкаў. Таму ўрад прапанаваў, каб Нацыянальны банк, папросту кажучы, надрукаваў чарговыя мільярды без усялякіх рэсурсаў», — пракаментаваў падзею С. Багданкевіч.

І што тут зробіш, калі, па словах старшыні Нацыянальнага банка, «у нас ва ўрадзе не ўсе знаёмы з эканомікай». А дзе ім, выхаванцам ВПШ і колішнім гаспадарам цэкоўскіх кабінетаў, было з ёю пазнаёміцца?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# У АБАРОНУ ДЭМАКРАТЫІ І КУЛЬТУРЫ

## МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС У МІНСКУ

«Наіўна меркаваць, што мы ўступілі ў постталітарны, перабудовачны час, што настае царства дэмакратыі. Настае царства парадоксаў, вяртаецца наша звыклае царства абсурду...» Гэта — цытата з выступлення Васіля Быкава на Міжнародным кангрэсе ў абарону дэмакратыі і культуры, выступлення, прасякнутага непрыхаваным болем за лёс краіны з яе зруйнаванай эканомікай, растаптанай нацыянальнай культурай і мовай, збанкрутаванай палітыкай яе, фактычна, камуністычных кіраўнікоў.

Кангрэс, арганізаваны Беларускім ПЭН-цэнтрам пры садзеянні «Фонду Сораса-Беларусь», праходзіў з 17 па 20 мая ў пісьменніцкім Доме творчасці «Іслач» і сабраў пад сваёй эгідай прадстаўнікоў ПЭН-клубаў некаторых краін блізкага і далёкага замежжа, а таксама вядомых беларускіх і замежных літаратараў, журналістаў, дзеячаў культуры і мастацтва.

Амаль кожнае выступленне, што прагучала на кангрэсе, было па-свойму адметным па змесце, па форме, эмацыянальным напале, кожны выказаў сваё бачанне праблем, але, тым не менш, гэта былі галасы людзей-аднадумцаў, людзей, што аднолькава занепакоены пэўным спадам дэмакратычных пераўтварэнняў у постталітарным грамадстве, наступе на палітычныя свабоды і фундаментальныя правы чалавека, супраціўленнем былой камуністычнай наменклатуры ўсяму, што звязана з адраджэннем нацыянальнай культуры і мовы, захаваннем дзяржаўнага суверэнітэту.

Каб чытач меў уяўленне аб амплітудзе пытанняў, закранутых у рэчышчы асноўнай тэмы кангрэса: «Постталітарнае грамадства: асоба і нацыя», назавём толькі некалькі выступленняў — Святлана Алексіевіч: «Праблема дакумента ў мастацтве і жыцці (суд над кнігай «Цынкавыя хлопчыкі»)», Анатоль Вярцінскі: «Чалавек і нацыя — чые правы вышэй?», Юрый Сураўцаў (Расія): «Правы чалавека і правы народа-этнаса», Адам Мальдзіс: «Дэмакратыя і талерантнасць: ці заўсёды яны супадаюць? (з гістарычнага вопыту беларусаў)», Ян Запруднік (ЗША): «Грамадзянская супольнасць і няўрадавыя арганізацыі», В. Іпатава: «Феномен «ружовай» свядомасці», Давід Сімановіч: «Віцебск, Марк Шагал і таталітарная сістэма», В. Тарас: «Ваенная міфалогія таталітарызму (аб так званым ваенна-патрыятычным выхаванні)»...

(«ЛіМ» мае намер у бліжэйшых нумарах апублікаваць шэраг выступленняў удзельнікаў кангрэса).

Міжнародны кангрэс прыняў некалькі дакументаў, звязаных з праблемамі палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця Рэспублікі Беларусь. Сярод іх — дэкларацыя «Аб абароне слова і забеспячэнні права на інфармацыю ў Беларусі», дзе, у прыватнасці, гаворыцца: «Удзельнікі кангрэса лічаць сваім абавязкам заявіць, што рашуча асуджаюць судовы пераслед пісьменнікаў і журналістаў, якія кіруюцца ідэаламі дэмакратыі, эканамічнага прагрэсу і нацыянальнага адраджэння». Аднагалосна была прынята рэзалюцыя «Аб мове», у якой выказваецца рашучы пратэст супраць грубых парушэнняў Закона аб мове, знявагі беларускага слова. У звароце кангрэса «З нагоды 50-х угодкаў з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў» яго ўдзельнікі павіншавалі ўвесь народ рэспублікі з надыходзячым святам, адзначыўшы, што хоць у вайне сутыкнуліся дзве таталітарныя сістэмы, усё роўна для народа Беларусі яна мела характар айчыннай, вызваленчай, сапраўды народнай. Кангрэс не абышоў сваёй увагай (прыняўшы адпаведную заяву) і экалагічнае становішча ў Беларусі, якое пасля аварыі Чарнобыльскай АС катастрафічна пагоршылася.

Кангрэс прыняў рэзалюцыю «Аб стварэнні Фонду дапамогі пісьменнікам і журналістам імя Алеся Адамовіча пры Беларускім ПЭН-цэнтры». Дарэчы, у часе работы кангрэса ў зале была разгорнута фотавыстава, прысвечаная незабыўнаму Аляксандру Міхайлавічу.

Усім, хто захоча падтрымаць фонд матэрыяльна, паведамляем, што яго рахунак — 606902 у гардырэкцыі Белбізнесбанку, код 764, Беларускаму ПЭН-цэнтру ў фонд імя А. Адамовіча.

**М. ЗАМСКІ**

# ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ

У аўторак пад старшынствам старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіля Зуёнка адбылося пасяджэнне рады СПБ, выбранай на нядаўнім, XI з'ездзе творчага саюза.

Унесены некаторыя ўдакладненні ў Статут СПБ. У адпаведнасці з адным з іх адкрытым галасаваннем выбраны прэзідыум рады, які будзе займацца бягучай работай.

Тайным галасаваннем выбраны кіруючыя органы творчага саюза.

Рада зацвердзіла галоўнымі рэдактарамі часопісаў: «Полымя» — Сяргея Законнікава, «Беларусь» — Аляксандра Шабаліна, «Маладосць» — Генрыха Далідовіча, «Нёман» — Анатоля Кудраўца, «Крыніца» — Уладзіміра Някляева, штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» — Міколу Гіля.

Па прапанове члена рады Генадзя Бураўкіна з радою СПБ выключаны Вячаслаў Дашкевіч і Віктар Трасцянскі, якія на XI з'ездзе публічна здалі свае пісьменніцкія білеты.

Нядаўна прынятым у СПБ на пасяджэнні рады былі ўручаны членскія білеты.

## САКРАТАРЫ РАДЫ СП БЕЛАРУСІ

Анатоль ЖАЛЯЗОЎСКІ
Уладзімір ПАЎЛАЎ
Алесь ПІСЬМЯНКОЎ
Віктар СУПРУНЧУК

## ПРЭЗІДЫУМ РАДЫ СП БЕЛАРУСІ

Вячаслаў АДАМЧЫК
Серафім АНДРАЮК
Рыгор БАРАДУЛІН
Янка БРЫЛЬ
Генадзь БУРАЎКІН
Васіль БЫКАЎ
Анатоль ВЯРЦІНСКІ
Ніл ГІЛЕВІЧ
Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ
Генрых ДАЛІДОВІЧ
Аляксей ДУДАРАЎ
Анатоль ЖАЛЯЗОЎСКІ
Алесь ЖУК
Сяргей ЗАКОННІКАЎ
Васіль ЗУЁНАК
Вольга ІПАТАВА
Анатоль КУДРАВЕЦ
Пятрусь МАКАЛЬ
Іван НАВУМЕНКА
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ
Уладзімір ПАЎЛАЎ
Алесь ПІСЬМЯНКОЎ
Алесь РАЗАНАЎ
Барыс САЧАНКА
Віктар СУПРУНЧУК
Іван ЧЫГРЫНАЎ
Іван ШАМЯКІН

## ЧЛЕНЫ РАДЫ СП БЕЛАРУСІ

Вячаслаў АДАМЧЫК
Серафім АНДРАЮК
Уладзімір АРЛОЎ
Рыгор БАРАДУЛІН
Раіса БАРАВІКОВА
Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА
Міхась БАШЛАКОЎ
Валянцін БЛАКІТ
Таіса БОНДАР
Янка БРЫЛЬ
Дзмітрый БУГАЁЎ
Анатоль БУТЭВІЧ
Генадзь БУРАЎКІН
Васіль БЫКАЎ
Васіль ВІТКА
Артур ВОЛЬСКІ
Анатоль ВЯРЦІНСКІ
Ніл ГІЛЕВІЧ
Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ
Генрых ДАЛІДОВІЧ
Аляксей ДУДАРАЎ
Анатоль ЖАЛЯЗОЎСКІ
Ірына ЖАРНАСЕК
Алесь ЖУК
Ніна ЗАГОРСКАЯ
Сяргей ЗАКОННІКАЎ
Васіль ЗУЁНАК
Вольга ІПАТАВА
Віктар КАВАЛЕНКА
Віктар КАЗЬКО
Уладзімір КАЛЕСНІК
Казімір КАМЕЙША
Віктар КАРАМАЗАЎ
Алесь КАСКО
Анатоль КЛЫШКА
Валянціна КОЎТУН
Анатоль КУДРАВЕЦ
Мікола КУСЯНКОЎ
Сцяпан ЛАЎШУК
Уладзімір ЛІПСКІ
Алег ЛОЙКА
Максім ЛУЖАНІН
Валянцін ЛУКША
Хрысціна ЛЯЛЬКО
Пятрусь МАКАЛЬ
Адам МАЛЬДЗІС
Алесь МАРЦІНОВІЧ
Мікалай МАТУКОЎСКІ
Мікола МЯТЛІЦКІ
Іван НАВУМЕНКА
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ
Пімен ПАНЧАНКА
Уладзімір ПАЎЛАЎ
Яраслаў ПАРХУТА
Генадзь ПАШКОЎ
Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ
Алесь ПІСЬМЯНКОЎ
Мікола ПРАКАПОВІЧ
Павел ПРУДНІКАЎ
Іван ПТАШНІКАЎ
Вячаслаў РАГОЙША
Алесь РАЗАНАЎ
Аляксей РУСЕЦКІ
Алесь САВІЦКІ
Алег САЛТУК
Барыс САЧАНКА
Юрась СВІРКА
Янка СІПАКОЎ
Аляксей СЛЕСАРЭНКА
Віктар СУПРУНЧУК
Максім ТАНК
Кастусь ТАРАСАЎ
Васіль ТКАЧОЎ
Андрэй ФЕДАРЭНКА
Кастусь ЦВІРКА
Мікола ЧАРНЯЎСКІ
Іван ЧЫГРЫНАЎ
Іван ШАМЯКІН
Уладзімір ЯГОЎДЗІК

Адгалоскі

# ПАЖЫВЁМ — ПАБАЧЫМ...

***Ціха-мірна, з невялікімі ўсплёскамі мінуўся пісьменніцкі з'езд, і самы час задумацца над яго вынікамі і ўрокамі.***

Перш за ўсё адзначым, што чарговы, планавы з'езд прыпаў не на самы бурны час: палітычныя баталіі перабудовы аціхлі, рэвалюцыйныя настроі ўвайшлі ў берагі, і па ўсёй Беларусі цішыня, як нехта казаў, магільная. Праблемы, вядома, засталіся і абвастрыліся, але яны не з тых, што маглі б вырашыцца намаганнямі творчай суполкі і тым больш наскокам. Згадаць пра іх яшчэ можна і нават не без карысці, але няма ўжо ранейшага грамадзянскага напалу, няма былога рэзанансу. Беды Чарнобыля, ядзерная зброя на тэрыторыі рэспублікі, уваходжанне ў адзіную рублёвую зону... Якраз з апошнім звязаны адзіны запамінальны эпізод з'езда — прынятае звароту да беларускага народа. Вакол яго на другі дзень і закіпелі страсці. Супроць выступілі як некаторыя рускамоўныя пісьменнікі з ліку «баталістаў і марыністаў», так і парачка пракамуністычна настроеных тутэйшых.

Прыняты зварот мала дзе быў надрукаваны, не прагучаў па радыё, затое аператыўна быў асуджаны ў некаторых выданнях як прыклад «умяшальніцтва» майстроў пяра ў палітыку. «... в этом «обращении» писателей нет и намека на извечную высокую миссию литературы — тревоги за судьбу «маленького человека», — піша Я. Росціка ў «Рэспубліцы». Нават «маленькі чалавек», якога Я. Росцікаў трымае за прыдурка, мусіць запытацца: а хто такі гэты Росцікаў, які лепш за пісьменнікаў ведае, чаго жадае беларускі народ і куды яго весці?

Што ж да чыста творчых пытанняў, да літаратуры, то пра яе гаварыць нашы сходы ў апошнія гады проста адвыклі. Нецікава неяк стала, неактуальна... Усё роўна як абмяркоўваць якасць стрыжкі, між тым як сама галава ў небяспецы. Традыцыя акадэмічна-аналітычных дакладаў адышла ў нябыт, даклад «па творчых пытаннях» звёўся да банальнага пераліку імёнаў і твораў. Мы людзі слабыя, чуйныя да прызнання, кожнаму прыемна пачуць сваё імя і пераканацца, што ты існуеш у прыродзе і ў літаратуры. Але з тым жа поспехам У. Паўлаў мог бы чытаць — ад А да Я — пісьменніцкі тэлефонны даведнік...

Такім чынам, і пра сучасны стан літаратуры гаворка ўсур'ёз не распачалася. Асноўны клопат з'езда, калі падсумаваць, засяродзіўся вакол таго, як утрымаць арганізацыйна, як выжыць творцам у новых умовах — умовах бязладдзя і безуладдзя, якія мы па цемначе сваёй называем рынкам. Ранейшая каманда імкнулася выстаяць у новых умовах, не дала раскідацца старым структурам, не скарацілі ў апараце ніводнага супрацоўніка, аднак і не спрабавала хоць што змяніць, удасканаліць. Старшыня саюза ў чымсьці аказаўся досыць падатлівым (нездарма ўсчыналіся спрэчкі вакол бясплатнай арэнды ПЭН-цэнтрам пакоя ў Доме літаратара), на штосьці заплюшчваў вочы (на неакрэсленасць абавязкаў таго-сяго з апарату, на п'янства ў службовых кабінетах), ды адну і тую рысу яго можна трактаваць па-рознаму: і як бесхарактарнасць, мяккацеласць, і як вартую пахвалы чалавечую памяркоўнасць, абачлівасць у няпростай грамадскай сітуацыі.

Удзельнікі з'езда, галасуючы за альтэрнатыву Зуёнак—Дудараў, па сутнасці выказалі свае адносіны да магчымых перамен і рэарганізацый. Як паказала галасаванне, большасць пагадзілася з лініяй на захаванне, і таму выбрала Зуёнка. Перамены палохаюць і трывожаць, бо самі па сабе яны не самамэта, — каб горш не стала, як ёсць... На жаль, асоба старшыні вызначае далёка не ўсё. Тыя, што аддалі галасы за Васіля Васільевіча, неадназначна ставяцца да яго каманды (якая дасталася яму, скажам прама, па волі лёсу). Ідэя з наборам уласнай каманды (па аналогіі з урадам) магла ўзнікнуць толькі ў галаве прадстаўніка адной каманды. Яе ні дзіўна, яе навт не ставілі на галасаванне.

Ідэя набору каманды «пад сябе», якую абірацьме рада, у нашых варунках рэч увогуле небяспечная. Ды праз пісьменніцкія сходы, як паказала практыка, можна працягнуць любую, самую авантурную задуму. Праз колькі год адумаюцца і «адкруцяць»...

Дык што — усё па-старому? «Непрацііўленне злу», спаўзанне ў канчатковае згодніцтва, кансервацыя аджыўшага? Пажывём — пабачым...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

**P. S. Цікава, дакуль пісьменніцкія з'езды будуць дакладнай копіяй з'ездаў партыйных? Доўгія спісы прэзідыума, сакратарыята, мандатнай і рэдакцыйнай камісій, як і выбары камісіі рэвізійнай, даўно страцілі свой практычны сэнс і служаць, бадай, мэце падзелу літаратараў на катэгорыі і гатункі, замацаванню пэўнай «прыдворнай» іерархіі. Усё гэта, безумоўна, супярэчыць самому духу творчасці і рана ці позна адыдзе.**

**Г. К.**

# КАБ ЧЫТАЧ АДЧУЎ ГІСТОРЫЮ...

І не проста адчуў, а і зразумеў як саму плынь часу. Менавіта такую задачу ставіў перад сабой Уладзімір Арлоў, пішучы кнігу «Таямніцы полацкай гісторыі». Рукапіс атрымаўся аб'ёмным, недзе да 600 старонак машынапісу, а да ўсяго яшчэ папка са здымкамі, рэпрадукцыямі. Яно і не дзіўна: матэрыял ахопліваe вялікі прамежак часу: ад язычніцтва, ці, як яшчэ мы кажам, паганства да пачатку дваццатага стагоддзя. І ўсё ж працавалася не толькі плённа, але і хутка, і кніга была запланавана ў выдавецтве «Беларусь»...

Пра ўсё гэта У. Арлоў нагадаў на прэзентацыі сваёй кнігі, што прайшла ў Доме кнігі ў Мінску. Успомніў і некаторых з тых, хто дапамог яму. Ці не ў першую чаргу народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь У. Цялежнікава, які ад імя Асацыяцыі полацкіх прадпрыемстваў у многім фінансаваў выданне. Увогуле, прозвішчы ўсіх, хто меў дачыненне да выхаду «Таямніц полацкай гісторыі», як сказаў аўтар, пазначаны ў кнізе. А яшчэ У. Арлоў крыху іранічна засведчыў, што для адных нацыянальная гісторыя пачынаецца менавіта з часоў Полацкага княства, а для другіх з тых часоў, калі было таннае... піва. На жаль, апошніх пакуль больш. Таму аўтар меў перад сабой яшчэ і прагматычную задачу: каб прыхільнікаў гісторыі ўсё ж пабольшала.

Думаецца, дзякуючы «Таямніцам полацкай гісторыі» так і будзе. Бо гэта кніга з тых, выхад якіх становіцца з'явай. Неардынарнасць яе падкрэсліваў у сваім выступленні і рэдактар выдавецтва «Беларусь» Э. Гнеўка, які рыхтаваў рукапіс да друку.

Прэзентацыя кнігі У. Арлова прайшла ў час традыцыйнай кніжнай выстаўкі, якія кожны месяц наладжвае Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Гэтым разам былі прадстаўлены выданні, якія выйшлі ў красавіку. Добра папрацавала выдавецтва «Мастацкая літаратура». Сярод навінак — «Явар з калінаю» Міколы Кусянкова, «Халімон камандуе парадам» Уладзіміра Саўліча, «Урбанія» Анатоля Кірвеля, «Забойства на калядах» Мірaслава Адамчыка, «Вочы Савы» Міхася Скоблы, «Зярняты з каласоў» Рамана Тармолы-Мірскага, «Веснавей» Аўяр'яна Дзеружынскага і іншыя кнігі. Падключылася «Мастацкая літаратура» і да выпуску падручнікаў. У красавіку з'явіўся першынец — хрэстаматыя «Родная літаратура», адрасаваная дзесяцікласнікам.

Дзецям «Юнацтва» адрасуе такія выданні, як «Латышскія народныя казкі», «Беларускія народныя жарты», зборнікі Міколы Маляўкі «Дзе жывуць казкі», Пятра Сушко «Жораў з выраю вярнуўся»... А выдавецтва «Беларусь» парадавала і цікавым альбомам — «Іканапіс Беларусі». Гэта ўжо другое выданне яго, дапоўненае, а галоўнае выпушчанае ў лепшым паліграфічным афармленні, чым папярэдняе.

На адкрыцці выстаўкі выступіў намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь С. Нічыпаровіч. Ён паведаміў і прыемную навіну. Наша дзяржава збіраецца зняць падатак на імпарт стратэгічных сыравінных матэрыялаў. А сюды адносіцца папера, друкарскія фарбы і г. д. Значыць, кнігі могуць патаннець на дваццаць працэнтаў.



Каб жа гэтае пажаданне ды Богу ў вушы! А то, пагадзіцеся, кошт кнігі «Таямніцы полацкай гісторыі» ўсё ж немалы — ці не дзевяць тысяч рублёў! Але ж, прыгадайма, танным толькі піва бывае!

**Н. К.**

*Фота А. МАЦЮША*

Анонс

# СВЯТОЧНЫ НАСТРОЙ І — ДАРОЖНЫ

Такі настрой ва ўсіх, хто мяркуе пабываць на другім песенным фестывалі «Маладзечна-94». Нядаўна мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, ён жа — галоўны творчы чыннік маладзечанскага свята, Міхал Фінберг правёў прэс-канферэнцыю. Прысутныя журналісты атрымалі аператыўную інфармацыю, паслухалі і выступленне народнага дэпутата Генадзя Карпенкі, які дзейсна падтрымлівае «фірменны» маладзечанскі фэст. Адбудзецца ж ён 10—11 чэрвеня, а ўверцюрай мае стаць выступленне аркестра пад кіраўніцтвам М. Фінберга ля помніка Максіму Багдановічу ў Мінску. Рыхтуецца прэм'ера вялікай праграмы «Матчын спеў» з удзелам салістаў калектыву. Зразумела, сустрэчы з «зоркамі» нацыянальнай эстрады чакаюць і гасцей свята ў Маладзечне, а імёны новых «зорак» дапаможа адкрыць конкурс маладых выканаўцаў, у выніку двух адборачных тураў якога 14 спевакоў будуць спаборнічаць на маладзечанскай сцэне. Яны ўжо рыхтуюцца ў дарогу...

**С.ВЕТКА**

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ







ДУКТАЎ Уладзімір Уладзіміравіч. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў горадзе Крычаве. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1976). Рэдактар магілёўскай раённай газеты «Прыдняпроўская ніва».

Літаратурную працу пачаў у 1974 годзе.

Аўтар кнігі прозы «Дзякуй і даруй» (1993), друкаваўся ў калектыўных зборніках «Галасы Прыдняпроўя», «Дняпроўскія хвалі», «Карані», у часопісе «Маладосць», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», іншых выданнях.

ЗУБ Іна Валянцінаўна. Нарадзілася ў 1952 годзе ў Мінску. Скончыла Мінскі дзяржаўны інстытут замежных моў (1975). Працуе перакладчыкам.

Літаратурную працу пачала ў 1981 годзе.

Аўтар кнігі прозы «Сцэнарый не для кіно» (1992). Нарысы і апавяданні І. Зуб друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», «Работніца і сялянка», «Вожык», іншых выданнях. Пераклала з французскай мовы тры кнігі прозы.

ЗЭКАЎ Анатоль Мікалаевіч. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Скончыў Гомельскі дзяржаўны універсітэт (1972) і Вышэйшую камсамольскую школу пры ЦК ВЛКСМ (1982). В. а. галоўнага рэдактара газеты «Добры вечар».

Літаратурную працу пачаў у 1969 годзе.

Аўтар кніг паэзіі «Боль сумлення» (1989), пародый «Дуэль» (1994), зборніка «Буслінае дрэва» (у калектыўнай кнізе «Крыло», 1984).

ЛАПУШЫН Радзіслаў Яфімавіч. Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1985). Выкладчык кафедры рускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Кандыдат філалагічных навук.

Літаратурную працу пачаў у 1978 годзе.

Аўтар кніг паэзіі «Три взгляда» (1990), «Между листьями и снегом» (1993). Друкаваўся ў часопісах «Юность» і «Смена» (Масква), «Нёман», «Крыніца», іншых выданнях.

МАЛЕЦ Янусь (МАЛЕЦ Іван Вільгельмавіч). Нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Хрыстова Пастаўскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1983). Рэдактар літаддзела часопіса «Вожык».

Літаратурную працу пачаў у 1974 годзе.

Аўтар кнігі пародый, гумарыстычных вершаў «Бедны конь» (1992). Адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў «Трусцой на Парнас» («Библиотечка «Крокодила», 1989), «Лагодны прамень раніцы» (1988), «Асцюкі за каўняром» (1989). Друкаваўся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», «Вожык», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», іншых выданнях.

Угодкі

# ЗНІЧКАЙ ЖЫЦЦЁ ПРАЛЯЦЕЛА...

## ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ПАЎЛЮКА ТРУСА

Ён пайшоў у вечнасць у дваццацігадовым узросце. Словы, вынесеныя ў загаловак, далі і назву выстаўцы, што працуе ў гэтыя дні ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі: 17 кніг яго прадстаўлена на стэндах. Сярод іх першы, маленькі зборнічак «Вершы», што стаў дванаццатым выпускам «Кніжкіцы «Маладняка» і пабачыў свет у 1925 годзе. Тут жа — другое прыжыццёвае аўтарскае выданне «Ветры буйныя» (1927). Астатнія кнігі — пасмяротныя. Найбольш поўна спадчына П. Труса прадстаўлена ў даволі ладным томе «Збор твораў», падрыхтаваным тагачасным Інстытутам літаратуры і мовы і выпушчаным пад рэдакцыяй акадэміка І. Замоціна і прафесара М. Піятухоўскага. Тады ж гаварылася, што інстытут «лічыць неабходным выдаць дадатковы том з тым, каб у яго ўвайшлі ўсе тэксты паэта, якія не змешчаны ў асноўным томе. Апроч таго, у дадатковы том увойдуць матэрыялы да біяграфіі П. Труса ў адлаведнай іх апрацоўцы і серыя артыкулаў, прысвечаных крытычнай ацэнцы яго творчасці».

Яшчэ адна кніга П. Труса «Творы» выйшла ў 1935 годзе. Нам бы цяпер падобную аператыўнасць! Ды і ўвагу да творчай спадчыны літаратараў, якія памерлі.

У экспазіцыі і адно з апошніх выданняў П. Труса — зборнік выбраных твораў «Новай квадры настаў маладзік», складзены А. Клышкам (выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1984).

На выстаўцы можна пазнаёміцца таксама з кнігай успамінаў пра П. Труса «Галасы вясны далёкай...», якая выйшла нядаўна.

•

У Прысынкаўскім сельскім Доме культуры — на цэнтральнай сядзібе мясцовай гаспадаркі «Чырвоны Кастрычнік», куды ўваходзіць вёска Нізок, прайшло літаратурнае свята Уздзеншчыны «Паўлюку Трусу — 90».

Пра выдатнага паэта, яго таленавітую вёску шчырыя словы сказалі намеснік старшыні райвыканкама Наталля Шыянок, загадчык раённага аддзела культуры Ганна Міхальчук, земляві паэта: мастак Уладзімір Ткачоў, пісьменнікі Лідзія Арабей, Алесь Махнач... Прачулыя паэтычныя радкі прысвяціў свайму знакамітаму аднавяскоўцу вядомы ўздзенскі паэт-музыка Мікола Кароль. У канцэртнай праграме хораша гучалі творы П. Труса, песні на яго словы.

Была цікавая і змястоўная выстава: кнігі паэта, літаратура пра яго жыццё і творчасць, ксеракопіі ягоных аўтографаў і фота.

Такая выстава была адкрыта і ў Нізаўскай васьмігадовай школе. Яе настаўнікі і вучні сабралі багаты матэрыял для будучага музея гісторыі роднай вёскі. Ён можа расказаць пра многае. Тут нарадзіліся пісьменнікі К. Крапіва, П. Трус, Л. Арабей, народны артыст Рэспублікі Беларусь А. Трус. Сярод выхадцаў з Нізка ёсць акадэмік, доктар філалагічных навук, тройчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, прафесар, восем кандыдатаў навук, дацэнты, заслужаныя настаўнік і ўрач рэспублікі, два намеснікі міністраў — фінансаў і сельскай гаспадаркі...

Ёсць у Нізка і баявая слава. Звыш 30 сем'яў з вёскі ў мінулую вайну былі ў партызанах. Сям'я настаўнікаў Лычкоўскіх — Пётр Міхайлавіч і Лідзія Аўгусцінаўна — у першыя дні нямецка-фашысцкай акупацыі раёна далі прытулак генерал-лейтэнанту Дзмітрыю Карбышаву і палкоўніку Пятру Сухарэвічу — хавалі некалькі дзён на гарышчы школы, дзе жылі самі. У вёсцы актыўна дзейнічала камсамольскае падполле, якое ўзначальваў Павел Фаміч Валожын. Звыш 50 нізаўчан былі на фронце. Многія з іх не вярнуліся з вайны.

І гэта ўсё людзі адной вёскі Нізок, якая далёка не налічвала нават і сотню двароў.

Праўда, нядаўна, як засведчыў старшыня праўлення мясцовага калгаса Іван Віктаравіч Жукаў, іх ужо — 126.

Палова вёскі, тая, якую не ўдалося фашыстам спаліць у вайну, мае незвычайнае архітэктурнае аблічча. Яно бярэ свой пачатак з 1557 года, калі была праведзена зямельная рэформа і прынята так званая «Устава на валокі». Згодна ёй вуліцу праводзілі пад лінейку. З аднаго боку ставілі жытло, а па другі — гаспадарчыя будынкі. Такой сельскай забудовы сёння на Беларусі амаль не захавалася.

Вось для такога незвычайнага будучага музея незвычайнай вёскі Нізок народны мастак Рэспублікі Беларусь Міхаіл Савіцкі перадаў работу — скульптурны вобраз Кандрата Крапівы, а заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Яўген Ганкін — партрэт П. Труса. Не з пустымі рукамі прыехаў у родную вёску на свята таленавіты беларускі мастак У. Ткачоў. Ён прывёз некалькі сваіх работ. Сярод іх назічане ўбачылі трыпціх «Прысвячаецца Паўлюку Трусу». Твор з трох частак: «Парыў ветру», «Натхненне» і «Палёт». Цэнтральная частка ўвасобіла вобраз паэта-земляка. Мастак падарыў аднасяльчанам свае пейзажныя работы «Урочышча Калюга» і «Раніца ў вёсцы». На іх — родныя мясціны аўтара.

Пасля вайны ў Нізку на працягу некалькіх год жылі і працавалі браты Сяргей і Аляксей Ткачовы. Пазней яны сталі народнымі мастакамі СССР, правадзейнымі членамі Акадэміі мастацтваў СССР. Сяргей Пятровіч перадаў нізаўчанам адну са сваіх работ, якую калісьці напісаў тут. Гэта карціна «Збор подпісаў за мір» — твор адлюстроўвае тагачасны трывожны пасляваенны час.

**А. АЛІН**

Пошта

# ШАНЦ ЯШЧЭ ЁСЦЬ

Не магу не выказаць сваю думку наконт выступлення каманды БДУ у КВЗ-94. У нашай беларускай каманды, якая выступала ў гэтым конкурсе ўпершыню, са знешняга боку ўсё было амаль бездакорным: і касцюмы (вельмі ўражвалі некаторых гледачоў), і выкананне. Але змест?! На маю думку, яго можна ацаніць значна ніжэй, бо не было сувязі з сучасным, штодзённым жыццём Беларусі.

Няўжо нельга было абыграць дыялог Чарнамырдзіна—Кебіча наконт рублёвай зоны, прайсціся па нястрымным росце інфляцыі, па найвялікшай колькасці прэтэндэнтаў у кандыдаты на прэзідэнцкі пост нашай дзяржавы, па занадта замаруджаным прыняцці, хутчэй непрыняцці беларускага гімна, ды ці мала яшчэ тэм?

Між іншым, з задавальненнем слухала гумарыстычную радыёперадачу па старонках часопіса «Вожык», якая сведчыць, што з гумарам у нас, беларусаў, усё ў норме.

Што тычыцца музычнага афармлення, то ў КВЗе нашай каманды гучалі даволі збітыя мелодыі савецкіх кампазітараў. Ні крупінкі беларускай музыкі! Не выкарыстаны наш багацейшы фальклор! Ці не лепей было б замест пародыі на Алу Пугачову скласці пародыі на «Песняроў» або Паплаўскую з Ціхановічам — усім вядомых артыстаў?

Ды ці мала яшчэ чаго можна было зрабіць, каб паказаць, што беларусы валодаюць дасціпным гумарам, музычнымі талентамі і багатым фальклорам?

Тым не менш, наша каманда дапушчана да наступнага конкурсу. Ёсць яшчэ шанц пазбавіцца бяззубага гумару.

***Лілія БУБЛІКАВА,***
**настаўніца беларускай мовы СШ N 169 г. Мінска**

# УЗНАГАРОДЖАНЫ МЕДАЛЁМ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

**Пабольшала дзеячаў нашай літаратуры і культуры, узнагароджаных медалём Францішка Скарыны. Нядаўна гэтага гонару ўдастоены пісьменнікі Іван Пташнікаў і Вячаслаў Рагойша. Медалі ім прысуджаны за дасягненні ў справе нацыянальнага адраджэння, прапаганды культурнай спадчыны беларускага народа.**

**Віншуем Івана Мікалаевіча і Вячаслава Пятровіча з узнагародай, жадаем ім новых поспехаў на ніве нацыянальнага Адраджэння.**

# ДА ПЫТАННЯЎ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

**4—5 траўня 1994 г. у Мінску адбылася Першая нацыянальная канферэнцыя «Праблемы беларускай нацыянальнай тэрміналогіі», ладжаная Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны пры падтрымцы дзяржаўных органаў і навуковых устаноў. У працы канферэнцыі ўзялі ўдзел 147 навукоўцаў, педагогаў ды іншых зацікаўленых спецыялістаў з розных гарадоў Беларусі, а таксама замежныя госці. Былі прадстаўлены практычна ўсе асноўныя галіны навукі, дзе цяпер адбываецца інтэнсіўны працэс тэрмінаўпарадкавання і тэрмінатворчасці.**

**Канферэнцыя адзначыла плённасць актыўнага засваення тэрміналагічнай спадчыны 20-х гадоў поруч з шырокім ужываннем інтэрнацыянальнай лексікі. Такія абмеркаванні мусяць стаць штогадовымі.**

**Канферэнцыя цалкам падтрымала Зварот XI з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі да беларускага народа.**

**Язэп СТАПАНОВІЧ**

# «БЕЛАРУС» І... БЕЛАРУСЬ

**Амерыканскі Інстытут імя Кенана паглыбленага вывучэння Расіі сумесна з Расійскай акадэміяй навук выдаў даведнік, у якім змешчана падрабязная інфармацыя пра навукова-даследчыцкія інстытуты акадэмій навук былых савецкіх рэспублік.**

**Пра гэта паведаміла ў адным са сваіх апошніх нумароў газета «Беларус» — старэйшае беларускае выданне, што выпускаецца эміграцыяй. Калі дакладней, дык ужо сорак трэці год. Цяпер, як вядома, трапляе «Беларус» і на Бацькаўшчыну. Гэты нумар, пазначаны студзенем, распаўсюджваецца як ксеракопія. Вядома, здымкі атрымаліся не зусім якаснымі, а наконт матэрыялаў... Адны з іх, што з'явіліся як хуткі водгук на тагачасныя падзеі, успрымаюцца ўжо часткай гісторыі; другія — найперш тыя, якія тычацца культурнага жыцця замежжа, — пацвярджаюць дэвіз, які нашым суайчыннікам і дапамагае выжыць — «Жыве Беларусь!»**

# ГІСТОРЫЯ Ў... НЕЧАКАНЫМ РАКУРСЕ

**Апошнім часам з'яўляюцца ўсё новыя працы, у якіх гісторыя Бацькаўшчыны падаецца, так сказаць, у ... альтэрнатыўным разрэзе. Гэта тычыцца не толькі новых кніг, а і тых, што вяртаюцца з небыцця. Да іх належыць і папулярны нарыс гісторыі Беларусі «Беларусь учора і сёння», выпушчаны выдавецтвам «Навука і тэхніка» сумесна з Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Асноўную частку выдання займае кніга Язэпа Найдзюка, што з'явілася больш як паўстагоддзя назад. У якасці дадатку да яе ўключаны раздзелы, напісаныя Іванам Касяком (укладанне Наталлі Дашкевіч). Чытач зможа пазнаёміцца і з пасляслоўем, аўтарам якога з'яўляецца вядомы беларускі гісторык Анатоль Грыцкевіч. Ён, прынцыпова ставячыся да даследавання «Беларусь учора і сёння», расстаўляе, як кажуць, усе акцэнты і гаворыць пра згаданую гісторыю Бацькаўшчыны як пра іншы, чым афіцыйны, погляд на нашу мінуўшчыну.**

# «АМНІСТЫЯ» 1945-ГА...

## У ЧАС ВАЙНЫ ГРАМАДСТВА НАГАДВАЕ ЎЗНЯТАГА НА ДЫБКІ КАНЯ.

Каб утрымаць грамадства ў такім нязвычным, «уздыбленым» стане, патрабуюцца надзвычайныя законы, бескампрамісныя і жорсткія, скіраваныя на поўную мабілізацыю ўсіх сіл дзеля перамогі ў вайне.

На Беларусі надзвычайныя законы ваеннага часу пачалі ўводзіцца з 22 чэрвеня 1941 года, з абвяшчэннем Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Аб ваенным становішчы». Функцыі органаў дзяржаўнай улады Беларускай ССР у сферах абароны, грамадскага парадку і дзяржаўнай бяспекі перадаваліся Ваеннаму Савету Заходняга фронту. Ваенныя ўлады атрымалі права выдаваць абавязковыя для выканання ўсім насельніцтвам пастановы і распараджэнні. За непадпарадкаванне ваенным уладам вінаватыя асобы падлягалі крымінальнай і адміністратыўнай адказнасці па законе ваеннага часу. Звужвалася кампетэнцыя народных судоў, уводзіліся ваенныя трыбуналы. Пастановы ваенных трыбуналаў касацыйнаму абскарджанню не падлягалі і маглі быць адменены ці зменены толькі ў парадку нагляду.

Надзвычайныя законы былі прыняты і ў галіне працоўнага права. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 26 снежня 1941 года работнікі ваеннай прамысловасці замацоўваліся за прадпрыемствамі, на якіх працавалі. Той, хто самавольна пакідаў месца работы, прыроўніваўся да дэзерціра і мог быць пакараны пазбаўленнем волі ад пяці да васьмі гадоў. Работнікі чыгункі лічыліся мабілізаванымі і для іх устанаўлівалася адказнасць за злачынства на службе нароўне з ваеннаслужачымі.

У красавіку 1942 года была ўстаноўлена крымінальная адказнасць за ўхіленне ад працоўнай павіннасці, мабілізацыі на сельскагаспадарчыя работы, за невыпрацоўку абавязковага мінімуму працадзён. Была надзвычай узмоцнена крымінальная адказнасць за крадзёж дзяржаўнай маёмасці. У 1942 годзе за крадзёж гаручага з МТС і саўгасаў вінаватыя падлягалі турэмнаму зняволенню ад трох да пяці гадоў.

З пагаршэннем становішча на франтах узмацнялася жорсткасць надзвычайных законаў і ў Чырвонай Арміі. 28 ліпеня 1942 года нарком абароны Сталін выдаў загад N 227, які ўвайшоў у гісторыю пад назвай «Ні кроку назад!». Загадам у Дзеючай Арміі ўтвараліся штрафныя падраздзяленні — асобна для афіцэраў, асобна для салдат і сяржантаў. Кожнаму фронту прадпісвалася сфарміраваць ад аднаго да трох (па абставінах) штрафных батальёнаў па 800 афіцэраў, «провинившихся в нарушении дисциплины по трусости или неустойчивости». Штрафныя афіцэрскія батальёны ставіліся на найбольш цяжкія ўчасткі фронту, «чтобы дать им возможность искупить кровью свои преступления перед Родиной».

Салдаты і сяржанты накіроўваліся ў штрафныя роты, якія ўтвараліся ў арміях — ад 5 да 10 штрафных рот па 150—200 чалавек у кожнай. Штрафнікі бралі ўдзел у самых кровапралітных баях і неслі вялікія страты. Тэрмін знаходжання ў штрафных падраздзяленнях вызначаўся да трох месяцаў, або да ранення ў баі (праліцця крыві), ці да прадстаўлення да ўзнагароды. Штрафнікі не лічыліся вязнямі, пасля вызвалення са штрафных часцей ім вярталіся ранейшыя воінскія званні, узнагароды і правы. Сем'ям загінуўшых штрафнікоў, штрафнікам-інвалідам выплачваліся пенсіі. Па сціплых прыкідках спецыялістаў Інстытута ваеннай гісторыі былога Міністэрства абароны СССР, праз сістэму штрафных часцей прайшло каля... 1,5 мільёна чалавек; колькі з іх загінула, колькі засталося жыць — гэта і сёння нераскрытая тайна вайны.

Такім чынам, надзвычайныя законы ваеннага часу фарміравалі выключна небяспечны сацыяльны асяродак, ніхто не быў застрахаваны ад таго, што па збегу выпадковых абставін мог прадстаць перад ваенным трыбуналам, трапіць у ГУЛАГ ці ў штрафную роту. Вайна і яе надзвычайныя законы бязлітасна ламалі жыцці мільёнаў людзей, рэзалі іх лёс па-жывому. Па звестках НКУС СССР, толькі за 1941 год лагеры ГУЛАГа папоўніліся 1 мільёнам 343 тысячамі 663 зняволенымі. Мільёнамі асуджаных папаўняліся лагеры ГУЛАГа і ў наступныя гады вайны.

Вайна і надзвычайнае заканадаўства прынеслі вялікае гора ў кожную беларускую хату. І як тут не ўспомніць таямнічы знак, які пасылала людзям неба: І сакавіка 1941 года назіралася выключнае па інтэнсіўнасці паўночнае ззянне, ахапіўшае вялізную плошчу ад Мурманска да Крыма. Людзі са здзіўленнем і страхам назіралі гэты нябесны знак, але ці здагадваліся яны, што азначаў ён? Аб якой бядзе ён папярэджваў іх?

## «ПЕРАДЫШКІ» І АМНІСТЫІ.

Вядома, каня «на дыбках» трымаць увесь час нельга, патрэбны перадышкі; тым больш нельга ўвесь час трымаць ва «уздыбленым» стане грамадства, нават калі яно ахоплена моцнымі патрыятычнымі пачуццямі. «Перадышкі» грамадства ад надзвычайнага заканадаўства ў гады вайны вырашаліся рознымі шляхамі. Шырока прымянялася адтэрміноўка выканання прыгавораў да канца ваенных дзеянняў з накіраваннем асуджаных у Дзеючую Армію. У Крымінальным кодэксе Беларускай ССР прымяненне такой адтэрміноўкі прадугледжвалася артыкулам 32. Адтэрміноўка дапускалася ў адносінах да асуджаных ваеннаслужачых, работнікаў транспарту і ваеннаабавязаных, якія па ўзросце падлягалі прызыву або мабілізацыі. Да канца 1941 года ў Дзеючую Армію ўлілося 420 тысяч былых вязняў. Потым былі і другія пастановы аб «спецкантынгенце». Усяго за гады вайны ў армію з ГУЛАГа было перададзена больш за мільён асуджаных. Многія з іх праявілі ў баях мужнасць і гераізм, былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, а некаторыя з былых вязняў нават сталі Героямі Савецкага Саюза.

Спробы кардынальнага вырашэння пытання аб «нейтралізацыі» вынікаў дзеяння надзвычайных законаў ваеннага часу былі прыняты кіраўніцтвам СССР пасля заканчэння вайны ў Еўропе. 7 ліпеня 1945 года Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР быў выдадзены Указ «Аб амністыі ў сувязі з перамогай над гітлераўскай Германіяй». Указам вызваляліся ад пакарання вязні з тэрмінам зняволення да трох гадоў, асуджаныя за тое, што самавольна пакінулі прадпрыемствы ваеннай прамысловасці, а таксама былыя вязні, да якіх была прыменена адтэрміноўка выканання прыгавораў з накіраваннем на фронт. З гэтых катэгорый здымалася і судзімасць. Скарачаўся напалову тэрмін зняволення асуджаных на тэрмін звыш трох гадоў. Былі спынены ўсе следчыя справы і справы, неразгледжаныя судамі, за якія законамі прадугледжаны пакаранні не звыш трох гадоў пазбаўлення волі. Скасоўваліся ўсе несплачаныя адміністратыўныя штрафы, прадугледжаныя Указам ад 22 чэрвеня 1941 года «Аб ваенным становішчы».

Амністыі не падлягалі асобы неаднаразова судзімыя за растраты, крадзяжы, рабаўніцтва, хуліганства, «контррэвалюцыйную дзейнасць», бандытызм, фальшывамаснецтва, наўмыснае забойства і разбой.

Не прымянялася амністыя і да савецкіх грамадзян, якія супрацоўнічалі з немцамі ў час вайны. Толькі праз дзесяць гадоў, Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 17 верасня 1955 года, былі вызвалены, незалежна ад тэрміну пакарання, асобы, асуджаныя за службу ў нямецкай арміі, паліцыі і спецыяльных нямецкіх фарміраваннях. Вызваляліся ад далейшага адбыцця пакарання людзі, накіраваныя за такія злачынствы ў ссылку ці высылку. Здымалася судзімасць і пазбаўленне правоў з грамадзян, вызваленых ад адказнасці Указам ад 17 верасня 1955 года, ці раней судзімыя за падобныя злачынствы і ўжо адбыўшыя тэрміны пакарання.

Каб канчаткова пакончыць з «уздыбленым» станам грамадства, выкліканым вайною, патрэбна было скасаваць статус ваеннага становішча. 25 верасня 1945 года Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР дзеянне надзвычайных законаў ваеннага часу на тэрыторыі Беларусі было адменена, акрамя яе заходніх абласцей. Ваеннае становішча ў заходніх абласцях было скасавана толькі праз год, 4 ліпеня 1946 года. Гэта тлумачылася разгулам бандытызму: са жніўня 1944 года па чэрвень 1945 года «лясныя браты», акаўцы здзейснілі тут 303 тэрарыстычныя акты, у выніку якіх загінулі 36 работнікаў раённага звяна, 24 старшыні сельсаветаў, 35 работнікаў міліцыі, многія дзесяткі грамадзян былі паранены. У Лідскім раёне за гэты час было забіта і паранена 113, у Воранаўскім — 97 чалавек.

## ВАЕННАПАЛОННЫЯ І РЭПАТРЫЯНТЫ.

Асабліва несправядлівым і неверагодна пакутным быў лёс ваеннапалонных і рэпатрыянтаў — жыхароў Беларусі, прымусова ў гады вайны вывезеных немцамі на катаржныя работы ў Германію.

Каб уявіць сабе сутнасць праблемы ваеннапалонных, коратка нагадаем абставіны і варункі, пры якіх савецкія салдаты і афіцэры траплялі ў нямецкі палон.

З пачаткам вайны праводзілася масавая мабілізацыя ў Чырвоную Армію. За кароткі тэрмін у армію было мабілізавана больш як 500 тысяч жыхароў Беларусі. Салдаты Заходняга фронту, у шэрагах якога апыніліся мабілізаваныя, з першых баёў паказалі адметныя ўзоры мужнасці і адвагі. Гэта засведчыў і вядомы пісьменнік К. Сіманаў, наведаўшы ў ліпені 1941 года 388-ы стралковы полк, які на Буйніцкім полі бліз Магілёва за першыя дні вайны падбіў сорак нямецкіх танкаў. Усё свае астатняе жыццё К. Сіманаў быў пад глыбокім уражаннем убачанага пад Магілёвам.

Але адной мужнасці прастага салдата на вайне бывае мала. Камандаванне Заходняга фронту па аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах, даследаванне якіх выходзіць за межы нашага артыкула, з першых гадзін вайны страціла аператыўную ініцыятыву, сувязь з падначаленымі злучэннямі і часцямі. У войску пачаліся хаос і неразбярыха. Нават маршал Кулік, накіраваны Стаўкай у Мінск для дапамогі камандаванню Заходняга фронту, ледзь сам не трапіў у палон. У сялянскай вопратцы, пехатою, у натоўпе бежанцаў, з вялікімі цяжкасцямі маршал выйшаў з акружэння. У такім непрывабным «касцюме» паявіўся ён перад Сталіным у Крамлі.

— Вось палюбуйцеся на гэтага палкаводца, — кіўнуў у бок маршала Вярхоўны. — Для поўнага маскараду яму не хапае пугі і лапцяў.

За два тыдні вайны (з 22 чэрвеня па 9 ліпеня 1941 года) з 44 дывізій Заходняга фронту немцы поўнасцю разбілі 24. Астатнія 20 дывізій страцілі ад 30 да 90 працэнтаў асабовага складу. Фронт страціў каля 300 тысяч чалавек. Тысячы ваеннаслужачых, не па сваёй волі і жаданні, трапілі ў нямецкі палон. Урад СССР, па віне якога адбылася трагедыя Заходняга фронту, нічога не зрабіў, каб абараніць сваіх суайчыннікаў-палонных, аблегчыць іх лёс, дапамагчы іх сем'ям. А такая дапамога была асабліва вострa неабходнай. Таму што кіраўніцтва Германіі, спасылаючыся на тую акалічнасць, што СССР не быў удзельнікам Гаагскай канвенцыі 1907 года і не далучыўся да Жэнеўскай канвенцыі 1929 года, не лічыла сябе звязаным нормамі законаў вайны ў адносінах да Савецкага Саюза. Вядомы англійскі даследчык А. Верт адзначаў: тое, што ўчынялі немцы ў адносінах савецкіх ваеннапалонных цяжка ўявіць нармальнаму, псіхічна здароваму чалавеку. З 5 мільёнаў 160 тысяч савецкіх ваеннапалонных толькі менш 2 мільёнаў засталіся жывымі, больш 3 мільёнаў пакутліва загінулі ў нямецкіх лагерах.

Нармальнаму, псіхічна здароваму чалавеку неверагодным падаліся б дзеянні вышэйшага савецкага кіраўніцтва ў адносінах да суайчыннікаў, што трапілі ў нямецкі палон. 16 жніўня 1941 года Стаўка Галоўнакамандавання выдала загад N 270, у якім патрабавала камандзіраў і палітработнікаў, якія здаюцца ў палон, расстрэльваць без суда і следства на месцы, а іх сем'і падлягалі арышту. Ці выконваўся гэты жахлівы загад на практыцы? Мы не маем дакладных статыстычных звестак аб колькасці рэпрэсаваных сем'яў палонных. Але што загад выконваўся, можа сведчыць такі красамоўны факт: сын Сталіна, Якаў, летам 1941 года параненым трапіў у палон. Жонка Якава, нягледзячы на малалетняе дзіця, была арыштавана і два гады правяла за кратамі. Само сабою паўстае пытанне: калі не было літасці да адзінай і бязвіннай нявесткі самога Сталіна, да яго немаўля-ўнучкі, якая магла быць у тыя часы міласэрнасць да сем'яў іншых палонных?

Цяжкім склаўся лёс і 380 тысяч жыхароў Беларусі, прымусова вывезеных акупантамі на работы ў Германію. Ушчэнт змэнчаныя на нямецкіх катаржных работах, цудам выжыўшыя ў няволі, гэтыя пакутнікі зноў сталі без віны вінаватымі. Майскімі днямі 45-га, калі ўсе радаваліся перамозе, Сталіным была падпісана сакрэтная дырэктыва, тэкст якой, нам уяўляецца, мэтазгодна прывесці цалкам на мове арыгінала: «Командующим войсками 1 и 2 Белорусских, 1, 2, 3 и 4 Украинских фронтов. Тов. Берия, тов. Меркулову, тов. Абакумову, тов. Голикову, тов. Хрулеву, тов. Голубеву.

Военным Советам фронтов сформировать в тыловых районах лагери для размещения и содержания военнопленных и репатриируемых советских граждан на 10000 человек каждый лагерь. Всего сформировать: во 2 Белорусском фронте — 15, в 1 Белорусском фронте — 30, в 1 Украинском фронте — 30, в 4 Украинском фронте — 5, во 2 Украинском фронте — 10, в 3 Украинском фронте — 10 лагерей...

Проверку возложить: бывших военнослужащих Красной Армии — на органы контрразведки «СМЕРШ», гражданских лиц — на комиссии НКВД, НКГБ, «СМЕРШ»...

И. СТАЛИН».

Велічная перамога над фашызмам і ... загад адкрыць 100 новых лагераў на мільён чалавек! Як сведчаць апублікаваныя архіўныя звесткі, лагеры «фільтрацыі» існавалі каля года, да сакавіка 1946 года, пакуль не была скончана масавая рэпатрыяцыя. У СССР па рэпатрыяцыі прыбыло 1569572 ваеннапалонных: 1249017 асоб радавога саставу, 195350 — сяржанцкага, 123464 — афіцэрскага, 1741 асоба без званняў.

Юрыдычна ў той час усе яны лічыліся злачынцамі. У адпаведнасці з абвешчанай 7 ліпеня 1945 года амністыяй ваеннапалонныя радавога і сяржанцкага саставу дэмабілізуемых узростаў, за выключэннем служыўшых у воінскіх фарміраваннях на баку ворага, пасля праверкі ў «фільтрацыйных» лагерах былі адпушчаны дадому. 344448 ваеннапалонных радавога і сяржанцкага саставу недэмабілізуемых узростаў урадам было вырашана не адпускаць па месцы жыхарства, а залічыць у рабочыя батальёны Наркамата абароны СССР. Па тых жа крытэрыях у рабочыя батальёны прымусова былі залічаны многія жыхары Беларусі, у тым ліку і жанчыны, гвалтоўна вывезеныя на работы ў Германію і папаўшыя такім чынам у склад рэпатрыянтаў.

Лёс рэпатрыянтаў-афіцэраў, за рэдкім выключэннем, склаўся трагічна. Пасля шматмесячнай праверкі ў «фільтрацыйных» лагерах яны, як правіла, накіроўваліся ў лагеры ГУЛАГа або на спецпасяленні, мала каму з былых палонных-афіцэраў пашанцавала вярнуцца ў родны дом, да сваёй сям'і.

Поўнай амністыі ваеннапалонныя не атрымалі ні ў 1945, ні ў 1955 годзе. Праўда, Указам ад 17 верасня 1955 года рабілася спроба часткова вырашыць гэтую праблему — вызваляліся ад адказнасці асобы, якія ў перыяд вайны «здаліся ў палон», але палажэнне закона распаўсюджвалася толькі на тых савецкіх грамадзян, якія ў той час знаходзіліся... за мяжой Савецкага Саюза, у эміграцыі. І толькі праз год пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 20 верасня 1956 года было дадзена тлумачэнне, што «Указ ад 17 верасня 1955 года распаўсюджваецца і на былых ваеннаслужачых Савецкай Арміі і Флоту, асуджаных за здачу ў палон ворагу». З былых палонных знімаліся судзімасць і паражэнне ў правах. Прыпыняліся ўсе следчыя справы, а таксама справы, неразгледжаныя судамі, на асоб за здачу ў палон у гады вайны.

Такім чынам, толькі праз адзінаццаць гадоў пасля скančэння вайны ў рэшце рэшт былі амніставаны савецкія ваеннаслужачыя, трапіўшыя ў нямецкі палон. Заканадаўца таго часу менш цяжкімі злачынствамі лічыў нават прамое супрацоўніцтва з акупантамі, чым палон, у які большасць салдат і афіцэраў папалі не па сваёй волі і не па сваёй віне. З сумам адзначым: цяжка знайсці аналаг у сусветнай юрыдычнай практыцы заканадаўства, якое б утрымлівала нормы крымінальнага праследавання сваіх грамадзян за здачу ў палон на працягу больш дзесяці гадоў пасля пераможнага скančэння вайны.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА.

І яшчэ адна праблема, без упамінання якой мы не можам паставіць кропкі ў нашым даследаванні. Ці карэктна, з юрыдычнага боку гледжання, называць акты 1945, 1955 гадоў амністыяй у поўным сэнсе гэтага слова? У юрыспрудэнцыі пад амністыяй прынята разумець акт вярхоўнай улады, паводле якога асобы, якія ўчынілі злачынствы, вызваляюцца ад пакарання поўнасцю ці часткова. Ці быў склад злачынства ў дзеяннях салдат Заходняга фронту, якія ў пераважнай большасці апынуліся ў палоне не па сваёй волі і жаданні, а па віне кіраўніцтва краіны? Ці можна, у такім разе, да гэтай шматмільённай катэгорыі гаротнікаў прымяняць паняцце «амністыя»?

Пытанні і пытанні... Не на ўсе з іх і сёння, амаль праз паўвека, можна даць дакладныя адказы. Але чым больш мы аддаляемся ад вогненных дзён вайны, тым больш для нас раскрываюцца яе таямніцы.

**М. СІЛЬЧАНКА,**
**доктар юрыдычных навук;**
**І. БАСЮК,**
**кандыдат гістарычных навук**
*г. Гародня*

**Еўдакія Лось у труне...**
**Смерць сустрэла, — як салдат на вайне.**
**Па-мужчынску неяк, сурова,**
**без адчаю, без лішняга слова...**
**«Зразумелі цяпер вы мяне —**
**у труне?»**

Трагічна, як журботны звон, гучыць пасля кожнай страфы акорд — «У труне».

І яшчэ адна сустрэча — з малодшай паэтычнай сястрой Еўдакіі. Паэт убачыў на Паркавай магістралі Жэню Янішчыц — студэнтку БДУ. (Верш быў напісаны ў 1969 годзе). Нават у яе хадзе паэт пазнаў незвычайную натуру.

**Жэня Янішчыц... Як ідзе!**
**Як чарадзей ідзе па вадзе.**
**Як самнамбул ідзе ў сне.**
**Ці як маладзіцы з яе Велясніцы**
**Ідуць ранічкою па расе —**
**У грыбы альбо ў суніцы.**

Рытм перадае імклівасць хады, а ўнутраныя звонкія рыфмы — загадкавую прыгажосць гераіні.

Сёння страшна становіцца, калі чытаеш наступныя радкі — нібы прадчуванне апошняга палёту Жэні:

**Спыніся, імгненне! Спыніся, Яўгенія!**
**Не чуюць Яўгенія і імгненне. (...)**
**Ляцяць над прахожымі, над машынамі,**
**над нашымі клопатамі мышынымі.**

У Вярцінскага няма бяздумных, бесклапотных вершаў. Некаторыя з іх дзіўным чынам перагукваюцца паміж сабой. Як, напрыклад, «Эдзіт Піяф хоча любві» і «Размова ў Патсдаме». У іх драматычны лёс французскай спявачкі, якая аплаквала сваё разбітае шчасце, нябачнымі ніцямі звязаны з жыццём беларускай жанчыны.

**Вылівала цётка душу,**
**цётка плакала па мужу,**
**цётка плакала па дзецях,**
**цётка плакала па людзях...**
**Па ўсіх раненых і забітых,**
**незабытых і забытых.**

І заключныя, асноўныя радкі, у якіх гуманізм паэта выяўляецца з асаблівай выразнасцю:

**Цётка плакала па ўсім свеце,**
**а па цётцы хто плакаў ці не?**

...Летась, на хаду, я пазнаёмілася з героем верша Анатоля Вярцінскага «Хлопчык глядзіць...» Светлавалосы хлопчык глянуў на мяне яснымі, цікаўнымі вачамі і такім жа, як у дзеда, размашыстым жэстам моцна паціснуў мне руку.

**Хлопчык глядзіць...**
**Я ў позірку тым дзіцячым**
**бачу пачатак сябе,**
**сваё прадаўжэнне бачу...**

Некалі Поль Элюар сказаў: «Паэзія — гэта мастацтва святла». Думаю, яго словы з поўным правам можна аднесці і да паэзіі Анатоля Вярцінскага.

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

Якая здзіўляючая напоўненасць вобраза ў заключнай страфе!

**Стук яблыка ў траву**
**У сон глухі вазьму.**
**І падрасце як сад**
**Той хлопчык невялічкі,**
**Што яблыкі ў смузе**
**Убачацца яму,**
**Як смелыя грудкі**
**Світальнай Дамінічкі.**

Але галоўная тэматыка красавіцкага нумара «Беларусі» — чарнобыльская. Пасля Чарнобыля на Беларусі няма па сутнасці жывога месца. Ды гэта не значыць, што беларусам жыць на мёртвай зямлі — аналітычны погляд на чарнобыльскі шлях выказваюць вядучыя вучоныя-радыёлагі І. Нікітчанка і В. Несцярэнка.

Што такое Зона? — такое пытанне задаюць сабе і адказваюць на яго карэспандэнты часопіса У. Бацкалевіч і В. Жылін. У публікацыі са Слаўгарадскага раёна чырвонай ніткай праходзіць думка: дзяржаўную праграму па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы нельга разглядаць як нешта раз і назаўсёды прынятае, яна патрабуе сур'ёзнага перагляду.

Іншыя матэрыялы гэтага блоку апавядаюць аб пакутніках радыяцыйнай трагедыі, аб гібельным уздзеянні радону, які да нядаўняга часу выкарыстоўваўся для лячэння многіх хвароб.

Апошнім часам выступае з нарысамі С. Законнікаў. Цяпер у «Полымі» ён дзеліцца ўражаннямі ад наведвання Югаславіі — «Сум па «Бранкавым коле».

Увогуле, красавіцкія нумары часопіса атрымаліся надзіва змястоўнымі. Акрамя згаданых, у «Полымі» апублікаваны матэрыялы, якія ўносяць «новыя моманты ў нашыя ўяўленні аб настроях, што panavalі ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі на рубяжы 20-30-х гадоў» («Агляд настрояў» Р. Платонава). У «Маладосці» — гэта яшчэ і жыццёва пераканаўчыя апавяданні А. Зэкава і роздум В. Гардзея «Час раскідваць і збіраць мільёны». У «Беларусі» — разварот для дзетак «Сонейка». «Нёман» жа падрыхтаваў чарговы спецвыпуск, у якім ёсць унікальная, не маючая аналагаў у іншых краінах, геаграфічная карта Беларусі з нанесенымі на яе геапатагеннымі (небяспечнымі) зонамі.

**М. АНДРЭЕНКА**

Анкета

***1. Ці пішацца сёння, і, калі без прымхаў, то што іменна?***
***2. Ці ўзнікала жаданне перагледзець набыткі, памяняць арыенціры, звярнуцца да іншых тэм і жанраў?***
***3. Сфера вашых жыццёвых інтарэсаў /так званае хобі/.***

Уладзіслаў РУБАНАЎ

# ПРАЎДА БОЛЮ

1. Пішацца — як ніколі. Перабудова (будзем яе называць і цяпер так) дала **безагляднасць**. Яно і раней як быццам ніхто не стаяў над душою і не забараняў акунацца ў ейны морак. Але за так званай ідэйнай накіраванасцю творчасці сачылі надзвычай дбайныя нянькі светлай здані: пэўныя грамадскія з'явы, тыпы, працэсы, праявы былі недатыкальныя. Безагляднасць дапамагае душы вырывацца, як магме, напаверх і палохаць сваёй зусім не цнатлівай, а часам страхавітай сутнасцю. Не трэба нікому дагаджаць, падабацца. А раней пісьменніку так хацелася траліць у даклад Георгія Макеевіча ў Маскве на з'ездзе; на туташнім — у прывітальнае слова першага сакратара ЦК КПБ. Цяперака ж пісьменнік сам сабе гаспадар: калі ласка, паказвай, на што здатны. І калі ён шчыра жыве болем народа, дыхае маральнай атрутнасцю грамадства, насычае арганізм заміж вітамінаў радыенуклідамі, то асэнсаваць тое-сёе можа. Не будуць пісаць адно тыя, для каго літаратура была не ўнутранай патрэбаю, а сродкам заробку. Без сумнення, літаратура ўжо ніколі не будзе, як казалі маладзейшыя, «карытам» для пісьменніка.

Было шмат, а цяпер з'явілася яшчэ больш аракулаў ісцін у адносінах да кагосьці, да чыёйсьці працы, але не да сябе, не да сваёй: так на трыбуне, так на мітынгу, так у літаратуры, так і ў сям'і... А гэта не што іншае, як звычайная кан'юнктура, кар'ерызм, самасцвярджэнне за кошт сабе падобнага, толькі не асабісты рэальны ўклад у справу. Штосьці я не чуў і не чытаў, каб нехта пра сябе заявіў: я такі нягоднік, нікчэмны, бязглузды, што мне трэба да сёмага поту працаваць над сабою, каб хоць бы крышачку падцягнуцца. У чым тут справа? Ды ўсё ў той жа бальшавіцкай псіхалогіі: я з маўзерам, выношу прысуд — значыцца, за мною праўда (а соль у тым, што нават калі яна шчырая, дык толькі **твая** праўда). Ніводны чалавек з дзесяткаў мільёнаў, што жылі ў савецкім часе, невінаваты, што стаў такім. Іншым ён проста быць не мог па ўсіх законах, бо хадзіў у дзіцячы садок, школу, скончыў інстытут, стаяў за станком, сядзеў за пісьмовым сталом і г. д. Вядомыя словы: мы ў адказе за тых, каго прыручылі. А тут сістэма «прыручыла» дзесяткі мільёнаў (!), зрабіла рабамі, вінцікамі, а тады адмовілася ў адзін мах, як распусная, легкадумная дзевуля адмаўляецца ад свайго дзіцяці. Гэта бяда, трагедыя постсавецкага чалавека, у прыватнасці інтэлігента, які сумленна служыў грамадству (чытай: роднай зямлі, бацькаўшчыне, маці), а яно выраклася яго, не можа абараніць нават фізічна. І нясе яго бурлівы паток неарганізаванай, дзікай стыхіі бездухоўнасці, дэградацыі, п'янства, амаральнасці, якую ўдала і прагрэсіўна назвалі РЫНКАМ (асацыіруецца: зрынуць). Чым больш сумленны — тым больш бездапаможны. Нядаўна ў «Камсамолцы» вычытаў прызнанне суценёра — і жахнуўся: ледзьве не палова (!) жанчын выйшла на панель, каб пракарміць сябе і дзяцей (а што рабіць мужчынам, якіх прырода не надзяліла безадказнымі вабнасцямі, што карыстаюцца рыначным попытам?). Дзе такое ёсць ці было ў свеце, нават калі гэты паказчык і завышаны? Хіба такое жыццё не шакіруе? Як павінен адчуваць сябе чалавек у такім грамадстве, якое патанула ў цяжкі, кашмарны сон?

Пішацца! Бо пераканаты: нельга задыміць усё паветра, засланіць усё неба, затушыць сонца, знішчыць усю зямлю... Вельмі доўга падбіраўся да жанру рамана — і вось нарэшце... Нясмела спадзяюся, што нейкі зрэз нашага хворага цяперашняга стану ён дае. А наперадзе, мне здаецца, у пісьменнікаў неабдымная і найцікавейшая задача — стварыць літаратуру метафізічную, філасофскую.

2. Пераглядаць набыткі свае не падумваў. Наадварот, часта лавіў сябе на думцы, што ад ніводнага радка я не адмаўляюся (вядома, да майстэрства прэтэнзіі ёсць), бо ніколі не пісаў пра тое, што камусьці патрэбна, а толькі пра тое, што балела, што любіў альбо не прымаў, што, здавалася, разумеў; увесь час хацелася засведчыць рахманасць і чысціню беларускай душы, неназойлівую акварэль прыроды. Арыенцір быў для мяне і цяпер тым больш застаецца адзін — чалавечая Душа, ейныя пакуты, боль, мігценне светлаценяў у ёй. А іменна ж пакуты — галоўнае! — прамінала, як вецер слуп, савецкая літаратура, яна дыстанцыіравалася ад сапраўдных, глыбокіх перажыванняў. «Давай героя!» (Яшчэ лепш калі з вялікай літары). Ідэалагічны дыктат у поглядзе на чалавека як носьбіта камуністычнай маралі не даваў эвалюцыяніраваць духу, спыніў ход розуму абмежаванага да розуму абсалютнага, вышэйшага. Горшага «Рэмбу» для творцы, чым дыялектычны матэрыялізм, не прыдумаеш, бо творца павінен мучыцца акурат бясконцасцю Сусвету, павінен адкрыць для сябе якісьці незямны свет, рассунуць гарызонты сваіх пазнанняў, свядомасці (да прыкладу: у паэзіі — А. Разанаў). Інакш ён не зможа стварыць што-небудзь духоўнае, патаемнае, эзатэрычнае («сокровенное»). Бачыць толькі зямное, рэальнае жыццё здольны любы чалавек, а паэт падключаны да тайны, прынамсі, думкі ягоныя павінны лунаць крышку вышэй хоць бы амерыканскіх хмарачосаў. Але прымат быцця над свядомасцю гэтак зацэментаваў нашыя мазгі, што нават маленькае адхіленне ад нібыта нормы (малітва, вера ў Бога, містыка) успрымаецца як дзівацтва. У чалавеку па-ранейшаму сядзіць страх увахоДУ ў храм, які называецца коратка і проста — Душа. А, між іншым, пошукі ейнай бессмяротнасці, няхай нават марныя, адкрываюць пісьменніку нечаканыя ракурсы.

Тэмы, герояў, форму дыктуе сам час, яны як бы па-за намі, не залежаць ад нас. Мяняецца грамадская свядомасць — мяняецца і літаратура. Бо пісьменнік — часцінка грамадства, і часцінка найбольш адчувальная, якая мацней за іншыя вібрыруе, таму вастрэй, нават, я сказаў бы, звышэмацыянальна ўспрымае тое, што звычайны чалавек можа і не заўважыць. Таму генерацыя «другой літаратуры» прыйшла як **заканамерная** з'ява, як пратэст супроць закамплексаванасці, зашоранасці, аднастайнасці савецкай літаратуры. Толькі ні ў якім разе, на мой погляд, нельга ў творах карэкціраваць заднім розумам псіхалогію пэўнага прамежку часу. Большай страты для літаратуры не прыдумаеш.

Пісьменнік непазбежна ўступае ў канфлікт з сістэмаю. Бо кожная сістэма выпрацоўвае каштоўнасці пад сябе, у творцы ж яны пастаянныя — вечныя. А сістэма начальнікаў у грамадстве створана якраз дзеля заняволення, абмежавання чалавека. І таму літаратар у адказе толькі перад Богам, які надзяліў яго нейкім дарам, перад ягонымі ісцінамі. Для мяне адназначна, што чалавек бездухоўны, бязбожны цяпер, калі няма ніякіх ідэалогій-метадалогій, нічога вартаснага не створыць. Толькі ўдасканальваючы сябе, свой дух, атрымліваючы радасць ад таго, што не задумваеш зла, не паскудзіш іншым, можна разлічваць на новыя думкі, вобразы, нейк павышаць свой інтэлект. І тое, што немінуча прыходзіць да цябе ў знак аддзякі, трэба выяўляць бязлітасна-смела, шчыра, б е з а г л я д н а, інакш не раскрыць сваіх адносін да свету, патаемных токаў сэрца, без чаго творчасць уяўляе сумніцельную каштоўнасць. Можна гаварыць словы, але не мысліць, можна пісаць зграбныя сказы, але не тварыць паэзію. Толькі ў якой бы форме ты ні пісаў, твор павінен мець *нацыянальнасць*: пры ўсіх агульначалавечых каштоўнасцях, якія нясе герой, мне хочацца бачыць (без подпісу), беларусам гэта напісана альбо ўзбекам.

3. Творчы чалавек тым і шчаслівы, што перад ім ніколі не стаіць праблема, як «убить время». Лаўлю хараство імгнення. У тралейбусе — раптам убачыш сябе ў акружэнні кідка-прыгожых жанчын — і здрыганецца душа: «Які дзівосны свет!» На вуліцы — гледзячы на дрэва, падумаеш: нельга адкрыць як з'яву дрэва, але можна адкрыць трэшчыну на ім. Дома — здзівішся, як расплаўлены сонцам шакалад прыцемкаў наплывае на вокны, залаўняе пакой. Едучы ў электрычцы на дачу — ловіш вачыма сталёвыя рэйкі, што бягуць збоку, ламаюцца ў падвойным шкле і мякка гнуцца хвалямі, бы канаты...

Не люблю мітусні: усё, што можа пісьменнік, на што здольны, ён павінны гаварыць пяром.

# ЗНАЁМСТВА З «ПАЛАТАЙ РУКАПІСНАЙ»

Напрыканцы мінулага года ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет кніга, якая, безумоўна, можа стаць для «МЛ» свайго роду выданнем года. Канешне, выдавецтва шмат якімі кнігамі парадавала чытача, але такія, як «Палата рукапісная» Міколы Нікалаева, з'яўляюцца не часта. Малады даследчык, які жыве ў Санкт-Пецярбурзе, ступаючы па сутнасці па цаліку, даследуе беларускую рукапісную кнігу X—XVIII стагоддзяў.

Не сказаць каб яна не трапляла ў поле зроку іншых навукоўцаў. Ды ўся справа ў тым, што ранейшыя даследаванні прысвячаліся ці менш шырокаму перыяду, ці зборам, што захаваліся ў пэўных сховішчах. А М. Нікалаеў да праблемы падступіўся, так сказаць, комплексна. І сутыкнуўся з вялікімі цяжкасцямі. Давялося звяртацца ў розныя бібліятэкі, архівы не толькі Беларусі, але і замежжа, дзе зберагаецца сёння рукапісная беларуская кніга. Яна ж, як і ўвогуле нацыянальная культурная спадчына, раскідана ці не па ўсім свеце.

Пра ўсё гэта і гаварылася на прэзентацыі кнігі М. Нікалаева, якая прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. І пра падзвіжніцкі характар работы аўтара, і пра цяжкасці, з якімі давялося сутыкнуцца яму — М. Нікалаеў загадвае аддзелам у Нацыянальнай бібліятэцы Расіі, нядаўняй публічнай бібліятэцы імя М. Салтыкова-Шчадрына; і пра важнасць з'яўлення менавіта цяпер, у час Нацыянальнага Адраджэння, менавіта падобнага даследавання.

Адкрыла прэзентацыю дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Г. Алейнік. Пасля выступіла загадчык аддзела рукапісаў і старадрукаў Т. Рошчына. Пра тое, як ішла праца над «Палатай рукапіснай», расказаў загадчык рэдакцыі крытыкі і драматургіі выдавецтва «Мастацкая літаратура» Я. Лецка. Ён адзначыў, што М. Нікалаеў адкрыў новы, невядомы дасюль пласт беларускай культуры, звязаны з рукапіснай кнігай. Пошук маладога даследчыка ў гэтым кірунку працягваецца. Значыцца, можна чакаць і новых адкрыццяў.

Цікава было, зразумела, паслухаць прысутным самога аўтара, а таксама мастака У. Вішнеўскага, які афарміў «Палату рукапісную». Праца гэтая была адказнай, цяжкай. І не толькі таму, што трэба было ўмела спалучыць уласныя ілюстрацыі з тымі, што ўзяты са старадрукаў, чаго У. Вішнеўскі дасягнуў паспяхова. Ні для кога не сакрэт, наколькі сёння цяжка з фінансавымі затратамі. А такія ж кнігі, як кажуць, выходзяць у палепшаным паліграфічным выкананні. І тут У. Вішнеўскі выйшаў са становішча належным чынам. Кніга не толькі чытаецца, а і глядзіцца, яна стала і творам афармляльнага мастацтва.

Гаворку пра «Палату рукапісную» прадоўжылі дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны




А. Мальдзіс, В. Чамярыцкі, М. Ермаловіч і замежны госць, дырэктар Асацыяцыі цэркваў веры і служэння па СНД Дэйв Эсала.

Тут жа, у бібліятэцы, быў наладжаны продаж кнігі, а таксама іншых выданняў адраджэнскага характару.

**Н. К.**

## СВАЙГО РОДУ АНТАЛОГІЯЙ

беларускага дзіцячага фальклору ўспрымаецца кніжка «Пайшоў котка на базар», выпушчаная ўкраінскім выдавецтвам «Веселка». Яна невялікая памерам, але, дзякуючы даўняму сябру беларускай літаратуры Тамары Каламіец, атрымалася надзіва цікавай і змястоўнай. Тамара Панасаўна сабрала лепшыя беларускія народныя дзіцячыя песні, загадкі, скорагаворкі і пераклала іх на ўкраінскую мову. А мастак Аляксандр Арлоўскі намаляваў адпаведныя малюнкі. Ды такія, што дзіця, узяўшы зборнік у рукі, не хутка з ім развітаецца: ці само пачне чытаць творы, ці дарослых папросіць...

## НЯМА ТАГО, ШТО РАНЬШ БЫЛО...

Гэтыя знакамітыя радкі класіка як нельга лепш стасуюцца да дня сённяшняга. І зусім не таму, што некага апаноўвае настальгія па нядаўнім мінулым. Часта яны згадваюцца і зусім з іншай нагоды. Так, супрацоўнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча менавіта такую назву далі чарговай выстаўцы. Інакш і не скажаш, калі знаёмішся з 200 паштоўкамі, прадстаўленымі рыжскім мастаком і калекцыянерам, даўнім прыхільнікам нацыянальнага Адраджэння Вячкам Целешам: «Няма таго, што раньш было...» Няма колішніх вуліц, пабудоў, сярод якіх былі і тыя, што мелі гістарычную каштоўнасць. Няма, але воблікі іх захаваліся адлюстраваныя на паштовых картках, што выпускаліся да рэвалюцыі.

Дарэчы, частка гэтых матэрыялаў была выкарыстана ў кнізе «Мінск на старых паштоўках», выпушчанай некалькі гадоў назад. А чаму б не з'явіцца (і В. Целеш марыць пра гэта) падобнаму выданню больш шырокага профілю? Напрыклад, «Беларусь на старых паштоўках»?

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ І... БЫВАЙ

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыў свет чарговы выпуск зборніка «Дзень паэзіі». Свядома не называем яго гадавікоМ, бо гэтым разам ён ахоплівае не адзін год, як раней, а два: 1993 і 1994. Як кажуць, не ад добрага жыцця. З-за фінансавых цяжкасцяў выпуск «Дня паэзіі» вырашана спыніць. Нельга сказаць, ці назусім, але ў плане «МЛ» на 1995 год ён не значыцца.

Што датычыць «Дня паэзіі-93/94» (складальнік В. Шніп), дык аматары паэзіі маюць магчымасць найперш пазнаёміцца з новымі вершамі ўжо вядомых аўтараў (праўда, чамусьці прадстаўлены ў ім нават не ўсе народныя паэты). Багатай на імёны атрымалася падборка «Упершыню ў «Дні паэзіі». У якасці калектыўнага госця зборніка выступае Пастаўскае літаратурнае аб'яднанне «Світанак».

У раздзеле «З літаратурнай спадчыны» — балады А. Ходзькі, Я. Баршчэўскага, Т. Лады-Заблоцкага, перакладзеныя В. Шніпам і У. Мархелем, вершы Я. Крупенькі і Т. Чабан.

Артыкул А. Лойкі «Паэт красы, святла, любові» (пра М. Багдановіча), нарыс А. Марціновіча «Вырваўся з лёдавага панцыру» (адысея Станіслава Пятровіча Шушкевіча), згадкі С. Новіка-Пеюна «Дзядзька Гальяш Леўчык», слова У. Пучынскага-Пірага пра Я. Юхнаўца «Не хачу забыцца, кім я нарадзіўся» і яго вершы сабраны ў раздзеле «Пра паэтаў і паэзію».

«Па дарозе на Парнас» сустрэліся Савось Авось, С. Грахоўскі, М. Пазнякоў, В. Паўлітрук, А. Прыцэл, Я. Малец, А. Кудласевіч, А. Ненадавец, У. Мазго, І. Стадольнік, Г. Юрчанка.

Ды, як кажуць, усё гэта смех скрозь слёзы. Бо гэты выпуск «Дня паэзіі» сказаў нам не толькі «Дзень добры!», а і «Бывай...»

А. М.

## «ПОЛАЦАК», N 1

Часопіс адкрываецца артыкулам галоўнага рэдактара С. Белай «Беражыце свабоду!», напісаным як водгук на прыезд прэзідэнта ЗША Б. Клінтана на Беларусь. Гэтай жа падзеі прысвечаны і артыкул А. Белага «Прэзідэнт ЗША ў Беларусі».

Змешчаны працяг артыкула М. Белямука «Тапаграфія знаходак манет і аздобаў», «Сведчанняў Аркадзя Смоліча» («З архіваў КДБ»), заканчэнне артыкула В. Круталевіча «Янка Купала і нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне». Друкуецца рэцэнзія У. Гніламёдава на кнігу паэзіі замежжа «Туга па Радзіме», чарговы раздзел рамана М. Кавыля «З агню ды ў полымя», урывак з аповесці В. Санько «Воўка ты знойдзеш на сваю шыю», іншыя матэрыялы.

Паэзія

Леанід ГАЛУБОВІЧ



# І ЎСЁ НАНОВА НАПІСАЦЬ...

### ЗА ШТОРАЮ

На кухні,
дзе прытул
Мае займелі мроі,
Па вечарах з адзінага
ВАКНА
Звісае прад ваччу
Стракатая, як крылле матыля,
Шматколерная вусцішная штора.

...Блакітная вада...
Пясок,
шэзлонгі
Жоўтыя...
Атлас травы зялёнай,
Пальмы...
і кветкі на вадзе...
а на сурвэтках
Прынадны ананас
і кока-кола...
І — надпісы наўскосныя MIAMI,
Адбітыя лацінкай залатой...

Як ведаць хораша
За часам вечаровым,
Што свет мне не відзён
І я — нябачны...
І гойдацца на хвалях акіянскіх,
Ляжаць пад парасонам на шэзлонгу,
І есці ананас, і злізваць з пальцаў
Салодкі ліпкі і празрысты сок,
І запіваць ігрыстай кока-колай,
І мружыцца, гаванскую цыгару
Намацаўшы...
а — запаліўшы «Прыму»,
Як камбала пляскатую, сырую,
З гародзенскаю зацішлю шляхецкай,
Насілу выкрасаючы агонь
З барысаўскіх запалак,
прыбалдзеўшы
Ад блізкасці Айчыны...
О Гасподзь!
Каму якая справа ў гэтым свеце:
Чым я тручу сябе, як паміраю
За вусцішнай шматколернаю шторай
На кухні,
дзе павінна быць
АКНО

### ЛЁС ПАЛАТНА

Пасля Новага Года,
калі высахне горла
і дно
У бутэлечным вусцішным радзе...
На качалку накручвае маці мая палатно,
Нібы снег ацяжэлы на гурбу, —
дачка мая ў садзе...

Неўпрыкмет разбрыдуцца сябры
і згарчыць ад віна,
І абсвістаны свет не народзіць
зваротнае рэха...
Толькі маці на сэрца накручвацьме
лёс палатна,
І з касеты адкруціць дачка,
што накручвала П'еха...

Не паспееш абцерціся ў свеце:
нутро — як радно...
На сушэйшую купіну скокнеш
айчыннаю жабай...
Ды загорнецца маці
ў сатканае ёй палатно,
І растане, бы ў садзе
дачцыная снежная баба...

З адышоўшым вас часам,
сябры, што за ім адышлі!
Хай чысцеецца снег на прачулых
камп'ютэрных стужках!
Я хачу, каб мяне
ў палатнянай кашулі знайшлі
На даччыных льняных
і адбеленых лёсам падушках...

### БЕССЭНСОЎНЫЯ ЎЦЁКІ АД РЭАЛІЗМУ

...Трэба пісаць словы,
Вялікае мноства слоў,
Каб дайсці да высновы
Невыказнасці сноў...

Трэба плакаць начамі
І слёзы высушваць днём,
Каб убачыць вачамі,
А зразумець — нутром...

Трэба тварыць уяўнасць
З хаосу лятучых кроз,
Каб узвесці ў сапраўднасць
Свой чалавечы лёс...

Трэба трымаць волю,
Як звера, на ланцугу,
Каб не скарыцца болю,
А ўзгадаваць тугу
Па лёгкай нябеснай сіні,
Па чорных зямных грудах...
І раздзяліць між імі
І сутнасць сваю і прах...

### АДЗІНЫЯ СЛОВЫ

Мне цяжка даюцца прыгожыя словы
І ў сэнсе выявы і ў сэнсе абновы
Вядомых нам ісцін і пастулатаў...
«Бывайце здаровы, жывіце багата!» —
Гаворыць народ...
А запіша Русак,
І тым узаконіць мастацкі свой знак.
Альбо «Ручнікі» да Вярбы прыплывуць,
А людзі прачуюць — з-пад рук забяруць...

А я не магу і не так і не гэтак —
Паўвека шапчу свае словы без сведак.
А ў тым, што з карысці я ўсё ж друкаваў —
Найбольш эпігонства, чым шчырых выяў.

Адзіныя словы ў астрозе душы
Скрозь шчыліны воч пазіраюць на свет...
Здавалася б, выпусці іх — напішы!
І — што ж, вызваляў не адзін іх паэт,
Каб... сілай загнаць у квадратны куплет...

Ды так як дабро неадлучна ад злобы,
Так лучыцца слова з адзінствам асобы,
І мучыць цябе да апошняга дня,
Свайго не назваўшы прылюдна імя...

### ДАВЕДКА ПРА КУПАЛУ

*Пісьменнікам*
*Б. САЧАНКУ і Г. КОЛАСУ*

Так,
часта сустракаўся з Купалам
Апошнім часам,
і невыпадкова,
Бо на абсягах нашае Айчыны
Людзей тутэйшых выдае іх дух
Балотны,
і лясная мройнасць,
І вечнае пытанне: ДЗЕ АЙЧЫЗНА
МАЯ?
І тлумная самота
У высахлых і выстылых вачах...
«Нічога ў вас не выйдзе, —
ён казаў, —
СЯК-ТАК ваш ЦЯГНЕЦЦА
НА СВЕЦЕ ВЕК,
А я ПАМРУ, ТО БУДУ СПАЦЬ,
ЯК ПАН,
І СНІЦЬ, ШТО Я
ТУТЭЙШЫ ЧАЛАВЕК!
Бо ЎСЁ САЮЗЫ ў вас, УСЁ АПЕКУНЫ,
СЫНЫ ПАВЫРАСЛІ, НА ЛЕС,
вунь, ГЛЯДЗЯ,
Але ЦІ ПОМНЯЦЬ яны
ПЕСНЮ МАТКІ?
ВАРШАВА ПАНСКАЯ
І ЦАРСКАЯ МАСКВА
Яшчэ спаганяць з вас аброк за волю,
Ну, а ЖЫДЫ, ПАНЫ УСЁГА СВЕТУ
Не сплоцяць доўг.
Дарма ад іх чакаць...
А СЕРП І МОЛАТ,
што калісь НА ПАМЯЦЬ
НАМ ДАРАВАЛА ДОЛЯ,
Заменіць вам, магчыма, на Пагоню,
Усё тая ж доля,
але то — не воля...»
Так гаварыў.
...Аднак апошнім разам
Мы ўжо ў Маскве сустрэліся з Купалам,
У тым гатэлі і на тым паверсе,
На той пляцоўцы —
высахлы, бязлікі —
Сказаў ён мне, высільваючы словы:
«Я ЗНОЎ ЗАСНУЎШУЮ
БЫЛО ЖАЛЕЙКУ
БЯРУ І ПРОБУЮ Ў ЁЙ ГАЛАСОЎ:
Ды не хапае СВЕТЛЫХ,
ЗВОНКІХ ДУМАК-СЛОЎ,
Не йдзе ўжо ГЛАДКА
ПЕСНЯ-ДАБРАДЗЕЙКА...
Не йдзе, не йдзе, хоць плач...
ПРЫСТАЎ Я ЖЫЦЬ
НА БЕЛЫМ СВЕЦЕ...
А — вы, што ж — вы, лапцюжнікі, рабы,
Што ж — вы?!!»
І тут я не стрываў,
І выказаў яму,
і — паміж намі,
Як лёсу дно, а можа, — паратунак,
Зазяў
глыбокі
лесвічны
пралёт
. . .
Таму — пакіньце спрэчкі і здагадкі
І не шукайце ўрэшце вінаватых...
Я!
Толькі я — апошнім быў з жывых,
Хто вёў размову з мёртвым...

### АДВОЛЬНЫ ВЕРШ ДА НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

Пад шэрым айчынным небам
Мне хораша сёння ведаць,
Што недзе ў далёкай Амерыцы
Жыве сівая бабуля,
Ды кажуць, даволі жвавая —
Сочыць яшчэ за модай
І за сваёй паставаю...
Хапіла б, урэшце, й гэтага,
Каб увайсці ў хаўрус
Няўрымслівых летуценніц...

...Я з Вамі не сустракаўся
У гэтым выжытым веку,
Ды, пэўна, усё ж сутыкнуся
Хоць бы ў веку наступным —
Там, на яго прыступках,
Каля апостала Паўла...

Праўда, чытаў я жыццяпіс,
Даў Бог, яшчэ не завершаны,
Ваш
у савецкім друку
І ў нацдэмаўскіх ксераксах,
Адкуль зразумеў бясспрэчнае:
Што кожнае слова Паэта
Асвістана куляй свінцовай,
А Ваша — замоўчана немасцю
І рабскаю глухатой...
Да «фені» ім быў Ваш Феб.
Прабачце.
Таму і ўрозгалас —
Анафему і Алілуя —
Спявалі «чырвоныя» й «белыя»
Пакуль не змяшаліся колеры...
Цяпер — усім не да Вас.

Чытаю ПАД СІНІМ НЕБАМ
Я Ваш факсімільны зборнік,
І восеньскія матывы
надзёмным мяне гнятуць...
Як трапна Вы апісалі
Пейзаж майго наваколля
І нават мае настроі
Яшчэ да майго нараджэння!..

Арсенневы — род прарочы.

Прачытваю Вас,
спадарыня
Наталля,
а мне ўсё чуецца
Радок ад Міхайлы Юр'евіча,
Ну, той, што з Вашым мяжуецца,
Але, на жаль, не рыфмуецца,
І Ваш радок прыгнятае,
Як Дэман Тамарын дух:

С ТЕХ ПОР КАК ВЕЧНЫЙ СУДИЯ...

Таму шкада мне, што ні Вы, ні я
Не пасыпаем попелам галовы...
З якой нагоды!?
Не прарокі мы,
Хоць ведаем свае вытокі
І прыстань мройную сваю
МІЖ БЕРАГАМІ...

МАГУТНЫ БОЖА! УЛАДАР СУСВЕТАЎ
Ды не асудзіць Вас,
Бо дастаткова мы асудзілі тут...
Прабачце нам
за наш смяротны клопат.

*г. Менск*
*20-IX-93 г.*

●

Усе — апошні верш і першы —
Знямеюць,
сціхне іх гурма,
Бо ні ўва мне самім, ні ў вершы
Усё ж дасканаласці няма...

...А каб напісанае сцерці
І ўсё нанова напісаць,
То трэба, перш за ўсё, памерці,
І — немаўлём з магілы ўстаць...

Проза

# ЭЦЮДЫ

Алесь АСТАШОНАК



## СОН?..

Я, малады чалавек, абагаўляю аднаго старога. Здаецца, нічога для яго не існуе, апрача ягоных кніг, напісаных і прачытаных ім, мала каму зразумелых. Здаецца, усё яго жыццё праходзіць у кабінеце-бібліятэцы, сярод фаліянтаў і рукапісаў, і Герадот, Спіноза ці Дантэ ў тысячу разоў бліжэйшыя да яго, чым любы жывы чалавек, а праблема, скажам, аб імператыўнай форме кантаўскай этыкі для яго нашмат важнейшая за любую нястачу хлеба, адзежы й цяпла.

І раптам я бачу, як ён — мусіць, думаючы, што ніхто на яго не глядзіць, а, можа, у нейкім забыцці — выглядвае нешта, круцячы шыяю так, што, здаецца, зараз яе зверне, у грудзе смецця ў закутку двара.

Збянтэжаны, я ажно рот разявіў, не веру сваім вачам, зрок — падманшчык, зрок — ашуканец, не першы я раз махлюе, прайдоха, са мною.

Няўжо мой кумір жыве яшчэ нечым іншым, апрача кніг? Няўжо можа ён быць заняты нейкім... смеццем?.. Аж вымаўляць... гэта — няёмка, сорамна, смешна. Няўжо гэты мудры стары можа корпацца ў... Даруйце, ён, які ігнаруе не тое што мітусню — нават самую будзённасць?.. І што ён там можа вышукваць?!.

Я праціраю вочы, узіраюся — стары разварушвае кульбаю смецце.

О, як роспачна мне — якое ганебнае відовішча паўстала перада мною!.. Якая крыўда бязмежнай маёй у яго веры, якая поўха маім ілюзіям, якая абраза майму самалюбству — я ж быў сляпы!..

Я заплюшчваю вочы і зноў з надзеяй углядваюся ў старога.

Не можа быць, каб ён корпаўся ў смецці — гэта ўсяго толькі мроіцца мне, гэта звычайны сон.

Стары, азірнуўшыся, пераканаўся, што за ім ніхто не цікуе, і, адкінуўшы кульбу, якою варушыць смецце, лезе ў яго, каб зручней было, рукамі.

Пад пахаю ў яго — том «Свабода думкі ў Кантэ і Фіхтэ», ягоны апошні трактат.

## ЖЫЦЦЁ

I

Дзіўна, але прыкмеціў, што не люблю двухкроп'е — бо ўсё так ясна ў няўмольнай ягонай перакананасці, — здаецца, думцы робіцца цесна ў гэтай сваёй скончанасці...

Мне даспадобы працяжнік, які стралою нясецца наперад, — ён пакідае для думкі прастору...

Значыць, пішу не для таго, каб расстаўляць кропкі над «і» — мусіць, не веру ў такую мажлівасць слова...

Пішу, спрабуючы большыць яснасць, якая здаецца мне непахіснай, што жыццё — як працяжнік, стралою нясецца наперад, — і ніколі не будзе ў ім скончаных фраз — толькі адзін няспынны, імклівы рух — адзін нястрымны вечны працяжнік...

II

Чытае ці запісанае і забытае:

«Жывём па графіку. У кожнага свой графік, кожны паспее туды, у адведзены яму час, калі толькі не будзе жыць, задужа выбіваючыся з гэтага графіка, як гэта рабілі багата якія нябожчыкі».

III

Жыццё — калі жывеш. Смерць — калі паміраеш. А калі жывеш паміраючы ці паміраеш жывучы? Ці калі ўжо памёр, але яшчэ жывеш? Што тады? Жыццё-смерць? Смерцьжыццё? Жыццё і смерць заўсёды — у дзіўнай повязі. Калі б чалавек стаў бессмяротным, чым тады зрабілася б ягонае існаванне? Вечным жыццём? Наўрад ці. Калі не сказаць разчэй: лухта. Жыццё ўсё-такі — гэта калі чалавек неадменна ў рэшце рэшт памірае. Толькі тады яно мае смак. Толькі тады спакуса жыццём перамагае спакусу смерцю. Бессмяротны, чалавек стаміўся б ад жыцця і найбольш прагнуў бы смерці — як збаўлення, як паратунку, як боскае ласкі. Нават калі б жыццё было перапоўненым. Жыццё без смерці — нішто. Маючы смерць, мы шчасныя, што маем жыццё, і, маючы такое жыццё, мы асцерагаемся смерці.

## ДВОЕ

— ...А потым мы ехалі па шашы. Дзень быў сонечны. Сонца проста сляпіла вочы, і я не мог глядзець на яе.

— Але...

— Але я бачыў яе. Я бачыў, прыжмурыўшы вочы, як яна смяялася — там, на беразе. Мне здавалася, я руку мог тады працягнуць да яе смеху. Яна бегла насустрач мне па пяску, быў вецер, і валасы так...

— Што ты маўчыш?.. Што — валасы?

— Слова не магу знайсці. Яе валасы... Не, не магу.

— Словам, усё было, як у кіно. Працягвай без валасоў.

— Пясок быў белы і чысты. Хвалі... Не, хваляў не было. Гэта ж рэчка. Мне здавалася, што былі хвалі.

— Вядома — здавалася. Табе многае здавалася.

— Усё. Кончана. Болей я не буду.

— Працягвай.

— Бераг быў пустынны. На ім, як ні ахопіш вокам, нікога не было.

— Толькі вы... У яе былі прыгожыя доўгія ногі. Не, яны ў яе ёсць. Яны ж нікуды не падзеліся, яе доўгія прыгожыя ногі? І спіна... Як ты мне сказаў?.. Прыгожая выгнутая спіна... Гэта калі яна не бегла... Калі сядзела і перабірала рукамі пясок... Чысты белы пясок. А потым яна бегла... бегла насустрач табе...

— Не трэба, напэўна... Хопіць ужо.

— Мы ж дамовіліся?.. І ты даў мне слова. Працягвай.

— Мы ехалі па шашы.

— Не, раней што было?

— Мне здавалася, мы адны на гэтым беразе. Не, мы і праўда былі там адны.

— Быццам гэта мае нейкае значэнне. Табе здавалася, вы адны ў гэтым свеце. Ты — і яна. Ну?..

— Гэта невыносна.

— Не, ты працягвай. Я хачу ведаць усё.

— Я ўсё роўна як засну.

— І?..

— І ўсё.

— Тады я за цябе буду расказваць. Табе здавалася, вы адны — і там, і тады, і ўвогуле: і сёння, і заўтра, і ўчора, — і нікога болей няма. І нікога болей не трэба. Табе нічога больш не хацелася. Ты ўсё роўна як заснуў — гэта так, я веру. У вас быў прыгожы сон, а я тым часам, дурная, чакала цябе. Хадзіла па магазінах, шукала табе касцюм. Шторы для нашай новай кватэры.

— Я пайду зараз. Я не магу больш так.

— Зможаш. Ты раскажаш мне ўсё. Усё — да драбніц... Яна бегла насустрач табе, і ты быў самы шчаслівы ва ўсім свеце. Зрэшты, не. Ва ўсім свеце больш нікога не было. Толькі вы. Ты — і яна. Ты забыўся на ўсё, бачыў адзін яе твар. Добра што хоць бераг убачыў... Пі. Пі, табе цяпер трэба. Таксама ж, відаць, цяжка. У яе былі доўгія валасы, так?

— Не, у яе кароткая стрыжка.

— А зубы белыя й роўныя — як у кіно.

— Далося табе гэтае кіно... Горкае віно.

— Выпі вунь тое — яно салодкае. Вы ехалі па шашы. Дзень быў сонечны, і ты не мог глядзець на яе. Але бачыў, якая яна была на тым беразе.

— Не, не тое што зусім не мог глядзець, інакш...

— Інакш табе было б цяжка растлумачыць мне, чаму ты не вытрымаў. А яна, напэўна, была ў акулярах? Яна носіць акуляры?

— Носіць.

— Прыгожыя акуляры? Вялікія?

— Прыгожыя і вялікія.

— Італьянскія?

— Чаму — італьянскія?

— Цяпер усе носяць італьянскія. Іх усюды прадаюць. А ў яе?

— Не ведаю. Я не прыглядваўся.

— На іх лэйбачка павінна была быць прыклеена. Зялёна-бел-чырвоны сцяжок. І надпіс: «Мэйд ін Ітэлі». А чаму ты папрасіў яе спыніцца?

— А з чаго ты ўзяла, што я папрасіў яе гэта зрабіць?

— А з таго, што так было. Ну?..

— Яна сказала, што, напэўна, не хопіць бензіну, і спыніла машыну. Выйшла.

— Шаша была пустая?

— Пустая.

— І непадалёк быў лес. Спачатку ўскраек, а неўзабаве гушчар.

— Яна выйшла, а вярнуўшыся, сказала, што бензіну, напэўна, і праўда не хопіць.

— І ты ўзрадаваўся?

— Не, не магу я так, ты разумееш?!

— Я ж сказала табе: я пытаюся — ты адказваеш. Мы дамовіліся. Ты парушаеш слова.

— Я не ўзрадаваўся.

— Ты спалохаўся. Табе зрабілася страшна. Але ўсё роўна ты ўзрадаваўся. Ты гэтага хацеў.

— О Божа!

— А вы дзе пачалі цалавацца? У машыне ці ў лесе?..

## ПАРАДОКСЫ — ТРОХІ ПРА СЯБЕ

Жыццё, як вядома, — скрозь адны парадоксы.

І, адпаведна, літаратура.

Парадаксальнасць пісьма становіцца істотным вымярэннем ягонай вартасці.

Парадаксальнасць учынкаў дзенідзе ўваходзіць у моду. Хто-колькек абірае яе ладам жыцця.

Згадаю найбольшыя, найпамятнейшыя свае парадоксы.

Самы моцны ў жыцці смутак я адчуў пасля сваёй першай прэм'еры. Маладзён, поўная зала, воплескі, клічуць на сцэну аўтара, — і як цяжка назаўтра жыць, як цёмна ўвачку, быццам узваліў на сябе нейкі цяжар і пакінуў ужо ў незваротнай мінуўшчыне штосьці невызначальнае, з чым пачувалася лёгка душы — нешта набыўшы, ці не большае страціў.

Самы трывіяльны парадокс: з тых, хто вучыўся са мною разам у інстытуце, кар'еру зрабілі амаль адны толькі шэрыя. Яркія, непранумараваныя, — мала ведаю, дзе цяпер хто. Чаму паміраюць самыя лепшыя, чаму співаюцца самыя здольныя, чаму выжывае цвіль? Чаму яна множыцца, усюдзіцца, заканапачвае кожную шчыліну? Дыхаць няма чым, а цвілі ад лішку паветра ўжо распірае грудзі?

Самы прыемны (майму самалюбству) парадокс. Усё жыццё меў клопат з уласнай пластыкай. Даволі часта было цяжка рухацца перад людзьмі, калі цябе разглядваюць — калі праходзіў цераз залу, каб запрасіць дзяўчыну на танец, пазней, пэўны час, пакуль не прызвычаіўся, не «пабцёрся», калі падымаўся на сцэну. Не ведаў, куды дзець рукі, ногі, вочы, здаваўся сабе нейкім драўляным. А выштурхнулі ўпершыню ў жыцці, ажно ў трыццаць шэсць гадоў, на сцэну акцёрам — за мяжою, міжнародны фестываль, элітарная публіка, партнёры-прафесіяналы, — і раптам, на нейкім аўтапілоце, свабода ў руху і самапачуванні.

Гэта, дарэчы, была найвялікшая перамога ў маім жыцці. Мой трыумф. Ніколі болей не адчуваў я такога шчасця, як адразу пасля заканчэння таго спектакля. Фатаграфіі, што засталіся ад яго — для мяне рэліквіі.

Як драматург я спазнаў дзесяткі спектакляў, як акцёр — толькі два. Я мог бы стаць акцёрам, хоць прызначэнне маё, мяркую, — усё-такі пісаць. А цяпер ад тэатра амаль адвярнуўся, нават як глядач хаджу туды толькі зрэдзьчасу. А былі ж гады, калі зусім не прызнаваў кіно: сцэны не хапала, жывога акцёра. Самы лепшы фільм здаваўся мне «выхалашчаным» падабенствам вялікага тэатра. І проза ў мяне, дагэтуль чую — можа, й не памыляюцца людзі — часта бывае тэатральная.

А як часта ў жыцці чым больш любіў, тым больш крыўдзіў. І злоснікам сваім, здаралася, дабро рабіў.

Парадокс на парадоксе.

Самы першы парадокс, які згадваю...

Дзве гадзіны ўспамінаў.

Заўсёды мне здавалася, што я такі добры, якім ніхто іншы й быць не можа, а ў дзевятнаццаць гадоў раптам адкрыў у сабе такую жорсткасць, што жахнуўся, — да самай апошняй пары сорамна-страшна было ў ёй прызнацца. Яна што — спала ўва мне? Я ж не памятаю за сабою да таго здарэння аніводнага жорсткага ўчынку.

Самы апошні парадокс — перад вамі: парадоксы ў мяне цяпер не згадваюцца.

Парадоксы, мабыць, і праўда не адступаюцца ад нас.

## МЕТАМАРФОЗЫ

Метамарфозы праследуюць нас па пятах.

Метамарфоза пачынаецца ўжо з таго, што кожная істота расце.

У рэшце рэшт смешнае шчанё ператвараецца ў злога мопса, дзіцянё можа стаць монстрам — гэта вялікія метамарфозы, але ўжо адно фізічнае сталенне, а потым старэнне — ператварэнне-дзіва.

Апалонік ператвараецца ў варапаўку, вусень — у матылька, карань — у клубняплод.

Ператвараецца нежывое: будынак з найноўшага становіцца архаічным, квадрат з геаметрычнай фігуры ператвараецца ў твор мастацтва.

Каханне пераходзіць у нянавісць.

А нянавісць — у каханне?

У метамарфозах сваіх яны пераплятаюцца.

Жанчыны становяцца мужчынамі, мужчыны — жанчынамі. І на апера-

(Працяг на стар. 10)

# «ЦЕРНІЦА» ЖЫВЕ ЛЯ КРЫНІЦ



**У Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў адбыўся юбілейны канцэрт лаўрэата міжнародных і рэспубліканскіх фестываляў народнага ансамбля песні «Церніца».**

**Гэтым мілагучным беларускім словам у 1984 г. назвалі калектыў — па назве першай *выкананай ім народнай песні*. Сваёй назвай ансамбль як бы падкрэслівае непарыўнасць народных традыцый і народнай мастацкай творчасці. Дык што такое «Церніца»? Гэта — драўлянае прыстасаванне для апрацоўкі лёну, «Церніца» — гэта і беларускі танец, які выконвае ансамбль.**

**Мастацтва калектыву атрымала вялікае прызнанне і любоў у рэспубліцы. За 10 гадоў творчай працы ён браў удзел ва ўсіх раённых і гарадскіх святах. Яму апладзіравалі таксама гледачы Масквы, Кіева, Тбілісі, Карэліі, Архангельска. З 1986 г., калі Беларусь напаткала чарнобыльская бяда, ансамбль 37 разоў ездзіў у Гомельскую вобласць, Брагінскі, Хойніцкі раёны. Нядаўна па ініцыятыве І. Лучанка адбылася дабрачынная акцыя *«Чарнобыльскі шлях»*, і артысты наведалі 14 раёнаў. Толькі для вёсак Віцебшчыны і Гродзеншчыны дадзена больш як 8000 шэфскіх канцэртаў. З поспехам прайшлі гастролі ў Польшчы, Германіі, Італіі, Францыі.**

**«Церніца» жыве ля крыніц народнай творчасці. Пошук народнай песні, увасабленне і захаванне яе вызначае працу таленавітых кіраўнікоў — Г. Сарокі і І. Несцяровіча. З вялікага песеннага матэрыялу яны стараюцца выбіраць тое, што не спяваюць у іншых калектывах. Рэпертуар «Церніцы» папаўняецца лепшымі ўзорамі народнага музычнага і танцавальнага мастацтва, якія беражліва збіраюць кіраўнікі і ўдзельнікі ансамбля, выязджаючы ў фальклорныя экспедыцыі па Беларусі. У выкананні «Церніцы» ўражваюць задушэўныя «Ой, вецер вее», «Ой, ты, сонейка яснае» і зухаватыя жартоўныя «Рукавічкі», «Цячэ вада ў ярок», карагодныя «Па лужках», «За гарамі, за даламі» ў пастаноўцы М. Ягорава, гульневая «Вазьму я казла», полькі, кадрылі, прыпеўкі. Ёсць у праграме вакальна-харэаграфічныя малюнкі і кампазіцыі, як *«Палескія гульні» ў пастаноўцы В. Гаявой*, створаныя на музычным матэрыяле Гомельшчыны. Асабліва вылучаецца нядаўняя работа паводле беларускага музычнага абраду «Каравай» (музычная апрацоўка М. Сіраты).**

**А кампазіцыя на тэмы беларускіх песень «Жніво» ў пастаноўцы В. Гаявой і В. Варановіча! Песні гэтыя сапраўды народныя, без якіх-небудзь слядоў стылізатарства. Іх вызначае шырокая напеўнасць, задушэўнасць і выконвае іх «Церніца» з чыстай інтанацыяй, добрай дыкцыяй, мяккасцю гучання, цеплынёй.**

**Галіна Сарока ды Іосіф Несцяровіч выяўляюць народных самародкаў і дапамагаюць ім. Самадзейныя артысты вучацца правільна валодаць голасам, займаюцца акцёрскім майстэрствам, харэаграфіяй, асвойваюць розныя музычныя інструменты, такія, як дуда, ліра, цымбалы, жалейка, дудка, баян, скрыпка, гармонік, ударныя, бас.**

***Хай спадарожнічае «Церніцы» вялікі творчы* поспех, які здабываецца працай і толькі працай.**

**Надзея МІЦУЛЬ,**
**студэнтка універсітэта культуры**

# НЕ МЕРАПРЫЕМСТВЫ, А СВЯТА

**Каля двух тыдняў у Гродзенскім палітэхнікуме доўжылася свята, прысвечанае 50-ым угодкам вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З вуснаў чытальнікаў конкурсу вершаў гучалі радкі як прафесійных, так і самадзейных паэтаў. Адбылася прэзентацыя зборніка вершаў навучэнцаў тэхнікума «Першыя кроплі». Выступілі самі аўтары А. Масько, К. Максімчык, А. Бяцейка, Л. Сяк і іншыя.**

**Зборнік атрымаўся прыгожы — з фотаздымкамі, ілюстрацыямі, якія таксама падрыхтавалі навучэнцы.**

**Цікавай і змястоўнай была выстава мастацкай і тэхнічнай творчасці навучэнцаў і выкладчыкаў. Адбыліся і сустрэчы з ветэранамі вайны.**

**Т. РАЖКО**

Музыка

# КАЛІ СВЕЦІЦЬ ЛЮБІМАЯ ЗОРКА

## ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА НАРОДНАГА АРТЫСТА БЕЛАРУСІ Б. ПЕНЧУКА

Тры чвэрці стагоддзя... Складанага, бурнага, насычанага калізіямі. І шэсць дзесяцігоддзяў натхнёнага творчага шляху... Пра гэтага чалавека можна было б напісаць раман з цікавым сюжэтам, крутымі паваротамі лёсу (як у кожнага вайскоўца, былога франтавіка, што аддаў арміі сорак з большым гадоў жыцця). Барыс Міхайлавіч Пянчук — *натура неардынарная*, з ліку яркіх дзеячаў мастацтва духавой музыкі: дырыжор, педагог, аранжыроўшчык, музычна-грамадскі дзеяч, асветнік, прапагандыст.

Яго бацька — Міхаіл Трафільевіч Пянчук быў вядомым капельмайстрам духавога аркестра, выхаванцам Петраградскай кансерваторыі па класе сусветна вядомага трубача-саліста, прафесара Аляксандра Бернгардавіча Гардона. Высокі аўтарытэт бацькі стаўся прыкладам для сына. Барыс Пянчук з маленства (а дзіцячыя гады яго прайшлі ў Ленінградзе — адным з буйнейшых сусветных музычных цэнтраў) быў захоплены мастацтвам духавой музыкі. Пятнаццацігадовым юнаком ён пачынае сваю працоўную дзейнасць на Кіраўскім (былым Пуцілаўскім) заводзе ў якасці слесара-лякальшчыка, а ўвесь вольны час аддае музыцы. З завода ідзе добраахвотнікам у шэрагі Чырвонай Арміі, потым робіцца салістам-трубачом палкавога аркестра і *адначасова — студэнтам Ленінградскага* музычнага вучылішча N 1. Праз год чырвонаармеец Барыс Пянчук быў рэкамендаваны, як адзін з лепшых музыкантаў, для паступлення на ваенна-дырыжорскі факультэт пры Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі.

У 42-м Б. Пянчук паспяхова закончыў лепшую музычную ВНУ СССР. Яго настаўнікамі былі такія гранды духавой музыкі, як А. Чарнецкі (клас страявога дырыжыравання), Г. Орвід (клас трубы), Ю. Цімафееў (інструментоўка), М. Іваноў-Радкевіч (асновы кампазіцыі), А. Цэйтлін, Д. Свярчкоў (канцэртнае дырыжыраванне), М. Готліб (фартэпіяна). У цяжкі ваенны час, атрымаўшы спецыяльнасць ваеннага дырыжора, Б. Пянчук накіроўваецца ў дзейную армію на Волхаўскі фронт.

«Гэта былі найцяжкія баі з пераважнымі сіламі праціўніка, — успамінае Барыс Міхайлавіч. — Па пояс у вадзе, прамерзлыя і нярэдка паўгалодныя, пад ураганным агнём праціўніка, мы не думалі пра адступленне. У хвіліны слабасці хіба зайздросцілі параненым, бо яны маглі хоць адаспацца і сагрэцца». Але гэтая доля не абмінула і Б. Пенчука. У адным з баёў ён быў цяжка паранены і ўжо не змог служыць у часцях дзейнай арміі па стане здароўя, таму быў накіраваны на працу *ў якасці дырэктара і ваенрука сярэдняй* школы ў Чувашыю. Так 24-гадовы воін акунуўся ў новую для сябе стыхію, стаўшы арганізатарам, педагогам, выхавацелем. Але ён песціў надзею — вярнуцца ў строй, зноў узяць у рукі дырыжорскую палачку...

У пасляваенны час Б. Пянчук займае высокія пасады ў галіне ваеннай духавой музыкі: дырыжор узорнага аркестра штаба Ленінградскай ваеннай акругі; інспектар аркестраў і галоўны дырыжор Паўднёвай групы войск (Венгрыя)... А больш за 30 гадоў рыцар духавой музыкі Барыс Пянчук верай і праўдай служыць народу Беларусі — з 1962 г., калі ён быў прызначаны начальнікам ваенна-аркестравай службы, галоўным дырыжорам аркестраў Беларускай ваеннай акругі. Ужо ў 63-м Барыс Міхайлавіч выступае ініцыятарам правядзення рытуалу марш-парадаў ваенных духавых аркестраў Мінскага гарнізона і канцэртаў зводных аркестраў. Такія святы ваеннай духавой музыкі праводзіліся ў сталіцы аж да моманту дэмабілізацыі Б. Пенчука. Акрамя таго, яму неаднаразова даручалася арганізоўваць і ўзначальваць розныя агляды-конкурсы, прынамсі, быць галоўным дырыжорам І Рэспубліканскага агляду-конкурсу дзіцячых духавых аркестраў, калі зводны калектыў у складзе 1200 юных музыкантаў расчуліў сэрцы тысяч мінчан. Незабыўным было і выступленне на Цэнтральнай плошчы Мінска зводнага духавога аркестра ўдзельнікаў І-га Усесаюзнага свята духавой музыкі пад кіраўніцтвам Б. Пенчука: мала хто з удзячных слухачоў ведаў, каму яны абавязаны за гэтыя хвіліны асалоды, бо бачылі гэтага чараўніка гукаў некалькі соцень чалавек, а чулі — некалькі тысяч.

Невыпадкова, што летась у Брэст, на рэспубліканскае і абласное свята музыкі ў якасці галоўнага дырыжора і галоўнага рэжысёра запрасілі менавіта Б. Пенчука.

А яшчэ Барыс Міхайлавіч унёс пэўны ўклад у папаўненне і абнаўленне рэпертуару духавых аркестраў: гэта творы ў жанры марша («Беларускі марш», «Партызаны Беларусі», «Беларускі маладзёжны марш на *тэмы песень Ігара Лучанка»*, «Страявы марш на тэмы песень Юрыя Семянякі» і шэраг іншых). Акрамя таго, Б. Пянчук — аўтар многіх навукова-метадычных прац, у прыватнасці, *вядомай сярод* музыкантаў-духавікоў «Дырыжору духавога аркестра». Ягонаму пяру належыць вялікая колькасць інструментовак і пералажэнняў для розных складаў духавых аркестраў.

Самую правільную, неаспрэчна аўтарытэтную ацэнку мастаку-музыканту выносіць час. Творчасць Барыса Пенчука вытрымала выпрабаванне часам. І гэта — факт. Можна любіць альбо не любіць дырыжора, ягоную творчасць, але нельга не захапляцца рыцарскай адданасцю маэстра мастацтву духавой музыкі, глыбокай верай у яе выхаваўчую і прапаведніцкую місію. Дарэчы, за тры дзесяткі гадоў Барыс Міхайлавіч падрыхтаваў у сценах Беларускай кансерваторыі (цяпер Беларускай акадэміі музыкі) шматлікі атрад высокакваліфікаваных спецыялістаў-дырыжораў, артыстаў сімфанічнага аркестра, аркестра радыё і тэлебачання Рэспублікі Беларусь, выкладчыкаў музычных навучальных установ.

Яму і сёння ўдаецца захоўваць юнацкую *захопленасць у працы, ажыццяўляць паста*янны пошук новых форм, метадаў у навучанні, шукаць новае, быць прынцыповым у ацэнках і чуйна, клапатліва ставіцца да людзей. Шэсцьдзесят гадоў Барысу Міхайлавічу Пенчуку свеціць шчаслівая зорка любімага мастацтва...

**Міхась СОЛАПАЎ,**
**прафесар Беларускай акадэміі музыкі, заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі**

# ЭЦЮДЫ

*(Пачатак на стар. 9)*

цыйным сталe лякарні, і на прэпарацыйных сцяжынах жыцця.

Тэорыя метампсіхозу сцвярджае, што і смерць пераходзіць у жыццё. Душа памерлае абалонкі трапляе ў новую абалонку і ажыўляе яе — метамарфоза ў абсалюце.

А дзіўнасці кармы?..

Метамарфоза такая неадступная ад нас, што пра яе й пісаць банальна.

Дык што — яна ўсёўладная?

Але ці можа чалавек-звер ператварыцца ў чалавека? Ці можа пакаяцца монстр?

Ці можа нядзара стаць мастаком, талент — геніем, геній Талстога — геніем Моцарта?

Што ж — на многіх тэрыторыях ёсць перакрытыя ўваходы. Нават для ўсемагутных.

Але ж ці паражэнне гэта метамарфозы?

Гэта — яе трыумф.

Метамарфозу стамляе аднастайнасць уласнага пераможнага існавання, і яна ратуецца ад нуды. Ледзь не памёршы ў сваёй рухавасці-скамянеласці, яна ажывае — і зведвае свой узлёт.

Толькі незакончанасць не дае ёй страціць сэнс і найменне.

І, будучы не-метамарфозай, яна ёсць ні чым іншым, як метамарфозай.

Метамарфозаю ў сабе.

## ЖАНЧЫНА

Нехта сказаў: кахаеш адну, сустракаешся з другой, жэнішся з трэцяй... Кахаеш, нарэшце, трэцюю, бо раскрываеш яе, бо яна сама табе адкрываецца... Сустракаешся, можа, на жаль, а для некага, даруй, мараль, і на шчасце, з чацвёртай... Праходзіць час, і не пазнаеш ні першую, ні трэцюю, не кажучы ўжо пра астатніх... Усё мінае, як сон, бо й ёсць сон... Глядзіш на яе — першую, трэцюю і думаеш: няўжо гэта й ёсць яна, тая, з якой пражыў ты столькі радасцяў-хваляванняў, няўжо з-за яе быў такі шчаслівы й гэтак пакутаваў?.. І першая, і трэцяя, і чацвёртая, і нават другая могуць і кахаць цябе і ненавідзець, і пачуцці гэтыя будуць то чаргавацца ў ёй, то суплятацца, то лучыцца-мяняцца адначасна... І ў цябе — таксама... Усё, як у сне — перамяшанае, незразумелае, заблытанае...

Жанчына — сон, які мы сабе выдумляем?.. Ці жанчына выдумляе нам сябе як сон?.. Відаць, і тое, і другое, але найбольш усё-такі другое... Бо не так, мяркую, мужчына жыве ў сне жанчыны, як жанчына — у ягоным сне... Хоць, зрэшты, як на гэта глядзець, з якога сну... Але ўсё роўна: жанчына — гэта такі сон, які можа перакрыць усе сны... Бо й першая, і трэцяя, і чацвёртая, і нават другая могуць стаць сном на ўсё жыццё... Дай Бог, каб гэтак здарылася з першай ці з трэцяй, што стане ўрэшце першай... І, зрэшты, якіх толькі цудаў ні бывае ў гэтым асветленым то сонцам, то месяцам, то поўняю, то цемраю свеце... Цемра ж таксама багата чаго высвечвае... Нават у жанчыне...

Для многіх, для многіх жанчына — найвялікшы сон...

Хіба што творчасць у мастака можа тут стаць жанчыне спаборніцай.

## ПІСЬМЕННІК І БОГ

Пісьменнік, калі хоча лічыць сябе такім, можа тысячу разоў памыляцца ў жыцці й рабіць тысячы памылак, самых недаравальных і нават, на жаль, брудных. Але, калі ён сядае за аркуш паперы, яму застаецца адно-адзінае дазвання чыстае, што засталося ў ягоным жыцці — споведзь на гэтым аркушы. Перад людзьмі, перад Богам, перад самім сабою, перад Богам, які спрабуе выжыць у нашай душы, перад мамаю, што памерла, пражыўшы жыццё ў нястачы, грашовай і духоўнай, перад сястрою ці братам, якія мусілі нарадзіцца і не нарадзіліся, перад дзядзькам, які загінуў у дзевятнаццаць гадоў за некалькі дзён да заканчэння вайны і ў гонар якога яго назвалі, не ведаю, перад кім яшчэ, — перад усімі разам. І тады ён усё кажа, як перад Богам. Калі толькі хоча адчуваць сябе пісьменнікам і звацца ім. Прынамсі, быць ім у сваіх уласных ды боскіх вачах. Таму што пішам мы ўсё-такі, перакананы, перадусім дзеля Бога ў нашай — не буду даваць блытаных вызначэнняў, бо іншыя й даць нельга, — душы.

ЛіМ
ЧАСАПІС



## «СПЯВАЕ ШКОЛА — СПЯВАЕ НАРОД»

**Гэтае вядомае выслоўе нагадаў паэт С. Панізнік, вядучы сустрэчы школьнікаў сталіцы з кампазітарам Алегам Чыркуном, наладжанай у Доме літаратара. Юныя слухачы цёпла прынялі цыкл песень для дзяцей «Мой родны край», у які ўвайшлі творы А. Чыркуна, напісаныя на вершы Н. Загорскай, В. Іпатавай, Н. Галіноўскай, Д. Бічэль-Загнетавай, Н. Гілевіча, В. Жуковіча, І. Скурко, У. Скарынкіна ды інш. Гэты цыкл вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі, што ў галіне музыкі для дзяцей — упершыню. Песні А. Чыркуна выконвалі ўзорны хор «Дружба» СШ N 1, хор «Аблачынка» СШ N43, вакальны гурт школы мастацтваў. Урыўкі з оперы кампазітара «Хвірменная казка» (лібрэта Я. Іўковіча) паказалі навучэнцы СШ N1. Удзельнікі драматычнага тэатра-студыі Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання выканалі сцэнкі з музычнай казкі «Бег-Бай» А. Чыркуна на лібрэта У. Іскрыка.**

**Г. СУШКО**

## КАМПАЗІТАРЫ ГУРТУЮЦЦА

**Пры абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці створана Асацыяцыя кампазітараў Гродзеншчыны. Сёння ў нас іх больш як 40. На жаль, іхняя творчасць амаль невядома шырокай публіцы. А напісана ж нямала цудоўных твораў, выкананне якіх магло б радаваць слухачоў. Створаная асацыяцыя мае на мэце аб'ядналь кампазітараў, ладзіць канцэрты, выдаваць зборнікі, абараняць аўтарскія правы, збіраць і сістэматызаваць ноты, гуказапісы, рэцэнзіі і г. д. Трэба прадоўжыць і развіваць багатыя музычныя традыцыі Прынёманскага краю.**

**На ўстаноўчай канферэнцыі пра музычнае жыццё Гродна 40—60-х гадоў расказаў дырэктар АНМЦ М. Коп. Ён быў адным з членаў «Магутнай кучкі», у якую ўваходзілі такія вядомыя кампазітары, як Юрый Семяняка, Эдуард Казачкоў, Антон Валынчык, Аляксандр Шыдлоўскі, Яўген Петрашкевіч. З успамінамі пра першыя крокі шырмаўскай харавой капэлы падзяліўся старэйшы гродзенскі кампазітар Аляксандр Шыдлоўскі. Калектыў, як вядома, быў створаны ў 1937 г. у Беластоку, вайну правёў «на колах» у несупынных паездках з канцэртамі для франтавікоў, партызанаў, працаўнікоў тылу, пасля вайны да 1953 г. хор знаходзіўся ў Гродне. Шыдлоўскі згадаў, якая прыўзнятая атмасфера панавала ў калектыве і з якім натхненнем працавалі Рыгор Раманавіч Шырма, яго стрыечны брат балетмайстар Іван Хворост, хормайстар Віктар Роўда, канцэртмайстар Юрый Семяняка.**

**У 1970—80 гг. Гродзенскае музычнае вучылішча дало пуцёўку ў жыццё цэлай плеядзе вядомых сёння кампазітараў: Віктару Войціку, Леаніду Захлеўнаму, Валерыю Іванову, Мікалаю Ліцвіну, Уладзіміру Кандрусевічу. Усе яны цяпер у Мінску.**

**З'явілася і наступнае пакаленне кампазітараў, якія жывуць альбо ў Гродне, альбо ў Мінску: Андрэй Бандарэнка, Яўген Паплаўскі, Мікалай Калешка, Сяргей Бtypeаганаў, гітарысты-кампазітары Валерый Жывалеўскі і Уладзімір Захараў. Нядаўна заявілі пра сябе лаўрэаты Міжнароднага конкурсу «Надзея-94» — вундэркінды, якія ствараюць оперы і балеты!**

**Няцяжка заўважыць, што калі першае пакаленне гродзенскіх кампазітараў пісала ў асноўным песні, а другое — побач з песнямі і «класіку», то трэцяе цалкам аддае сябе акадэмічным жанрам. Або — іншы ракурс: калі кампазітары старэйшага пакалення не заўсёды маглі атрымаць прафесійную адукацыю, то сёння стварэнне музыкі выкладаецца дзецям у пачатковых класах музычнай школы. Прагрэс відавочны! Дзесяцігоддзі карпатлівай працы прыносяць выдатны плён. Душэўна шчодры і добразычлівы да талентаў Рыгор Раманавіч Шырма шчыра парадаваўся б нашым поспехам.**

**Віталь РАДЗІЁНАЎ, старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

## «ЗРОК», N 3

**Як і ў іншых нумарах, у часопісе асноўнае месца займаюць матэрыялы адраджэнскага кірунку. Гэта — працяг гутарак М. Ермаловіча «Аб усім, што баліць», нарыс А. Марціновіча пра пінскага разьбяра Ананія, артыкул Х. Крываноса «Царква ў Худаўцах». Змешчана гумарэска М. Лук'янава «Спакуса», кароткія байкі В. Шымука. Бадай, не толькі дзецям адрасавана казка Я. Конева «Пачаны пеўнік». Часопіс пачынае публікаваць матэрыялы «Бойня доктара Оскара» пра злачынствы фашыстаў на Беларусі (на падставе архіваў КДБ).**

# ЛЮБІЎ ДУШОЮ ПЕСНІ...

## АДАМУ РУСАКУ СПОЎНІЛАСЯ Б 90 ГАДОЎ



Прыгажосць яго песеннага слова застанецца — несумненна — ужыцці яшчэ не аднаго пакалення. Гэтакса-ма, несумненна, што і нашы наступнікі, развітваючыся з гасціннымі гаспадарамі, вяртаючыся з гасцей, абавязкова заспяюць:

**Бывайце, здаровы,**
**Жывіце багата,**
**А мы ўжо паедзем**
**Дадому, дахаты.**

Магчыма, і забудуць пры гэтым *прозвішча аўтара. Што ж зробіш,* калі мы нейкія надта непамятлівыя. Ды, з другога боку, а хіба гэта кепска, калі песня — ці не адразу *пасля яе нараджэння — становіцца* народнай?! А менавіта з песняй «Бывайце здаровы» так і сталася. «Правда» змясціла 1 студзеня 1937 года яе тэкст з прыпіскай: «Записана са слоў тав. Русака ў калгасе «Чырвоны араты» Капыльскага раёна Беларускай ССР». Народнай гэтую песню лічыў і Аляксандр Твардоўскі, а ён жа быў цудоўным знаўцам фальклору! Падобнай думкі прытрымліваўся і першы перакладчык верша на рускую мову М. Ісакоўскі, і пазней вымушаны быў прасіць у Адама Герасімавіча прабачэння.

Увогуле ж, у А. Русака на мастакоўскім рахунку была не адна... сотня песень. Многія вершы пакладзены на музыку двума, трыма і нават шасцю кампазітарамі! Сярод песень А. Русака — і славутая «Лясная песня», музыку якой напісаў У. Алоўнікаў. З гэтам супрацоўнічалі таксама кампазітары Ю. Семяняка, П. Падкавыраў, Д. Лукас, Я. Цікоцкі, А. Туранкоў, І. Лучанок — хіба ўсіх пералічыш?!

Адам Герасімавіч выдаў і не адну паэтычную кніжку, у тым ліку і зборнікі вершаў для дзетак. З любоўю, шчырасцю, замілаваннем пісаў пра дарагую сэрцу Капыльшчыну, адкуль пайшоў у свет, апяваў хараство роднай прынёманскай прыроды.

Любасць да бацькоўскай зямлі, да прыроды ў А. Русака была з маленства. Нездарма ў адным са сваіх вершаў ён прызнаваўся:

**Нарадзіўся я ў маі,**
**Як сады вакол цвілі,**
**У наднёманскім гаі**
**Распявалі салаўі.**
. . . . . . . . . . . . . . . . .
**Чаравалі мяне струны**
**Звонкіх сосен, шумных ніў,**
**Я душою шчырай песні**
**Краю роднага любіў.**

Доўгае жыццё пражыў Адам Герасімавіч. Памёр ён у 1987 годзе. І назаўсёды вярнуўся ў Пясочнае. Яго магіла — на ўскраі вясковых могілак, пад вялікімі дрэвамі. Крыху далей пахаваны бацькі паэта, яго блізкія. Тут знайшла спачын, пасля смерці мужа ўжо, і яго любая жонка.

**А. М.**

*Друк*

# ДЛЯ ВЕРНІКАЎ І НЕ ТОЛЬКІ

Накладам у тры тысячы асобнікаў выйшаў чарговы, трэці (за 1993 год) нумар часопіса Беларускай каталіцкай грамады «Хрысціянская думка».

У рубрыцы «Духоўнае слова» змешчана тэалагічная праца айца Льва Гарошкі, што ўпершыню выйшла брашурай у 1948 годзе. Тут жа — урывак з паэмы Лявона Случаніна (Лявона Шпакоўскага) «Ісус Хрыстос». Аўтар паэмы перад вайною працаваў настаўнікам; у 1937 годзе быў арыштаваны, але праз два гады выпушчаны (па тых часах — рэч амаль неверагодная), падчас вайны займаўся беларускім школьніцтвам. *Пасля вайны* быў асуджаны на 15 год сталінскіх лагераў. На Беларусь вярнуўся толькі ў 70-х гадах. Паэму «Ісус Хрыстос» скончыў у 1984 годзе.

Рубрыка «Учора — сёння — заўтра» прадстаўляе ксяндза Уладзіслава Чарняўскага, асобу, якую можна назваць жывою легендаю беларускага каталіцызму. Інтэрв'ю з ім мае назву «Кожны народ павінен маліцца ў сваёй мове».

Літаратурная старонка — гэта вершы Юрыя Гуменюка і нарыс Аўгустына Ауфрая "Святы Ян Боско» (пераклад Алеся Чобата).

Рубрыка — «На скрыжаванні думак». Тут Юрась Шаўцоў разважае пра суадносіны хрысціянскага і нехрысціянскага пачаткаў у сучаснай культуры Беларусі. Нашы праблемы — адбітак сусветных праблем, мяркуе аўтар. «Калі заўтра Чарнобыль здарыцца ў Англіі, ці дапаможа ёй Францыя?» — пытаецца ён і робіць выснову: «Гэтыя краіны і народы не больш шыя хрысціяне за нас. І нам не варта паўтараць іхні лёс і іхнія хібы. З другога боку, часовая слабасць з-за ўнутранага замяшальніцтва носьбітаў нехрысціянскіх ідэй дае пакуль магчымасць *менавіта на Беларусі паўстаць* жывой царкве, а гэтаму народу паяднацца нарэшце ў веры. Такі варыянт развіцця падзей на Беларусі здаецца самым прывабным. Да таго ж, у іншым выпадку Беларусь яўна чакае зноў пакутніцкі лёс раздушанае суседзямі ідэі».



У раздзеле «Абсягі культуры» з вынікамі сваіх доследаў знаёміць чытачоў Адам Мальдзіс.

Два цікавыя матэрыялы ў раздзеле «У каталіцкім свеце» — эсэ Яўгена Шунейкі «У бязмежную даль» і нататкі Алеся Караля «Каталіцкая Францыя вачыма праваслаўнага».

На заканчэнне — рэцэнзіі і кароткі пераказ зместу часопіса на *італійскай, англійскай, польскай,* жамойцкай і ўкраінскай мовах.

Беларуская каталіцкая грамада распачала выданне новага часопіса. Гэта беларускамоўны варыянт вядомага ў Польшчы «Рыцара Беззаганнай» (па-польску «Рыцэж Непокалянэй»). У першым нумары змешчаны жыццяпіс айца Максіміліяна Кольбе, першага выдаўца «Рыцара Беззаганнай». Айцец Максіміліян загінуў у жніўні 1941 года ў Асвенціме. Тут жа — аповяд пра славутую каталіцкую рэліквію, так званы турынскі саян; нататкі аб мінулым і сучасным экуменічнага руху, развагі пра веру вялікага вучонага Ньютана. Характэрным момантам веры Ньютана было спецыфічнае сведчанне пра Бога: «Калі я пісаў сваю працу аб сістэме Сусвету, прызнаюся, звяртаў увагу на тыя абставіны, якія ў разважлівага чалавека могуць выклікаць веру ў Боскую істоту. Нішто не было такім прыемным, як адчуванне, што я карысны ў гэтым кірунку».

Наклад першага нумара новага часопіса — тысяча асобнікаў.

Такі ж наклад і факсімільнага выдання зборніка вершаў Андрэя Зязюлі «З роднага загону» з прадмоваю Адама Станкевіча (быў надрукаваны ў Вільні ў 1931 годзе). Вершы ў большасці нашаму чытачу невядомыя.

**П. В.**

*Пошта*

# КАЛІ ГЛЯДЗЕЦЬ У КОРАНЬ...

Хоць гэты кароткі біяграфічны даведнік выдадзены не на роднай мове, але можа прывабіць кожнага, хто цікавіцца беларушчынай. Бо ён, запэўнівае анатацыя, змяшчае біяграфіі відных палітычных і грамадскіх дзеячаў «и Республики Беларусь» (поруч з палітыкамі дарэвалюцыйнай Расіі і былога Саюза). Да таго ж «в нем немало имен, которые были вычеркнуты из отечественной истории».

Аднак жа, як заклікаў яшчэ Казьма Пруткоў, трэба глядзець у корань. І калі ўнікнеш у змест кніжкі «Имена в истории», дык хутка адчуеш расчараванне. І вось чаму. Са 180 артыкулаў, уключаных у яе, трэць прысвечана розным дзеячам Расійскай імперыі XIX—пачатку XX стагоддзя. Але марна шукаць тут біяграфічныя звесткі пра нашых землякоў, якія мужна змагаліся тады за свабоду і незалежнасць Беларусі. Выходзіць, аўтары-ўкладальнікі даведніка ўсё яшчэ прытрымліваюцца хлуслівага пункту гледжання, паводле якога ў беларускага народа не было сваіх, асобных ад Расіі, інтарэсаў, а яго сапраўдная гісторыя пачалася толькі пасля захопу ўлады бальшавікамі. Дык колькі ж, шаноўныя, можна глядзець на нашу мінуўшчыну чужымі вачыма або праз старыя акуляры, зробленыя «старэйшым братам»?

Поўнасцю ігнаруюцца, быццам іх і ў паміне не было, і беларускія нацыянальныя партыі, што ўзніклі ў пачатку гэтага стагоддзя. Дзейнасці ж да кастрычніцкага перавароту шэрагу расійскіх палітычных партый прысвечана амаль уся 11-старонкавая прадмова да выдання. Між тым, менавіта ў мінулым годзе, калі яно і пабачыла свет, споўнілася 90-я ўгодкі заснавання аднай з самых першых і ўплывовых у нас партый таго часу — Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якая адрадзілася тры гады таму. Характэрны штрых: укладальнікі біяграфій З. Жылуновіча і А. Чарвякова ўталі ад чытачоў факт іх членства ў СДГ.

Іншая справа — бальшавіцкая партыя. У даведніку скрупулёзна фіксуецца ўдзел у яе выбарных органах, пералічваюцца кампартыйныя пасады тых двух дзесяткаў дзеячаў БССР, біяграфічныя звесткі пра якіх можна знайсці на яго старонках. Палова з іх — гэта першыя сакратары ЦК КПБ, а ўсе астатнія таксама мелі больш ці менш цеснае дачыненне да «руководящей и направляющей» (былі пэўны час сакратарамі ЦК, членамі яго бюро і г. д.). Агульнавядома, што «наша» партнаменклатура верай і праўдай служыла Крамлю, па яго загадах і па ўласнай ініцыятыве ўсяляк садзейнічала русіфікацыі беларусаў, пазбаўленню іх матчынай мовы, гісторыі, культуры. Але і ў змрочныя савецкія часы былі на Беларусі і па-за яе межамі выдатныя людзі, якія шмат чаго рабілі на карысць нацыянальнага Адраджэння сваёй Бацькаўшчыны і сталі таму ахвярамі таталітарнай сістэмы. Здавалася б, распавядаць хаця б пра некаторых з іх праўду — абавязак выдаўцоў. Аднак яны палічылі за лепшае гэта не рабіць. І атрымалася, што ў даведніку паданы біяграфіі толькі тых беларускіх палітычных і грамадскіх дзеячаў, звесткі пра якіх ёсць і ў БелСЭ, выдадзенай яшчэ ў першай палове 70-х гадоў, ва ўмовах жорсткай ідэалагічнай цэнзуры.

У кніжцы чытач знойдзе імёны некалькіх расійскіх (савецкіх) палітыкаў, пасмяротна рэабілітаваных у час «перабудовы» (М. Бухарын, Р. Зіноўеў, Л. Каменеў, А. Рыкаў і інш.). Але зноў жа з іх дзейнасцю — дый не толькі іх — значна раней нас пазнаёмілі шмат якія маскоўскія выданні, у тым ліку энцыклапедычныя. Напрыклад, капітальны даведнік «Деятели СССР и революционного движения России» выйшаў яшчэ ў 1989 годзе. А колькі зрабіў за апошнія пяць-шэсць гадоў перыядычны друк, каб вярнуць з небыцця імёны ахвяр сталінізму!

Няцяжка зрабіць выснову: тое, што прапануе ў сваёй кніжцы выдавецтва «Універсітэцкае», — гэта фактычна запозненых перапеў ужо нябагата знаёмага. І наогул, складваецца ўражанне, што выпушчана яна галоўным чынам дзеля падняцця амаль поўнасцю страчанага прэстыжу кампартыі і яе колішніх кіраўнікоў. Можна прывесці шматлікія прыклады таго, калі дзейнасць апошніх падаецца ў ружовым святле. Нават некаторых прамых віноўнікаў масавых рэпрэсій і абальваньвання людзей аўтары-ўкладальнікі стараюцца паказаць лепшымі, чым яны былі на самай справе.

*Дабаўлю яшчэ, што больш паловы ўсіх асоб,* біяграфічныя звесткі пра якіх друкуюцца ў выданні, уваходзілі ў склад вышэйшых органаў РСДРП-РКП(б)-ВКП(б)-КПСС (палітбюро, сакратарыят, ЦК). Ну, чым не якісь камуністычны даведнік, «разбаўлены» невялікай колькасцю лідэраў іншых расійскіх партый, некалькімі дзяржаўнымі дзеячамі імперыі, адным царом (Мікалай II)... Ёсць тут, зразумела, і шэраг вядомых са школьнай парты рускіх рэвалюцыянераў: П. Аляксееў, М. Бабушкін, А. Герцэн, С. Халтурын, М. Чарнышэўскі і г. д.

... Знаёмішся з гэтай кніжкай — і цябе зноў і зноў бярэ сумненне: ці не стала ўжо «Універсітэцкае» філіяльным аддзяленнем якога-небудзь маскоўскага выдавецтва? Не, выхадныя звесткі сведчаць, што яно падпарадкоўваецца нашаму Міністэрству інфармацыі. Чаму ж тады выдаўцы надрукавалі біяграфію першай асобы сягонняшняй Расіі, а пра такую ж асобу сваёй незалежнай дзяржавы «забыліся»?

Упэўнены, няма ў свеце краіны, дзе так не паважаюць сябе, як гэта ўмеюць рабіць у нас. Дазволю сабе выказаць і другую ўпэўненасць: калі б С. Шушкевіч, цяпер ужо экс-Старшыня Вярхоўнага Савета, у свой час прыналежаў да партнаменклатуры, яшчэ лепш — да вярхоў КПБ, а займаючы вышэйшую пасаду ў нашай дзяржаве, быў прыхільнікам здачы незалежнасці Беларусі і рэанімацыі «Союза нерушимого», дык знайшлося б месца і для яго біяграфіі. На такую думку наводзіць антынацыянальная, прарасійская накіраванасць кніжкі «Имена в истории».

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

*Имена в истории: Крат. биогр. справ. / Авт.-сост. П. И. Бригадин и др. — Мн.: Университетское, 1993. — 192 с.*

Векапомнае

Уладзімір КАЛЕСНІК

# АДВЕЧНЫ КЛІЧ

## ГІНУЛІ ХЛОПЦЫ

*Заканчэнне. Пачатак у N 18, 20.*

Роўна цераз тры месяцы пасля таго чорнага дня, 13 красавіка, жудасна мужна загіне мой школьны друг, апошні мужчына з роду Мажэйкаў — Міша. Хлопец — сама зычлівасць і дабрыня. З твару яго ніколі не сыходзіла ўсмешка. З усмешкаю, не сутаргаваю, а зычліваю развітаўся ён з намі і на полі бою.

Быў цяжкі для атрада час: дыверсійныя групы пачалі цярпець няўдачу за няўдачай, немцы ўзмацнілі ахову чыгункі, гінулі мінёры, камандзіры груп, упаў дух нашых падрыўнікоў, падкасіла, абнясмеліла хлопцаў пошасць няўдачніцтва. Тады мы з Косцем запрапанавалі камандзіру стварыць разавую адборную групу, правесці громкую дыверсію і пераламаць гэты фаталізм. Камандзір не меў выйсця, рызыкнуў, дазволіў нам, двум узводным, адабраць ахвотнікаў. Вызваліся ўсе да аднаго хлопцы з нашых узводаў, а Міша Жураўлёў, як дзіця, ледзь не плакаў, упрошваў мяне ўзяць яго з сабою. Я пашкадаваў сірату. У дадатак ён не ведаў мясцовасці ў зоне чыгункі і мог бы марна загінуць пры выпадку, калі б праціўнік прымусіў групу рассеяцца і прабірацца на зборны пункт паасобку. Узялі мы пераважна тых, што пайшлі з намі з-пад Лядак на Браносава 13 студзеня. Уваходзіла ў групу яшчэ двое камандзіраў аддзяленняў, усе былі ўзброены аўтаматамі, паўаўтаматамі, толавы зарад важыў больш дзесяці кілаграмаў.

Камандзір даў нам адрас свайго асабліва даверанага сувязнога ў Ператоках для днёўкі і праваднікам паслаў Федзю Жука з Сімакава. Але мы падбіліся ў дарозе, давялося ісці па слізгачу, прытаміліся, таму рашылі днякаць крыху далей ад чыгункі, тым больш, што да паўночы свяціў месяц. Параіў нам месца днёўкі Колька Перавоз, славуты музыка, ён іграў вяселле таму хутараніну.

На світанні нас акружылі карнікі — лётны ці дэсантны батальён і паліцаі з двух гарнізонаў. Мы не ведалі, што іх так многа, пайшлі на прарыў.

Першай нашай стратай аказаўся Мікалай Парэцкі, самы лепшы сярод нас жартаўнік. Ён быў і самы старэйшы ў групе. Пры Польшчы адседзеў за палітыку, як тады гаварылася, гады тры турмы. Сябры яго па падполлі паўцякалі за мяжу, у СССР і там недзе змоўклі. А ён пасля ўз'яднання Заходняй з Усходняй Беларуссю сам рашыў паглядзець, што гэта за праява Краіна Саветаў, завербаваўся на работу ў Данбас і паехаў. Вярнуўся ўжо ў акупацыю, стаў яшчэ больш асцярожным. У партызаны паслаў малодшага брата Пецю, а сам не ішоў да позняй восені, пакуль не забяспечыў ежай, дрывамі і ўсім патрэбным на зіму старых бацькоў.

Коля Перавоз павіс мёртвым на дроце, які адгароджваў уладанні двух хутаранцаў. Загінуў ад першай кулямётнай чаргі, якое мы ўсе баяліся, адрываючыся ад месца начлегу. Я ўбачыў яго, калі, адвярнуўшыся, біў з калена па тым кулямёце, каб паддаць сабе смеласці.

Пад нечаканы стрэчны залп засады з другога хутара, на які мы ўцякалі, я ўпаў шыдка, як калісьці на скаўцкіх гульнях. Краем вока ўлавіў, што Пейка, які бег злева ад мяне, упаў на дзесяцізарадку і не мог зрушыцца, толькі перабіраў знясіленымі нагамі.

А мне так выпала, што на раллі перада мною вытыркалі дзве скібы. Я сходу выпусціў цэлы магазін, біў па кулямётным гняздзе, бачыў, як клявалі зямлю шэра-зялёныя каскі карнікаў, зрэзаныя маімі разрыўнымі кулямі, бачыў, як барабанілі нагамі цяжкапараненыя і ўцякалі ўглыб паселішча, за патрэбнік, за гумно лёгка падстрэленыя і цэлыя. Па іх білі таксама Коля Перавоз, Міша Мажэйка і Федзя Жук, залёгшы за тоўстымі дубамі справа ад мяне.

Мяняючы магазін, я зірнуў на Пейку. Ён яшчэ быў жывы. З вуснаў спазмамі вырываліся камякі крывавай пены. Ён нешта хацеў сказаць сіплым голасам: «абі, абі, ааб...», але я не ўцяміў, а ён заціх. Мяне раптам перасмыкнула, як бы ўдарыла токам: ранены прасіў апошняй баявой паслугі — дастрэліць, дабіць, каб ворагі не глуміліся над ім нямоглым, але яшчэ жывым. Скарыстаўшы замятню ў праціўніка, я падпоўз да яго, гатовы да той апошняй паслугі. Патрос. Мой няўрымслівы, жвавы Пейка ляжаў мёртвы. Схапіў, бедны, у грудзі цэлую кулямётную чаргу, кажушок тапырыўся на спіне павырываную кулямі поўсцю. Так загінуў Гаўрош атрада Пейка Навумчык, звалены кулямётнаю чаргою ў грудзі. Падлетак упрошваўся хадзіць са мною на самыя небяспечныя аперацыі, верыў у маю зорку ўдачы, стаў маім ценем. Цяпер ляжаў мёртвы. А карнікі пачалі назад падпаўзаць. Я шпурнуў з усёй сілы гранату. Там зноў прыціхла. Я падхапіўся і кінуўся да хлопцаў. Трэба было скамандаваць арганізаваны, па адным, адыход у лес. З лесу не раздалося пакуль што ніводнага стрэлу, значыць, праход быў свабодным. Мы аказаліся паміж дзвюма засадамі праціўніка. Ён не мог весці інтэнсіўнага абстрэлу двух супрацьлеглых бакоў, бо трапляў па сваіх. Але знайшоўся выхад: адкрыў мінамётны агонь. Я толькі паспеў прылегчы ля Мішы, як міна ўдарыла ля яго. Адбітая нага ў валёнку закружылася ўгары і ўпала недзе за дубам. Па раллі цягнуліся кішкі.

— Валодзя, дастрэль! — прасіў ён, як дзіця.

— Не магу я, Мішка, не магу...

Пасля майго «не магу» Міша Мажэйка, сцяўшы зубы, адшпіліў кабуру, дастаў наган, узвёў курок і, відаць яшчэ згорача, не чуючы болю, усміхнуўся, абвёў вачыма жывых сяброў, што агнём расчышчалі ход для прарыву, сказаў: «Бывайце, хлопцы!» і стрэліў сабе ў скронь. Не ведаю, ці пачуў хто, акрамя мяне, той стрэл і словы развітання. Так выканаў і Міша Мажэйка нашу смяротную партызанскую прысягу: не здавацца жывымі.

Я заўважыў, што Федзя Жук ужо не страляе. Падпоўз, аказалася, ён быў паранены ў рукі. Я загадаў яму перабягаць на ўзлесак. Мы з Колем Перавозам, залёгшы за дзвюма таўшчэзнымі дубамі, добра падтрымлівалі Федзеў адыход. Дабег да лесу, следам за ім я паслаў Перавоза. Дабег і ён. Я застаўся адзін.

Праціўнік, агонь якога мы былі падавілі, падымаў галаву. А Коля Перавоз чамусьці не падтрымліваў мой адыход агнём з ускрайку лесу. Я стаў адзінай мішэнню, праўда мішэнню, якая страляла. Але па мне лупілі ўжо з двух бакоў і зверху мінамёты. Я чакаў, што загаворыць Колева дзесяцізарадка, тады я пачну адыход перабежкамі. Але Коля маўчаў. І перад маім унутраным зрокам пачалі маланкава прабягаць кадры-ўспаміны.

Адыходзіў перабежкамі, залягаючы. Збіла з галавы куля каракулевы каўпак, падарунак хроснага бацькі Сашы Васілеўскага. Я падняў гэты каўпак.

Прыгадалася нешта далёкае, не з той аперацыі: на Нёмане толькі што лёд стаў і мы пераходзілі па ім, можна сказаць, на пальчыках. Я не меў шчасця, праваліўся па пахі. Добра, што дзесяцізарадка затрымала, выкарабкацца памагла. Да Пагарэлкі ўсе беглі трушком, а ў мяне адзенне так абледзянела, што стала бляшаным, і ногі ў каленях перасталі гнуцца, дык хлопцы хіхікалі, як я па грудзе спатыкаўся, чапляючыся наскамі ботаў за кратавіны, глыжы ды патырчакі. Прыбег зусім азяблы, горшы за мокрую курыцу, дык Ваня Мацко і Коля Перавоз павялі мяне на дзедаванне і кватарунак да краўца (то быў блізкі ім чалавек). Пакуль рытуальная святая вячэра шыкавалася, я голы на печы сядзеў за комінам, грэўся і чакаў, пакуль адзежа падсохне.

Гаспадыня, праўда, рупная была і чулая: адразу мне пару бялізны мяккае льняное, добра валком выкачанай, падала, шкарпэткі мае з воўны, што звязала сястра Маруся, сушыла перад чалеснікамі, высушыла і падала на печ цёпленькія, а порткі вайсковыя і верхнюю кашулю падсушанымі да палавіны адзеў — на целе дасохнуць. Вячэра была каралеўская. Коля пайшоў да маці, а мы ўтрох — Ваня Мацко, Косця «Севель» і я дзедавалі ў краўца. Гаспадар, убачыўшы маю пілотку, куцую, не для зімы прыдатную, падараваў мне шапку зайцаву, якую пашыў сабе і яшчэ не адзяваў. Добры быў чалавек, зычлівы і гасцінны. Пасля таго дзедавання я ў яго як бы ў сямейнікі трапіў. Заўсёды запрашаў не мінаць хаты і рады быў сустрэць, хоць і небяспечнымі былі мы гасцямі, смерць гразіла за сувязь з намі. Але прывыклі людзі і да пагроз: воўка бойся — у лес не хадзі. І пасля вайны, калі кравец са спаленай-перапаленай Пагарэлкі перабраўся ў Баранавічы, то мяне, камандзіровачнага інспектара Мірскага райана, пакідаў начаваць. Жыў ён там на ўскраіне, ва ўтульнай хаціне, абсаджанай яблынямі і вішнямі. На чыгунцы, здаецца, служыў (там «браніравалі»), а вечарамі прыхваткамі партняжыў.

Звёўся і род Перавозаў. Бацьку Колевага хараша ўспаміналі людзі з нашай ваколіцы. Мой хросны, Саша Васілеўскі, разам з ім у грамадзянскую вайну з палякамі ваявалі, служылі ў Мінскім палку. Часта прыгадваў хросны, які дружны і кампанейскі быў Перавоз — не падвядзе ніколі. Яны разам з-пад Мінска вярталіся, калі ўжо Чырвоная Армія ў адступленні развальвалася. Камісар палка тады сказаў: «Чорт знае, што тут дзеецца, разбрыдаемся, як блудныя авечкі, ладу няма, давайце вы, хто мясцовы, прабірайцеся неяк дахаты, схавайцеся, пакуль мір настане...» Тады хросны з Перавозам раздабылі сабе абознага каня, запрэглі ў казённы воз і з-за Койданава да Рубяжэвіч дапхаліся глухімі дарогамі дамоў. Каня таго хросны Перавозу ўступіў, дома свайго меў, праўда, аднаго на дваіх з братам Іванам, але меў. Не доўга чамусьці пажыў Перавоз, маладым памёр, жонку маладую з дзіцем, сынком малым, пакінуў. Шкадавалі нябожчыка былыя сябры. У іхніх расказах душа яго жыла шчымлівым сумна-лірычным акордам.

Колю выгадавала маці сама. Навукі даць не здолела, але радзіўся здольным, сам навучыўся граць на скрыпцы, ды так гожа, што быў першым скрыпачом у ваколіцы, самыя фартовыя вяселлі граў. А сам нежанатым хадзіў — беднай лічылася ўдовіна гаспадарка: кароўка адна, авечак пяць, свінчукоў пару ды курэй з дзесятак. Вось і ўся гаспадарка. Пры саветах Коля не падаўся вучыцца ў Наваградак, застаўся разам з тымі здольнымі сябрамі, што пры Польшчы далей сямі класаў не пацягнулі, дому трымаўся... А ў партызаны пайшоў позняй восенню 1942 года. Запамяталіся мне той вечар і тая ноч. Я не чуў ніколі, каб так па нябожчыку плакалі, як плакала-галасіла Колева маці.

Ужо і Нёман мы перайшлі, у пушчу ўступілі, а голас яе, прычытанні яе, божканні ўсё да нас даляталі. Сцішна і страшна станавілася ад гэтага ляманту. Здавалася, што і праўда мы вінаватыя, што сілаю сына ў лес забралі. Але ж то быў у нас толькі маскіровачны прыём. Мы пазвалі солтыса і перад ім апавясцілі, што ваеннаабавязаных і камсамольцаў, якія, маўляў, па запечках туляюцца, на вайну Айчынную бяром, доўг свой перад радзімай сплачваць і гонар сабе вярнуць. Такі быў рытуал, а на самай справе ўсе ішлі добраахвотна і бралі мы нават не ўсіх, толькі тых, у каго была добрая зброя, бо які ж то можа быць партызан прымушаны, сілком узяты... Стоража да яго ў атрадзе прыстаўляць ці што? Так і людзі думалі. І немцы, напэўна, падазравалі, нацкаваныя паліцаямі ды службістамі солтысамі. Але ж былі і наіўныя — верылі. І мы верылі, што спектакль з прымусовым наборам дзецюкоў у партызаны ахавае партызанскія сем'і ад рэпрэсій. Сем'і нашы сталі смяротнымі заложнікамі ўжо тады, калі партызанскі рух набіраўся сілы і пачынаў пагражаць акупацыйнай уладзе, не даваў рабаваць кантраляваныя намі тэрыторыі. Мы, наіўнякі, яшчэ ўсё думалі: чым больш нас пойдзе ў партызаны, тым больш у нашых сем'яў гарантыі выжыць. Не падымецца ў акупанта рука на масавыя забойствы партызанскіх сем'яў. А ўсё аказалася наадварот: для акупантаў чым больш крыві, чым больш страху, чым больш мёртвых «бандытаў», тым больш высока ацэньвала мясцовых фюрэраў начальства, якое было адказным за стварэнне бязлюдных зон каля пушчы. Выбіваць сем'і пачалі выбарачна: спачатку сем'і пачынальнікаў, нават не ўсе сем'і, а галоў сем'яў, потым мужчын у сем'ях, а затым старых і малых, мужчын і жанчын, хто толькі дыхаў у партызанскіх зонах.

Маці Колькі Перавоза загінула страшна. Пару месяцаў пасля лядзецкага пабоішча ў Пагарэлцы тады не толькі выбівалі ўсю сям'ю падрад, але і падпальвалі сялібу, не дбаючы пра тое, што і чыесьці не партызанскія хаты загарацца і пойдуць дымам разам з партызанскімі. Памятаю, раніцою мы з Колем Перавозам навослеп кінуліся з заставы на Нёмане ў падпаленую страляючую Пагарэлку, намоклі па пояс. Карнікі паспелі зрабіць чорную справу і пайшлі назад на Турэц, у гарнізон.

Мы з Колем увайшлі ў змоўклую Пагарэлку, да нас пацягнуліся людзі, адзін перад адным скардзіліся, праклінaлі карнікаў і солтыса Ціхана. Гэта быў мой далёкі родзіч, па натуры авантурыст і пустазвон. Вядома, як пачалася партызанка, то ўсе разумныя людзі пад рознымі повадамі паўцякалі з солтысаўскіх пасад. І тады на іх месцы паплыла афёрная пустальга. Партызаны далі маху, паддаліся інстынкту класавай несумяшчальнасці: замест таго, каб дамовіцца з самымі саліднымі і аўтарытэтнымі старымі солтысамі аб супрацоўніцтве, а нявартых даверу пакінуць на сваіх месцах і даймаць заказамі збіраць харч, яны міжвольна ўцягнулі тых элітарных гаспарадоў у арбіту помсты. Так сталася. Позняй восенню сорак другога прайшла хваля стыхійнай помсты за забітых партызанскіх родзічаў. Хто гэтым займаўся — невядома. Па логіцы роўнадзеі павінны былі тыя, чые сем'і змёў акупанцкі тэрор, крывавая акцыя мёртвых зон. Але я асабіста не схільны ўскладаць адказнасць толькі на пацярпелых партызан, маглі заняцца самасудам і гіцлёўкай амбіцыйныя суб'екты, што хацелі выглядаць мсціўцамі. Напэўна, займаліся гэтым субчыкі, хворыя садысцкай дэгенератыўнасцю, якім забіванне бяззбройных дастаўляла асалоду. Маглі шухарыць і проста бандзюгі-марадзёры ў зонах безадказнасці. Камандаванне атрадаў многае пускала міма вушэй, было ўстрывожана тым, што паліцыя пачала шыкаваць перад зімою памяшканні пад новыя гарнізоны, займала мураваныя будынкі, нават школы, рабіла другое абарончае кальцо вакол пушчы. Партызаны кідаліся апярэджваць праціўніка, пакуль той не паспее абсталяваць бункерныя сістэмы абароны, палілі, намечаныя пад паліцэйскія кодлы будынкі. Гэтыя акцыі не ўхвалялі насельніцтва. Яно не ведала, у чым справа, або не верыла, бо акупацыйная прапаганда вешала на «сталінскіх бандытаў» усіх сабак. На справе ўсё гэта муціла этычную прастору, садзейнічала бессэнсоўнаму ўзаемазабіванню з абодвух бакоў.

У той катавасіі жахліва горда загінула Марыя Баран з Пагарэлкі, каханая Колі Перавоза. Бацькі яе былі заможнымі і, напэўна, не ўступалі ў калгас, стварыць які ўзяліся ў 1940 годзе завадатары беднаты, адпіхваючы свабодных гаспадароў на благія землі, абкладваючы іх непасільнымі кулацкімі падаткамі. У акупацыю аднаасобнікі спаганялі крыўду, уцукроўваючы актывістаў немцам і паліцыі. Помста гэтая абвастрылася пры партызанах, калі ў атрады паўцякалі ўцалелыя ў норах ад расстрэлаў савецкія актывісты. Яны праседзелі ў схованках да зімы 1942 года, здзічэлі і чакаць ад такіх кажаноў нармальных паводзін цяжка, а партызанская барацьба давала ўдзельнікам такую дозу бескантрольнасці, якая пераўзыходзіла здольнасць самакантролю ў некаторых людзей. Шкала нармальных пакаранняў партызан за самавольства, гвалты, забойствы была невялікай: на адным полюсе «губа», г. зн. гаўпвахта, зямлянка, у якую запіралі на некалькі дзён пагаладаць, а на другім полюсе — расстрэл. Не думаю, ці рашылася б камандаванне атрада прымяніць расстрэл у адносінах да партызана, які на сваю руку помсціў за кроў брата ці друга, прададзенага на смерць акупантам. І вядомыя выпадкі маглі адносіць да нявысветленых. Нявысветленай засталася і смерць сям'і Бараноў: гаспадара, гаспадыні, дзецюка-сына і прыгожай Марыі. Што гэта была справа рук дзікіх партызанскіх помснікаў, стала вядома: неўзабаве па атрадзе прайшла пагалоска пра незвычайнае, прыхаматлівае апошняе жаданне расстралянай: пастаўленая да сцяны, сказала забойцам: «Не страляйце ў твар!» Дайшла гэтая жахлівая дэталь і да Колі Перавоза. У атрадзе асуджалі падобныя расстрэлы, а гэты, здзейснены супраць сябра па зброі — асабліва. Абурэнне атраднай эліты было такім рашучым, што з упэўненасцю магу сказаць, калі б імя забойцы выплыла, ён бы не жыў. Злачынца затаіўся. А Коля Перавоз хадзіў як непрытомны, перастаў іграць на сваёй скрыпулі, аднёс яе дамоў, да маці.

І вось на пажарышчы роднай вёскі яго сустрэў другі смяротны ўдар. Хтосьці з мужчын, яшчэ мы не дайшлі да Колевага селішча, сказаў услых: «Братко — і маці твая... гэты во... У хлеўчуку. Ціхан, сабака, вадзіў, паказваў партызанскія хаты. Ён, сволач! Ён...»

На падворку дагаралі галавешкі, слаўся горкі дым, гарэла збожжа, смярдзела паленай шэрсцю, мясам. На пажарышчы хаты чакалі недагарэлыя гаршчэчнікі, тырчаў апалены чорны комін. Мы пайшлі ўглыб двара, падышлі да котлішча хлява. Тут патыхнула гарэлым гноем, на пажарышчы вытыркалі два чорныя абвугленыя пагоркі, над імі курэлі струменьчыкі сіняга дыму: большы быў абвуглены трупам каровы, а меншы — гаспадыні.

Коля адвярнуўся, сціснуў кулакі: «Я яго знайду... Я знаю... Пайшлі!»

Мы выйшлі на вуліцу і Коля звярнуў у кірунку Буковічаў.

— Куда мы? — спытаўся я.

— Мне сказалі куды. Ён у Буковічах, сволач, схаваўся. У Гуза. Спачатку аддасць кулямёт, а потым і галаву!..

Гуз — гэта была мянушка Петруся Пучка. Коля ведаў, што Пучкі — мае родзічы, цётка Поля родная сястра майго бацькі. Шчырая, руплівая і дзёрзкая кабеціна, вельмі не любіла прытворства, баранілася ад прытворстваў грубаватасцю, курыла, як мужчына, дым пускала колцамі. Яна вадзіла рэй у хаце. Муж яе, Пятрусь, быў да рэвалюцыі пецярбургскім гарадавым, атрымаў гэтую пасаду за ўдзел у руска-японскай вайне. Быў ён чалавек памяркоўны, пільнаваў артылерыйскі трубачны завод. У лютаўскую рэвалюцыі састаў гарадавых абнаўлялі. Пучкі ўцяклі тады са сталіцы ў родную вёску, сяк-так перабіваліся з хлеба на квас. Рыжавусы, калісь бравы гарадавы стаў азызлым астматыкам: курыў самасад і кашляў, бухаў, як у бочку. Памёр яшчэ пры паляках. У Пучкоў былі тры сыны: Валодзька, Пеця, Шурка і дачка Маня. Працавітыя былі хлопцы і дзяўчына. Валодзя яшчэ ў Пецярбурзе набыў

Працяг на стар. 14-15)

# ЗОРНЫЯ ІМГНЕННІ БЕНЕФІСА



**Тэатральны аркестр, у адрозненне ад звычайнага канцэртнага аркестра, чуваць, але не бачна, бо адпаведна сваёй спецыфіцы ён, вядома, знаходзіцца не на сцэне, а ў яме. Гэта крыху несправядліва, бо ў музычным тэатры аркестр — адзін з галоўных чыннікаў дзейства. Аднак аркестр Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі атрымаў кампенсацыю за сваю няўгледнасць: днямі адбыўся яго бенефіс! На сцэне!**



**Пачаўшы сваё выступленне з уверцюры да «Арфея ў пекле» Афенбаха, аркестр прапанаваў гледачам цэлы парад аперэтачных і оперных шэдэўраў: гучалі творы Кальмана, Легара, Штрауса, Панк'елі, Лекока, Бернстайна, Гаўрыліна, Хэгенса, Хачатурана і Гершвіна. Нягледзячы на тое, што праграма бенефіса была ў двух аддзяленнях, аркестр выканаў яе на адным дыханні, а дапамагалі свайму незаменнаму партнёру салісты тэатра В. Мазур, В. Мінгалёў, С. Лугава, Л. Лют, А. Ісаеў і Л. Станевіч. Дырыжыравалі А. Лапуноў, В. Чарнуха і А. Сасноўскі, прычым апошні... быў узброены пісталетамі, аглушальна страляў падчас выканання полькі І. Штрауса «На паляванні», дадаўшы весялосці ў святочную атмасферу бенефіса. А эмацыянальнае выкананне аркестрам сімфанічнай карціны з оперы Дж. Гершвіна «Поргі і Бэс» дало нагоду спадзявацца, што пастаноўка гэтага шэдэўра некалі адбудзецца і на беларускай сцэне. Несумненна, публіка засталася задаволенай і ўдзячнай аркестру за гэты музычны вечар.**

С. ШЛЁНСКІ



*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

# ПАСТАНОЎКА ДЫПЛОМНІКА

**У Мінскім абласным драматычным тэатры лялек «Батлейка» адбылася прэм'ера спектакля «Маўглі» па Кіплінгу. Пастаноўку яго ажыццявіў дыпломнік Беларускай акадэміі мастацтваў Віктар Калядзіч.**

М. КАПЫЛОВІЧ

# АДВЕЧНЫ КЛІЧ

*(Пачатак на стар. 13)*

спецыяльнасць наборшчыка, на вёсцы перакваліфікаваўся, зрэшты ўсе тут браліся за традыцыйныя рамёствы: Гузы навучыліся рабіць бёрды і нічальніцы, сталі манапалістамі гэтых вырабаў у ваколіцы, умелі і шавецкую, і цяслярскую справу, не гавару пра земляробства. Яны часта дапамагалі майму бацьку то ў касьбе, то ў будаванні, зрабілі наш бетонны калодзеж. Шурка накапаў і заклаў дзярновай глебай паўтараметровыя ямы пад яблыні ў нашым садзе, летам букавіцкія сваякі прыходзілі часта памагаць касіць, малаціць, капаць бульбу. Па характары яны былі лагоднымі, прыстойнымі. Мая маці любіла ім дагаджаць, варыла на іх прыход нешта смачнае, прыгадваючы кухонны вопыт сваёй маладосці, калі служыла ў бацюшкі і навучылася кухарскаму мастацтву. Перад вайною яны ці не ўсе пажаніліся, старэйшыя адсяліліся, мелі малых дзяцей, таму ў партызаны не квапіліся, проста жылі і рупіліся, каб пражыць, ацалець.

Ды вось раптам Ціхан, сваяк, завалок ім у хату сваё бруднае злачынства, а я, пляменнік, называецца, валок крывавую помсту. Мне перадалася Колева крыўда і патрэба помсты, але шчымела на душы тое, што нясу бяду ў згодную, богу душою вінаватую хату Пучкоў.

Я разумеў, што цяпер зняць у Колі апантанасць не ўдасца, угаворамі можна толькі падліць масла ў агонь. Ён прыме гэта як здраду сяброўству, труслівую сепарацыю ад ягонай бяды. Бяда ж і праўда была нашай агульнай: маці яго расстралялі толькі за тое, што яна была маці партызана, а абараніць яе мы не здолелі, вінаваты былі мы роўна перад ахвярай і помсціць абавязаны былі разам, адкупляць нашу агульную партызанскую віну. Усё ж я вельмі хацеў, каб гэтага д'ябла Ціхана там, у Пучкоў, мы не засталі. Не таму, што я шкадаваў сваяка, а таму, што мне было сорамна паказацца цётцы Полі і сястры Мані. У душы я адчуваў яшчэ, што і помста гэтая не прынясе Колю палёгкі, а мне ляжа каменем навек. Ціхан не варты быў помсты. У маім разуменні ён быў занадта нікчэмны чалавек. Родзіч гэты жыў у нашым сямейным успрыманні як шантрапа, нягоднік. Пачалося гэта ад хаўтураў па маёй бабе Зосі. Яна памерла не дома, а ў Кашчыцавым двары, у сваёй дачкі Марылі, якая была замужам за парабкам Юзікам Варанко. Пакрыўдзілася баба на маю маці, якая ўшчувала яе, што не дагледзела мяне малога (ішоў мне тады шосты год), і я, дужаючыся з братам, ударыўся галавою аб востры кант грубкі ды разбіў голаву. Баба была тут ні пры чым, таму зазлавала і пайшла да Марылі, а бацька, упрэжаны ў вазацкую справу, адкладваў, калі паедзе забіраць яе назад дамоў. І бабку прывезлі ў труне. Бацька, загладжваючы ніякаватую сітуацыю, купіў на хаўтуры дзве скрыні гарэлкі. Мужчыны добра падпілі, а Ціхан набраўся, як парсюк, ды задраўся біцца з Напоркам з Вялікай Слабады. Біліся калямі, бацька, хоць дужы быў, а ледзьве разбараніў. І застаўся гэты інцыдэнт у сямейнай памяці як вялікая ганьба-сарамота нашай хаце, а Ціхан да нас з тае пары не паказваўся.

Я ведаў і другое: у часе такіх жахаў, які адбыўся ў Пагарэлцы, ацалелыя людзі прагнуць любымі спосабамі знайсці вінаватага, а злоснікі і нягоднікі проста жыць не могуць, калі не прыдумаюць як мага больш «вінаватых». Вінаватымі зробяць тых, з кім мелі даўнія звадкі, сваркі або проста ўпотай маюць на некага зуб. Яны надаюць сваёй асабістай помслівасці грамадскі статус, у гэтым выпадку — выдача карнікам партызанскіх хат і сем'яў. Я разумеў, што нікому не было ў вёсках тайнай, з якіх хат дзецюкі ці мужчыны пайшлі ў партызаны. Хаты тыя добра ведалі паліцаі з гэтае ж вёскі, і солтысава падказка магла насіць фармальны характар. Карнікі правяралі лаяльнасць солтысаў і толькі. Магло быць такое і ў гэтым выпадку, хоць Ціхан быў здольны і ўдаць, і выдаць, і ашукаць, не грэбаваў нізкімі спосабамі задавальнення сваіх цёмных амбіцый, такія людзі могуць па трупах тупаць, перабіраючыся з грамадскіх задворкаў на пляц формы.

Мы ішлі моўчкі. Перад Пучковай хатай я не стрываў, злосна спыніў Колю, сказаў: «Не нам з табою аб гэтае гаўно рукі брыдзіць. Няхай аддае кулямёт і ідзе з вачэй пад дзіч матары. Удаваць там не было патрэбы, усе сабакі ў вёсцы ведалі, з якіх хат пайшлі мужчыны ў партызаны».

Коля выбухнуў на мяне: «Ты не мяшайся. Гэта маё дзела. І кулямёт аддасць і галаву ў прыдачу. Адпусці яго, то ў гарнізон чмыхне і будзе далей з паліцаямі нас забіваць. Гэта мая бяда, што з ім рабіць».

— За локаць потым будзеш кусаць сябе...

— Не лезь, — кажу, то мая бяда, мая маці!

Коля прапусціў мяне першым у хату Пучкоў. Першай кінулася мне ў вочы цётка Поля. «Ай! — усклікнула яна, пазнаўшы мяне. — Валодзя!»

Я падышоў да яе, павітаўся. У хаце было цемнавата: вокны засланялі вазоны расцвіўшай пеларгоніі. Падышлі да мяне Маня з нявесткаю. На тварах у іх быў страх і зычлівасць.

Коля ж адразу неяк напаў позіркам на Ціхана, выпараў яго з запечку. І рубам напіраў: «Пойдзем, пагаворым! Дзело ёсць...»

А Ціхан выкручваўся: «Тут гавары, што за дзело, тут усе свае...»

— Кулямёт нам трэба. Нарэшце аддасі, гад.

Коля схапіў яго за шыварат і стаў выпіхаць у кухню. Паднялася валтузня. Я памкнуўся памагчы выправадзіць Ціхана з хаты, але цётка Поля праявіла характар.

— Ты куды гэто! Стой, кажу! Ні з места! — І ўчапілася за мяне. Да яе падскочылі Маня з нявесткай, схапілі мяне за рукі і ўтраіх улажылі папярок ложка. Я шаматаўся, каб вырвацца, але трымалі жанкі, як абцугамі. І сорам было біцца з жанчынамі. Ціхан крычаў нема: «Не пайду! Не пайду!»

У адказ ля кухонных дзвярэй бухнуў стрэл, жанчыны атарапелі, і я вырваўся з іх рук. Глянуў: на падлозе ляжаў Ціхан, а над ім сагнуўся Перавоз з наганам. Адхінуў каўнер і ва ўпор стрэліў яшчэ раз у патыліцу. Той і не дрыгнуў нагамі.

— Пайшлі, — як не сваім голасам выкрыкнуў Коля.

— А боо!... Што ж ты нарабіў нам. За што ты нам? — галямантавала цётка Поля наўздагон Перавозу.

— Сабаку сабачая смерць! — кінуў ён злосна ад парога. Стаў, потым падскочыў да мяне, ухапіў за руку і павалок з хаты пад лямант кабет. Мяне муціла, цягнула на рвоту. Каб не зблявацца ў хаце, я, закрыўшы рот, выскачыў на двор.

На душы было пагана. «Божа, — хацелася крыкнуць, да чаго нас даводзіць гэтая цёмная вайна!»

— Пойдзем цяпер закажам маці труну... Пахаваць жа трэба... Там то і хаваць няма чаго. Жменя касцей ды вуголля. Але трэба палюдску.

Я пачуў тут першую кволую нотку апамятання, за якой пачынаецца раскаянне. Рабілася шкада Колі, якога лёс выкарыстаў для сляпой страшнай помсты.

Не прынясе Колю супакоення помста, хоць яна і была справядлівай, прыбавіць яшчэ цяжару на сэрцы. Ды не аднаму яму. Як мне будзе на вочы паказацца радні? І лавіў сябе на пачуцці ўдзячнасці цётцы Полі, сястры Мані і іхняй нявестцы, што аблажылі мяне, не далі ўпэцкацца ў тую кроў...

Так яно і сталася: помста множыла помсту. Я ачнуўся ад галюцынацый...

Разрыўною ці асколкамі ад міны штосьці ўдарыла ніжэй цемя, знесла з галавы каўпак, і штосьці цякло з валасоў, сляпіла левае вока. Ачнуўся і дапоўз да каровіных сцежак. Азірнуўся. На ўзлесках за мною беглі чорныя крумкачы. Страху не было. З пісталета я прабіваў карабок запалак на адлегласці пяцьдзесят крокаў, а тут мішэнню было варанне. Залягла варожая пагоня. Я адпоўз убок і натрапіў на Кольку Перавоза, як бы спячага. Толькі з-за вуха па шчацэ сцёк струменьчык крыві. Я патрос яго. Коля быў мёртвы. А пагоня зноў адкрыла па ўзлеску агонь.

Магазін у маім ТТ пусцеў, паспрабаваў я перазарадзіць, не выйшла, рука мая не мела сілы, толькі пырскала крывёю з артэрыі. «Як жа так, не пакінуў сабе апошняга патрона?» Успомніў: ёсць жа другая граната. Падняўся і, хістаючыся, пасунуў у гушчар, валочачы нагу і пакідаючы на снезе крывавы след. Раптам пачуў перад сабою хруст ільдзінак. «Забеглі наперад, адрэзалі выхад...» — падумалася неяк абыякава, вяла.

Я стаў за густую елку, заціснуўшы між каленяў ручную гранату, паставіў на баявы ўзвод, запхнуў узрывацель. Засталося толькі страхануць яе, як доктараў градуснік, і, паднёўшы да скроні, сунуць у абдымкі праціўніка, каб і той загінуў за кампанію, як у Міцкевічавай «Альпугары» рабіў той абаронца Гранады, правадыр арабаў Альманзор, здаючыся ў палон іспанцам: абнімаў і цалаваў ворагаў, гяураў, а паміраючы, у іх на вачах, рагатаў зларадна: «Я заразіў вас чумою, глядзіце на мае пакуты, вы гэтак будзеце здыхаць».

Я не збіраўся гаварыць карнікам пропаведзі — загаворыць граната ў маёй руцэ роўна цераз дзве секунды пасля таго, як пстрыкне дэтанатар. Я паспею зрабіць усяго чатыры крокі, а мо і тры, бо нага не слухаецца, адзеравянела. Не чакаў я асалоды ад гульні з ворагам у «нічыю», чакаў палёгкі ад таго, што пароўну падзялю лёс з загінуўшымі сябрамі, памру дастойна. Пераможа справядлівасць.

Услухаўшыся, я ўлавіў, што той нехта мае няроўны крок, накульгвае. «Што за ліха?» — прабегла думка ў галаве. «Кульгаючых у карнікі не бяруць». Я ціха вызірнуў з-за елкі і замест немца ці паліцая ўбачыў Федзю Жука, які пасоўваўся да мяне, валочачы нагу. Я выйшаў, ён стаў, вытрашчыў вочы, спытаў:

— Куды ты?

— На гасцінец. А ты вось чаго ідзеш назад?

— Назад? Не можа быць...

— Зараз прыбягуць, пакажуць дарогу. Пайшлі!...

Федзю параніла ў нагу. Кроў цякла з пяты цераз прастрэлены заднік у боце. Праўда, не так моцна, як у мяне цераз халяву. Федзя быў дужэйшы, запрапанаваў мне абаперціся на яго, і павалок у кірунку гасцінца. Валакліся мы доўга, спыняліся знясіленыя, зноў ішлі, здавалася, не будзе канца нашаму пакутнаму шляху. І што неспадзявана: чым далей адыходзілі ад поля бою, тым адчувальней пачынаў выпаўзаць са шчылін падсвядомасці страх, абуджаўся інстынкт выжывання. Сорамна было за гэтыя наплывы самалюбнай баязлівасці.

Нарэшце паказаўся гасцінец. Мы высунуліся асцярожна, ведаючы, што карнікі звычайна абкладваюць галоўныя дарогі кулямётнымі гнёздамі. Мы пастаялі, украдкам выглядаючы з-за дрэў, ці няма часам паўз гасцінца засады. І трэба ж такому здарыцца: метраў за трыста ад нас на дарогу выйшаў Косця з дзесяцізарадкай напагатове і з мінай у рукзаку за плячыма. Нам не трэба было яго клікаць. Ён азіраўся то ў адзін, то ў другі бок па-воўчы і ўбачыў нас, пазнаў, махнуў рукою, вярнуўся ў лес і ўскрайкам прыбег да нас. Ён быў цэлы. Стаў нашым павадыром. мы, раненыя, абхапілі яго шыю рукамі і павіслі на плячах, а ён, дужы, як бык, валок нас цераз гасцінец подбегам.

Наперадзе чакала яшчэ адно выпрабаванне: на лясной ледзь прыкметнай дарожцы, па якой Косця адводзіў нас ад гасцінца, пачуўся лязгат калёс на «жалезным хаду». Падумалася: сунецца новы ланцуг акружэння, станкавы кулямёт на нейкай брычцы вязуць. Мы залеглі, гатовыя да апошняга смяротнага бою. Косця зарадзіў маю СВТ і ў пісталет уставіў свой поўны магазін: «Хопіць табе чым адбіцца». Потым запхнуў мяне пад густую яліну, ніжнія лапы якой слаліся па зямлі. Федзя ўмасціўся пад суседняй елкай, а Косця падаўся наперад па дарозе, каб прыняць на сябе першы агнявы ўдар, адвесці ўвагу ворагаў ад нас, недарэкаў. Мы ляжалі, затаіўшы дыханне, чакалі стралянін. Лязгат калёс набліжаўся... Раптам пачулі воклік: «Стой!» Воз спыніўся.

— Падцялежвай, ды абернем гной. Трэ раненых забраць. А сваё дабро потым прыедзеш і адвязеш на поле.

Косця падбег, дапамог нам выбрацца з-пад елак, вёў да воза. Гаспадар, убачыўшы акрываўленых пасажыраў, спалохаўся, памкнуўся ставіць стаўмя пасланыя на вузгалоўях адна на адну восланкі. Косця спыніў яго, пасадзіў нас на дошкі, як эканомаў на лінейку, а сам пайшоў паперадзе, у разведцы. Воз калаціла па замерзлай груздзе, кроў пацякла з нас цурком. Косця распытаў гаспадара, ці бяспечная дарога на Пясочную. Той сказаў, што кожны дзень зранку прыходзіць паліцыя, зганяе людзей чыніць мост цераз Вушу, узарваны партызанамі. Выходзіла, што бітая дарога была для нас закрыта. Косця пастанавіў рызыкнуць, перайсці Вушу па лёдзе, які, пакуль замаразак, даволі добра трымаўся берагоў, толькі пасярэдзіне бруілі пражогі.

Гаспадар, натуральна, хацеў як мага хутчэй збавіцца ад нас. Баяўся нарвацца на паліцыю, дык сам, пад'ехаўшы да вузкага месца, перакінуў восланку з ільдзіны на льдзіну ды прайшоў, нават патупаў — трымала. Потым павалакліся па чарзе мы, раненыя, за намі — Косця. Ён, выскачыўшы на той бераг, адразу пусціўся бягом на самы блізкі хутар, каб запрэгчы для нас каня. Мы з Федзем зноў папляліся ўдвух. Сілы ўжо пакінулі нас, муцілася ў галовах, хістала. Добра, што хутка вярнуўся Косця з хутара і павёў нас, як п'яных, цераз зашэрхлую лагчыну. Усё цяпер залежала ад хуткасці. Калі паліцыя прыкмеціць нас, то па гэтай чыстаполіцы нам жывымі не прабрацца.

У хаце аказаліся добрыя людзі: маладая жанчына, дачка ці нявестка гаспадара, хуценька ўнесла ў хату з каморы сувой кужэльнага палатна, паклала на стол, адрэзала кавалак, што быў зверху, адлажыла ўбок, потым адрэзала метра паўтара чысценькага і, раскроіўшы ўздоўж на чатыры паласы, забінтавала нам раны. Косця вывеў мяне да воза першага. Я быў, як шасцель, напханы пацярухай. «Трымайся за цапок», — сказаў ён, здымаючы мае чэпкія рукі са сваіх плячэй, але ногі не слухаліся мяне, я ехаў уніз. Тады Косця спрытна падхапіў мяне пад цяглі і пад пахі, падняў на руках над драбінаю ды шуснуў у салому. Мне стала так лёгка-лёгка, болі сціхлі і свет паплыў у зорную цішыню. Я страціў прытомнасць, не памятаю, як вёз нас Кастусь на заставу. Толькі потым расказвалі людзі, што перад хатай Коржыка ў Вобрыне з воза выпаў жмут акрываўленай кудзелі, а нехта дасужы ўсё ж дагледзеў, што ў возе ляжалі двое, нават пазнаў мяне па твары і сказаў маёй сястры, што павезлі мяне мёртвага, мо таму, што быў я без шапкі і са зліплымі

ад крыві валасамі. Тая кінулася бегчы на заставу. Дабегла і там партызаны запэўнілі, што прывезлі яе брата яшчэ жывога.

Перад заставай я сапраўды ачнуўся, прыйшоў да памяці ад страляніны. Гэта Косця лупіў з дзесяцізарадкі па страсе будынка, у якім тулілася застава. Так выклікаў лодку, якую хлопцы не спяшаліся падаваць. Пазналі Косцеў почырк, і мігам перавезлі раненых, запраглі свайго каня ў воз, павезлі нас у атрад, у зямлянку.

Паліцэйскія марадзёры, як мы даведаліся ад разведкі, кінуліся тады абдзіраць трупы партызан, размозджваць чарапы прыкладамі. Немец, камандзір батальёна, спыніў глумленне. Выстраіў усіх паліцаяў на полі і сказаў: «Вучыцеся ў іх, як трэба біцца. Яны аддалі жыццё дарагою цаной. Гэта сапраўдныя салдаты». І загадаў пахаваць, як належала салдатам. Паліцаі даручылі зрабіць паховіны хутаранцам. Праз пару тыдняў, калі спала разводдзе на Нёмане, нашы прыехалі, адкапалі і забралі трупы. Усе былі абадраны да бялізны. Пахавалі іх на партызанскім могільніку ў Сіняўскай Слабадзе з развітальнымі залпамі.

З ліку тых смельчакоў, што пайшлі з-пад Лядак на Браносава, каб адрэзаць зваротны шлях карнікам у гарнізон, Міша Жураўлёў і Саша Бянецкі загінулі ў першы дзень блакады. Пра Жураўлёва я ўжо гаварыў, а пра Бянецкага і яго малодшага брата расказаў мне Лявон Уласевіч:

«Шурка Бянецкі застрэліўся на Вялікаслабодскіх хутарах, а брат яго, Толік, той быў цяжка ранены і непрытомны. То яго паліцаі ўзялі, прывезлі сюды, у Лядкі, пад школу, дзе цяпер помнік стаіць і кінулі перад хатаю яго дзядзькі. І ён ляжаў, рукі звязаны калючым дротам, усе людзі бачылі. Паліцаі ўсё лупілі яго нагамі, ботамі кешкалі. А немец ішоў, дык кінуў яму хлеба, ды гэтак во, нагою падсунуў пад дрот, каб не бачылі паліцаі. І пайшоў сам, а Толік ротам дацягнуўся да хлеба і стаў есці хлеб. Двое сутак ляжаў. Яны яго не дастрэлілі тут, а завезлі паміж Лядак і Буковічаў, там сцежка такая ідзе, паміж палямі лядзецкімі і буковіцкімі. Там яны яго кінулі, на сцежцы, ды каламі прыкончылі, турэцкія паліцаі».

Два ўзводы — Косці Балабановіча і мой — трапілі на світанні пад танкі карнікаў. Камбрыг Севярын Ключко зняў нас з камандзіраў за крытыку яго няўдалых салдафонскіх баёў за гарнізоны, дзе нашы страты былі большымі, чым у праціўніка. Камбрыг паслаў нас на чале дыверсійных груп на чыгунку. Пакінутыя без камандзіраў, хлопцы ратаваліся, як хто мог. Залягалі ў жыце або бульбе, некаторыя спускаліся ў калодзежы. Страты былі цяжкія. Самадурны камбрыг вярнуў нас на ранейшыя пасады. Але мёртвых ніхто не мог вярнуць.

Федзя Жук змяніў на пасадзе намесніка камандзіра Першага Камсамольскага атрада па разведцы Пятра Сачука, забітага ў баі з карнікамі ў вёсцы Градкі вясною 1944 года. Федзя меў шырокія знаёмствы і сувязі, у тым ліку ў раённым гарнізоне Мір, дзе працаваў рабочым на бровары яго брат. На жаль, і яго жыццё неўзабаве абарвалася праз лішнюю як для разведчыка даверлівасць. У тую пару многія прадбачлівыя служачыя акупацыйных устаноў шукалі сувязей з партызанамі, нават паліцэйскія, не запэцканыя ў нявінную кроў, перабягалі да нас. Вось і Федзя атрымаў ад даволі важных раённых тузоў прапанову аб сустрэчы і супрацоўніцтва. Ён выехаў у назначаны пункт, але субяседнікі не з'явіліся. Праз колькі дзён яны адазваліся зноў і назначылі новую дату. Федзя паехаў сам, пакінуўшы на ўзлеску разведчыкаў. На хутары каля яго аказалася моцная варожая засада. Федзя загінуў ад першага залпа 14 мая 1944 на хутары каля вёскі Ініца.

Акупацыйныя фюрэры і калабаранты рваліся замяніць ранейшых аматараў панавання. Сяляне ж хацелі быць самі сабе панамі. Тут прычына прычын партызанскага руху. З усіх відаў улад, якія мяняліся на гэтых землях, як лісце на дрэвах, узварушыць патрыятычныя пачуцці, абудзіць уласную годнасць змагла адна толькі савецкая. Зрэшты, і не яна сама па сабе, а яе вайна супраць захопнікаў. Так гартавалася наша нацыя.

Існавала даўняя варажнеча паміж чырвоным канцом Лядак і багатымі ды ганарлівымі турчакамі, як-ніяк местачкоўцамі, а не мужыкамі. Местачкоўцы прасцей прыліпалі да ўлад, чым вяскоўцы, спакушаліся і ў акупацыю, што калі не самім, то дзецям іхнім удасца заняць нейкія пасады, стаць калі не панамі, дык хоць падпанкамі. Пасля таго разбою, які адбыўся 13 студзеня, было ясна: варажнеча зменіцца крывавай помстай, якой свет не бачыў. Прадчуванне навалы нянавісці і помсты прыгнятала. Прыпыніць варажнечу, з аднаго боку, эміграцыя на Захад тых, чые рукі былі ў нявіннай крыві, з другога боку, «прымірыць» нацыяналізацыя зямельнай уласнасці, ураўненне маёмасці, калектывізацыя. Але найперш наяўнасць роўных перспектыў для моладзі, роўныя мажлівасці вучыцца, расці, выходзіць у людзі. За сорак пяць гадоў, які б ён ні быў сацыялізм, адносіны ўвайшлі ў чалавечую норму. Ці захавае мір новае пакаленне? Нашчадкі сёння часам выдаюцца больш агрэсіўнымі за бацькоў, адраджаецца рынкавая агрэсіўная прадпрымальнасць, расце злачыннасць. Можа, знойдуць упынак нянавісці законы і норавы дэмакратычнай дзяржавы?

# Леанід ШЫРЫН



14 траўня на 65-м годзе жыцця пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр дзіцячы пісьменнік Леанід Шырын.

Леанід Іванавіч Шырын нарадзіўся 1 студзеня 1930 года ў вёсцы Працавічы Слуцкага раёна Мінскай вобласці. У 1948 годзе скончыў сямігодку і паступіў у Слуцкае педагагічнае вучылішча, адначасова працаваў мастаком, настаўнікам малявання і чарчэння. Пасля заканчэння ў 1962 годзе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта працаваў дырэктарам Жабінскай васьмігадовай школы, загадчыкам Старобінскага аддзела народнай адукацыі, дырэктарам Жабінскай і Мяцявіцкай сярэдніх школ.

Узнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства асветы Беларусі.

Стала пачаў займацца літаратурнай працай у канцы шасцідзесятых гадоў. Яго вершы друкаваліся ў часопісах «Бярозка», «Вясёлка», «Работніца і сялянка» і інш. Першая кніга паэзіі «Мы дзеці шахцёраў» пабачыла свет у 1978 г. Настаўнік па адукацыі і прызванні Леанід Шырын дакладна ведаў свайго чытача: дашкольніка і малодшага школьніка, тонка адчуваў тое, што яму трэба і што яго цікавіць. У розныя гады выйшлі яго кнігі для дзяцей «Песні ручая», «Хутка лета», ён быў сааўтарам кніг «Калі ветрык спачувае» і «Асцюкі за каўняром». Ім напісаны і пастаўлены на Беларускім тэлебачанні некалькі дзесяткаў сцэнарыяў для дзіцячых перадач «Калыханка».

Прымаў самы актыўны ўдзел у складанні кнігі «Памяць» па Салігорскім раёне.

Светлая памяць пра Леаніда Іванавіча Шырына, паэта, прапагандыста беларускай літаратуры, шчырага чалавека назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**

# СВЕТЛАЯ ПАМЯЦЬ

Цяжка думаць аб тым, што ўжо няма нашага добрага, чулага Леаніда Іванавіча Шырына. Ён дарыў людзям цеплыню сваёй душы. І лісты з Салігорска, і яго шчыры голас не раз сагравалі мяне. Засталіся светлыя кніжкі для дзяцей, зерняткі дабра і праўды, якія сеяў Леанід Шырын — чалавек, паэт, настаўнік.

І яшчэ — незакончаная кніга памяці землякоў-салігорцаў. Дзеля стварэння гэтай кнігі ён жыў у апошнія гады ў мясцінах, памечаных знакам чарнобыльскай бяды.

Хай пухам яму будзе беларуская зямля, якую ён шчыра любіў сваім адданым сэрцам!

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

Пошта

# ЦЭНТР СКАРЫНАЗНАЎСТВА? А ЧАМУ Б І НЕ?

Споўніўся год з дня афіцыйнага адкрыцця музея-лабараторыі Францішка Скарыны Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны. Але і на сённяшні дзень ён даволі сціплы.

У экспазіцыі музея-лабараторыі прадстаўлены творы беларускага выяўленчага мастацтва і навуковая літаратура пра Скарыну. Гэта жывапіс, графіка і скульптура вядомых мастакоў М. Басалыгі, Л. Шчамялёва, А. Зайцава, А. Глебава, М. Несцярэўскага, В. Шаранговіча, А. Салькова, Ю. Гудзіновіча і іншых. Няблага выглядае і калекцыя твораў медальернага мастацтва. Аўтарамі навуковых манаграфій, зборнікаў артыкулаў і іншых даследаванняў, прадстаўленых тут, з'яўляюцца беларускія, рускія, украінскія, літоўскія, а таксама беларускія эміграцкія вучоныя-скарыназнаўцы. Цэнтральнае месца ў кніжнай экспазіцыі, безумоўна, займаюць энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час» і факсімільнае трохтомнае выданне Скарынавай «Бібліі».

Супрацоўнікі музея-лабараторыі збіраюць і сістэматызуюць разнастайныя матэрыялы і экспанаты. У адзін хрэстаматыйны зборнік, які знаходзіцца ўжо ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», сабраны ўсе вершы і ўрыўкі з паэм пра Скарыну. Завяршаецца стварэнне комплекснай навуковай інфармацыйна-бібліяграфічнай картатэкі па ўсіх вядомых сучасных аспектах скарыназнаўства. З удзелам супрацоўнікаў рыхтуецца новы, папулярны энцыклапедычны даведнік пра Ф. Скарыну. У юбілейныя для універсітэта дні па ініцыятыве супрацоўнікаў і пры іх непасрэдным удзеле праведзена Першая рэспубліканская навуковая канферэнцыя «Францішак Скарына і наш час». Пастаянна праводзім экскурсіі і гутаркі з групамі вучняў, навучэнцаў і студэнтаў розных навучальных устаноў горада, з індывідуальнымі наведвальнікамі, у тым ліку і з замежнымі. Наладжваюцца сувязі і абмен літаратурай з замежнымі скарынаўскімі ўстановамі.

Калектыў музея-лабараторыі рыхтуецца да перакладу на сучасную беларускую мову ўсіх старых і новых даследаванняў пра Скарыну на замежных і суседскіх мовах, твораў Скарыны, і ў першую чаргу яго «Бібліі». З гэтай ініцыятывай мы выйшлі некалькі раней, але толькі ў апошні час яна знайшла прыхільнікаў. І першым з іх аказаўся, што лічу заканамерным, прафесар У. В. Анічэнка. Гэта будзе зроблена для таго, каб як мага больш людзей лепш пазнаёміліся з багацейшай духоўнай спадчынай першадрукара, каб усе жадаючыя маглі лёгка вывучаць і засвойваць яе, лепш высвятліць філасофскія, эстэтычныя, гуманістычныя, грамадска-палітычныя і патрыятычныя погляды, усю веліч грамадзянскага подзвігу Ф. Скарыны.

Але гэта праца стрымліваецца адсутнасцю неабходных памяшканняў, фінансавання, штатаў, сучаснай аўдыё-, відэатэхнікі, ксеракса, персанальнага камп'ютэра. Ужо даўно наспела неабходнасць стварыць экспазіцыю не пад назвай «Вобраз Ф. Скарыны ў сучасным беларускім выяўленчым мастацтве», што мы маем зараз, а такую, якая паказвала б жыццёвы і творчы шлях Скарыны. Патрэбен макет друкарскага станка, касцюмы некаторых прадстаўнікоў сацыяльных пластоў грамадства, сярод якіх жыў, вучыўся і працаваў Скарына ў Полацку, Вільні, Кракаве, Празе і Падуі. Гэта дазволіць змястоўна, цікава, вобразна і прыцягальна праводзіць заняткі, экскурсіі і гутаркі па прапагандзе вялікай культурнай спадчыны нашага славутага першадрукара. Расшырэнне і паглыбленне культурна-асветнай і навукова-вучэбнай дзейнасці музея-лабараторыі, арыентацыя яе на займальнасць, цікавасць і разнастайнасць прыцягне да асобы Ф. Скарыны непараўнальна больш вучнёўскай і студэнцкай моладзі. З часам мы зможам арганізоўваць і праводзіць агульнауніверсітэцкія і нават агульнагарадскія цікавыя мерапрыемствы (напрыклад, гарадское свята «Дзень Скарыны», святкаванне юбілеяў дакладна датаваных кніг Скарыны, выстаўкі мастацкіх твораў і інш.). Тады не сорамна будзе ўключыць музей-лабараторыю ў адзін з турыстычных маршрутаў.

Акрамя таго, гэта створыць матэрыяльна-тэхнічную і навуковую базу для ператварэння музея-лабараторыі ў Сусветны цэнтр скарыназнаўства. Пры гэтым, на маю думку, «жыццёвая прастора» Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь не будзе звужана, бо ў яго вельмі шырокія задачы — уся нацыянальная культура, асвета і навука на працягу ўсёй гісторыі беларускай нацыі. Скарыназнаўства сюды ўваходзіць вельмі маленькім структурным звяном.

Беларускі народ можа і павінен аддаць даніну павагі свайму першаму самаму вялікаму сыну, які праславіў яго навекі і на ўвесь свет, які так многа зрабіў для вываду свайго народа ў разрад перадавых. Чым больш мы і большая маса народа даведваецца пра Скарыну, чым больш бачым яго рашаючую ролю ў нашым сучасным нацыянальным адраджэнні, тым больш бачыцца неабходнасць стварэння Сусветнага цэнтра скарыназнаўства. Гэты цэнтр зараз — справа нацыянальнага прэстыжу беларускага народа, яго маральны абавязак перад сваім вялікім сынам.

**К. УСОВІЧ,**
**загадчык музея-лабараторыі Ф. Скарыны ГДУ імя Ф. Скарыны**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Браніславу Спрынчану з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск,**
**вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі *332-461***
**намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985***
**аддзелы:**
**публіцыстыкі 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі *331-985***
**літаратурнага жыцця *332-462***
**крытыкі і бібліяграфіі *332-204***
**паэзіі і прозы *332-204***
**музыкі *332-153***
**тэатра, кіно і тэлебачання *332-153***
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462***
**навін *332-462***
**мастацкага афармлення *332-204***
**фотакарэспандэнт *332-462***
**бухгалтэрыя *268-640***



**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня "Беларускі Дом друку"**
**Індэкс 63856. Наклад 17.000.**
**Нумар падпісаны 26.05.1994 г.**

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

